


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

21 СТУДЗЕНЯ 2000г. № 3/4035 КОШТ 65 РУБ.



ЗАЦЕМКІ З ЛЕВАЙ КІШЭНІ

***Леаніда ГАЛУБОВІЧА***

**5**

"ДЛЯ ЎСІХ, ХТО КАХАЕ..."

***Алесь МАРЦІНОВІЧ: "Слаўся, Марыя!" — назваў аповесць Іван Шамякін, але да месца і іншая, што вынікае непасрэдна з гэтай: "Слаўся, Каханне!" Каханне — гэтак праўдзіва, глыбока і пераканаўча расказанае, як і можа сказаць пра яго чалавек, які не толькі пісьменніцкім талентам валодае, а і іншым, у нечым нават і больш рэдкім: умець па-сапраўднаму кахаць".***

**6—7**

ЖЫЦЦЁ, ЯК ДЗІЎНАЕ КІНО...

***Вершы Навума ГАЛЬПЯРОВІЧА***

**8**

"ТЭАТРАЛЬНЫЯ ЭКСПЕРЫМЕНТЫ АДЫХОДЗЯЧАГА СТАГОДДЗЯ"

***Вераніка ЯРМАЛІНСКАЯ: "Адсутнасць дакладнай рэжысёрскай задумы альбо нявыяўленасць яе ў спектаклі — стала своеасаблівай тэндэнцыяй у беларускім сцэнічным мастацтве апошняга дзесяцігоддзя. На маю думку, гэта адбываецца таму, што многія рэжысёры, празмерна захапляючыся пабудовай знешняй формы спектакля, забываюцца пры гэтым на саму п'есу".***

**10—11**

ШУКАЎ СВАЮ ДАРОГУ

***Леанід МАРАКОЎ пра жыццё і творчасць Уладзіміра ХАДЫКІ***

**13—15**




# Перамог Тарэра...



У свеце беларускага балета адбылася важная падзея — прысуджэнне прэміі "Філіп Морыс-Дэбют", заснаванай прадстаўніцтвам кампаніі "Філіп Морыс" на Беларусі. Прэмія ўручаецца маладому артысту за канкрэтную ролю і з'яўляецца ацэнкай яго дэбюту ў вялікім балеце. Падобная падзея не абмяжоўваецца толькі Беларуссю і беларускім балетам. Першы раз прэмія "Філіп Морыс" за лепшае выступленне ў балетным спектаклі была ўручана ў 1977 годзе ў Фінляндыі. З таго часу яна зрабілася прэстыжнай адзнакай балетнага таленту ва ўсім свеце, яе штогод уручаюць у Швецыі, Славакіі, Венгрыі, Чэхіі, з 1997 года — у Беларусі і Расіі. Першай з беларускіх артыстаў прэмію "Філіп Морыс" атрымала Кацярына Фадзеева. За 1998 год лаўрэатам стаў Руслан Мінін. Сёлета па выніках спектакляў сезона было пяць прэтэндэнтаў на прэмію: Вольга Гайко за партыю Феі ў балеце "Пацалунак Феі", Ігар Сядзько за партыю Пака ў балеце "Сон у летнюю ноч", Святлана Пясецкая за партыю Нявесты ў балеце "Пацалунак Феі", Аляксей Турко за партыю Тарэра ў "Кармэн-сюіце" і Ігар Артамонаў за выкананне партыі Дземетрыуса ў балеце "Сон у летнюю ноч". Уручэнне адбылося 16 студзеня ў Нацыянальным акадэмічным вялікім тэатры оперы і балета. Пераможцам, імя якога вызначаецца журы непасрэдна перад цырымоніяй уручэння, быў названы Аляксей Турко, выпускнік Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа, які толькі два гады працуе ў трупе тэатра. Усе астатнія прэтэндэнты атрымалі "суцяшальныя" прэміі — па 500 долараў, у той час як пераможца — 5000 долараў. Вядома, не так многа па сусветных маштабах, але ў параўнанні з заработнай платай артыстаў — досыць істотная сума.

Пасля цырымоніі ўручэння гледачы змаглі пабачыць спектаклі з удзелам лаўрэатаў прэміі "Філіп Морыс-Дэбют" — "Сон у летнюю ноч" і "Кармэн-сюіта".

**Н. К.**

*На здымках: сцэна з балета "Сон у летнюю ноч"; за кулісамі лаўрэат прэміі "Філіп Морыс" Аляксей ТУРКО; прадстаўнік кампаніі "Філіп Морыс" Ігар АЛЬХІМОВІЧ уручае Аляксею ТУРКО галоўны прыз.*

*Фота Вячаслава ЦУРАНАВА*





## КОЛА ДЗЁН

***Што б там ні гаварылі пра парадаксальнасць і непрадказальнасць часу, асабліва на стыку стагоддзяў і тысячагоддзяў, аднак жа, напэўна, куды больш парадаксальная і непрадказальная ўжо сама па сабе наша вялікая ўсходняя суседка. Згадаем дзіўныя поспехі расійскіх генералаў у канцы мінулага года ў Чачні, а найперш — нечаканую, эфектную, казачна-прыгожую адстаўку Б. Ельцына ў навагоднюю ноч. Згадаем трыумф правых сіл і паражэнне зюганаўцаў на выбарах у Дзяржаўную Думу. І вось — першае пасяджэнне гэтай нанова абранай Думы, і зноў — невераготны, нечаканы, невытлумачальны парадокс: пуцінскае "Адзінства", якое гэтак неспадзявана выйграла выбары, раптам — хто б мог і дапусціць такое?! — зблакавалася з камуністамі і зноў абрала на пасаду спікера Г. Селязнёва! Гэты думскі выбрык "Адзінства" быў настолькі нечаканым, што нават самыя бывалыя аглядальнікі і палітолагі на нейкі час праглынулі языкі...***

***Ну, ды гэта там, на Усходзе, "на бескрайних российских просторах". А ў нас — ціша ды лагода. І аніякіх змен-перамен. Усё чысцютка тое ж, што і месяц, і год, і два назад. І праблемы тыя ж самыя, і гаворкі круцяцца ўсё вакол аднаго і таго ж: заробкі, пенсіі, цэны...***

***А што да нашай апазіцыі, дык, скажам, БТ не можа даўмецца, ёсць яна наогул ці няма, і апошняе гучыць, здаецца, куды больш сцвярджальна...***

### ГРАМАДЗЯНЕ ТЫДНЯ

Скупыя радкі статыстыкі паведамляюць: за апошнія тры гады грамадзянства Рэспублікі Беларусь набылі каля 50 тысяч чалавек, а выйшлі з нашага грамадзянства — 1550 чалавек. Суадносіна спараджае думку аб тым, што ў людзей былі падставы спадзявацца на тое, што акурат у Беларусі іх правы будуць гарантаваны, а жыццё, здароўе і маёмасць — абаронены. Але ж нам, спаконвечным жыхарам гэтай зямлі, думаецца і пра іншае. Ну хоць бы пра тое, што, як гаворыць прымаўка, там добра, дзе нас няма...

### ПІСЬМО ТЫДНЯ

Прэм'ер-міністр С. Лінг сваім пісьмом (у адказ на зварот ТБМ у Канстытуцыйны суд) абавязаў кіраўнікоў рэспубліканскіх органаў кіравання, аб'яднанняў, падначаленых ураду, аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама выконваць заканадаўства аб ужыванні ў афіцыйнай перапісцы і на бланках двух дзяржаўных моў. Аднак пакуль што размова ідзе адно пра афармленне бланкаў афіцыйных папер, бо апошнім часам наша мова была выціснута і адсюль: дзяржаўныя бланкі сталі рускамоўнымі...

### ПРАРОК ТЫДНЯ

Газета "Звязда" 18 студзеня г.г. надрукавала нататку У. Максімава з Віцебска пад назвай "Ці ёсць прарок у Айчыне сваёй?" У ёй гаворыцца пра колішняга жыхара Глыбокага П. Глаўніцкага, які нібыта валодаў дарам Настрадамуса. У прыватнасці, за некалькі гадоў да вайны ён гаварыў, што з'явіцца другі Напалеон, які з арміяй пойдзе на Маскву, і ў той час шмат яўрэяў загіне... Яшчэ больш уражальны іншы прагноз глыбоцкага "прарока". Неўзабаве пасля вайны ён казаў, што "Беларусь будзе самастойнай краінай, але наша (яго, Глаўніцкага) пакаленне гэтага не ўбачыць. І выберуць беларусы свайго цара... Расія разляціцца на кавалкі, і ад яе застанецца сем губерняў..." Пасмяёмся над прароцтвам ці задумаемся? Га, спадарове?

### СУД ТЫДНЯ

У сераду, 19 студзеня, пачаўся суд над былым прэм'ер-міністрам М. Чыгірам, які абвінавачваецца ў халатнасці, перавышэнні паўнамоцтваў і злоўжыванні службовым становішчам. 19-га было Вадохрышча, і тое, што якраз у гэты дзень пачаўся суд, ужо бянтэжыць. У дадатак да гэтага, падсудны не прызнае сябе вінаватым і лічыць, што працэс над ім носіць палітычны характар. Што ж, суд вызначыць, чыя праўда. Як выявіў гэта ў час нядаўніх працэсаў над В. Старавойтавым і В. Лявонавым...

### КОМПЛЕКС ТЫДНЯ

Кіраўнік краіны ўхваліў план фарміравання забудовы ў Мінску алімпійскага комплексу. Гэты "спартыўны квартал" размесціцца ў межах вуліц Ціміразева, Вясёлкавай, Нарачанскай і праспекта Машэрава. У яго ўвойдуць комплекс будынкаў Акадэміі фізвыхавання і спорту, штаб-кватэра НАК з прэс-цэнтрам, канферэнц-залай, музеем алімпійскай славы і гасцініцай, універсальны канцэртна-спартыўны комплекс, Алімпійская вёска з дзіцячым садком, школай-гімназіяй са спартыўным ухілам, дзіцячай палiклінікай і гандлёва-бытавым цэнтрам. За кожным аб'ектам ужо замацаваны заказчык. Увесь аб'ём работ разлічаны на два гады. Ну хто пасля гэтага пасмее сказаць, што Беларусь — бедная краіна?!

### СЯМ'Я ТЫДНЯ

Як стала вядома, у самай шматдзетнай беларускай сям'і Прыходзькаў з вёскі Высокае Кармянскага раёна нарадзілася 16-е дзіця — хлопчык. Цяпер у шчаслівых мамы і таты 8 дачушак і 8 сынкоў. Брава, мама Зінаіда Васільеўна! На фоне нашай мінусовай дэмаграфічнай сітуацыі ўжо сам напамін аб тым, што ў нас ёсць і такія сем'і (сям'я), — промнік святла ў цёмным царстве...

### АДМОВА ТЫДНЯ

Цэнтрвыбаркам Расіі адмовіў ініцыятарам (на чале з дэпутатам Думы М. Ганчаром) правядзення на тэрыторыі РФ рэферэндуму па пытанні: "Ці лічыце вы неабходным аб'яднанне Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь у дэмакратычную, федэратыўную, прававую дзяржаву?" Адмовіў на той падставе, што сярод сабраных подпісаў было шмат несапраўдных. А калі б яны ўсе былі сапраўдныя, рэферэндум праводзіўся б? У нас, беларусаў, пра гэта і пытацца ўжо не трэба?

### ТАБЛІЦА ТЫДНЯ

У "Белорусской газете" за 17 студзеня г.г. змешчана табліца з паказчыкамі памераў інфляцыі, сярэднемесячнага заробку і аб'ёмаў замежных інвестыцый у 1999 годзе ў Расіі, Румыніі, Украіне, Славакіі, Венгрыі, Польшчы, Славеніі, Эстоніі, Босніі-Герцагавіне, Латвіі, Чэхіі, Літве, Балгарыі і Беларусі. Дык вось, па ўзроўні інфляцыі Беларусь на першым месцы — 300 працэнтаў. Па сярэднемесячным заробку (35 долараў) мы на перадапошнім месцы — пасля нас толькі адна Боснія-Герцагавіна. Затое па аб'ёме замежных інвестыцый (45 долараў на чалавека) мы на абсалютным апошнім месцы, папераджае нас нават Украіна (1,2) і Расія (2,1 нашага паказчыка). У Літве ён большы ў 15 разоў, у Латвіі — у 20, у Чэхіі — у 28, у Славеніі — у 30, а ў Эстоніі — ажно ў 38,5 раза. Каментарыі тут наўрад ці патрэбны...

ФЕСТЫВАЛІ

# У зале было горача!

Чытач з багатай фантазіяй можа сабе гэтую "гарачыню" ўявіць, глянуўшы на фота: сапраўдны джаз "гучыць" і на здымку! Сёмы раз ладкаваўся ў Мінску міжнародны фестываль, прысвечаны гэтаму жанру. Зноў яго галоўным чыннікам і ўдзельнікам быў заслужаны калектыў краіны, Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам маэстра Міхала Фінберга. Апроч біг-бэнда аркестра, яго салістаў і новага джазавага складу, утворанага музыкантамі калектыву на чале з гітарыстам і кампазітарам Аляксандрам Каліноўскім, у праграмах удзельнічалі выбітныя госці. З Летувы (секстэт пад кіраўніцтвам Дайнюса Пулаўскаса), Расіі (лаўрэат міжнародных джазавых фестываляў, дацэнт Растоўскай кансерваторыі Віктар Бударын)... Першы ж канцэртны вечар зрабіла сапраўды святочным высакакласная і абаяльная джазавая спявачка з Германіі Паскаль фон Урабляўскі, якую вы бачыце на здымку.

**С. Б.**

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*



# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

### СУВЯЗІ АДНАЎЛЯЮЦЦА

Аднаўляюцца літаратурныя сувязі паміж беларускімі і славацкімі пісьменнікамі.

В. а. старшыні СБП Вольга Іпатава атрымала цікавы ліст ад старшыні Саюза славацкіх пісьменнікаў Яна Тужынскага. У ім ён горача дзякуе ёй за віншаванне з высокай урадавай узнагародай, якой яго ўдастоіў прэзідэнт краіны з нагоды Дня Канстытуцыі Славацкай Рэспублікі.

Ян Тужынскі, у прыватнасці, піша: "...дазвольце падзякаваць Вам ад свайго імя і ад імя самай вядомай і шматлікай пісьменніцкай арганізацыі ў Славакіі, традыцыі якой склаліся яшчэ ў 1923 годзе і ўяўляюць сабой галоўныя каштоўнасці і адметнасці славацкай літаратуры.

Вельмі даражу Вашай увагай, якую расцэньваю як важны грамадзянскі імпульс для развіцця нашага нацыянальнага пісьменства на сучасным этапе гістарычнай эвалюцыі. Прымаю яе, як знак добразычлівасці, што будзе, безумоўна, садзейнічаць агульнай аптымізацыі ўмоў стварэння арыгінальных духоўных каштоўнасцей, сугучных з агульначалавечымі пазітыўнымі тэндэнцыямі.

Дзяржаўны акт пана прэзідэнта з'явіўся вялікай падтрымкай як для мяне, творцы-літаратара, так і для далейшай высакароднай культурнай і грамадскай місіі Саюза славацкіх пісьменнікаў.

Адным з прыярытэтаў Саюза славацкіх пісьменнікаў лічу будучае супрацоўніцтва з Саюзам беларускіх пісьменнікаў. У бліжэйшы час з задавальненнем прапаную Вам праект узаемадзеяння нашых творчых арганізацый".

Такім чынам, зроблены важны крок на шляху ўзнаўлення традыцыйных літаратурных сувязей дзвюх славянскіх краін.

### УЗНАГАРОДЖАНЫ МЕДАЛЁМ ПУШКІНА

Нядаўна ў Пасольстве Расійскай Федэрацыі адбыўся прыём з нагоды ўручэння ўзнагарод прадстаўнікам беларускай культуры і літаратуры ў сувязі з юбілеем А. С. Пушкіна.

За актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні святкавання 200-годдзя з дня нараджэння вялікага рускага паэта дыпломамі і юбілейным медалём "А. С. Пушкін" узнагароджаны міністр культуры РБ А. Сасноўскі, пісьменнікі Анатоль Сульянаў — аўтар рукапісу кнігі "Мой Пушкін" і Раіса Баравікова, дырэктар Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна Н. Чуева і іншыя.

Па даручэнні Дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы і правядзенні святкавання 200-годдзя з дня нараджэння А. С. Пушкіна ўзнагароды ўручыў надзвычайны і паўнамоцны пасол Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь В. І. Далгоў.

Старшыня таварыства дружбы і культурных сувязей "Беларусь—Расія" Раіса Баравікова горача падзякавала за ўзнагароды і расказала пра тую значную работу, якую правяло таварыства па ўшанаванні генія рускай літаратуры ў нашай рэспубліцы.

**Я. ІВАНОЎ**

СПАДЧЫНА

# Дзесяць вякоў — поўдзень нацыі

Калі я параўноўваю падручнікі, па якіх вучылі беларускую гісторыю сам, з тымі, па якіх вучаць мае дзеці, дык прыемна адзначыць, што гэта ўжо не "История БССР", а "Гісторыя Беларусі". Але назваць сучасныя падручнікі паўнавартаснымі не выпадае. Па старой звычцы аўтары (а мо іхнія рэдактары) ахвяруюць аб'ектыўнасцю дзеля таго, каб не пакрыўдзіць суседзяў. Лепей, маўляў, мы аб нечым прамаўчым, абы сусед не абурыўся за праўду. Такая пазіцыя, можа, мела б сэнс, калі б тыя суседзі шкадавалі нашыя пачуцці, а так маем "вуліцу з аднабаковым рухам".

Кніга Уладзіміра Арлова і Генадзя Сагановіча "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" знаёміць школьнікаў, студэнтаў і тых, хто выйшаў з навучальнага ўзросту, з сапраўднаю гісторыяй нашай краіны. Гэта ў пэўнай ступені "гісторыя, якой няма ў падручніку". Кніга ахоплівае час з 862 па 1918 гады. Ёсць невялікі раздзел (ці ўступ) "Беларусь дагістарычная", але ж увогуле аповед пачынаецца з першых летапісных звестак пра Полацак і завяршаецца абвяшчэннем незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. У кнізе чатыры вялікія раздзелы: "Старажытныя беларускія княствы", "Вялікае княства Літоўскае", "Беларусь у Рэчы Паспалітай", "Беларусь у Расейскай імперыі". Кожны раздзел адкрываецца паралельнай храналогіяй: асноўныя даты беларускай гісторыі — асноўныя даты гісторыі сусветнай. Гэта вельмі зручна. І сусветны кантэкст адразу бачны, ды і даты пры наяўнасці такой "прывязкі" запомніць лягчэй. Культурныя падзеі стаяць у адным шэрагу з падзеямі палітычнымі. Стварэнне Лазарам Богшам крыжа Еўфрасінні Полацкай альбо напісанне Міколам Гусоўскім "Песні пра зубра" для беларускай нацыі не менш значныя, чым Грунвальдская ці Аршанская перамогі.

Адчуваецца, што кнігу рабілі прафесійныя гісторыкі, людзі, якія маюць свой погляд на мінулае і сённяшні дзень Беларусі. Прычым іхнія погляды адпавядаюць крытэрыям гістарычнай ісціны. Зрэшты, гэтыя аўтары проста не могуць напісаць кепскай кнігі, нават каб захацелі.

Кніга пабачыла свет дзякуючы галоўнаму фундатару — Беларускаму дабрачыннаму фонду Вялікабрытаніі. Выданню таксама садзейнічалі Раіса Жук-Грышкевіч, Івонка Сурвіла, А. Бушкевіч, В. Касцюкевіч, А. Маркевіч, А. Монід, Ст. Паўловіч (Канада), Паўла Урбан (Нямеччына), Кацярына і Люся Вініцкія, Вітаўт і Зора Кіпелі, Янка Юхнавец (ЗША), Міхась Навумовіч (Францыя). Асабліва аўтары ўдзячныя Аляксандру Надсану (Вялікабрытанія) і Кастусю Акулу (Канада). Надрукавана кніга летась у Вільні выдавецтвам "Наша будучыня".

25 студзеня, у 18.30 у Бібліятэцы імя Янкі Купалы (вуліца Веры Харужай, 16) адбудзецца прэзентацыя кнігі. Уладзімір Арлоў і Генадзь Сагановіч раскажуць, як кніга стваралася, адкажуць на пытанні прэсы і чытачоў.

Дзесяць вякоў — "поўдзень" нацыі. Мы на сярэдзіне шляху, хоць нам, як ніводнаму народу, столькі разоў даводзілася пачынаць амаль з нічога, столькі разоў адбудоўвацца пасля пажараў. У кнізе шмат трагічных старонак, але закрываеш апошнюю старонку з упэўненасцю, што "Старадаўняй Літоўскай Пагоні не разбіць, не спыніць, не стрымаць".

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

ВІНШУЕМ!

# Лепшы падручнік 1999-га

Новы, 2000 год "Народная асвета" пачала пад знакам добрай навіны, спароджанай, вядома, сваімі добрымі справамі-здзяйсненнямі. На першым Рэспубліканскім конкурсе "Падручнік 1999 года для агульнаадукацыйнай школы" два выданні выдавецтва сярод пятнаццаці, заяўленых і рознымі іншымі выдаўцамі, сталі ўладальнікамі прызоў. Першая прэмія прысуджана вучэбна-метадычнаму комплексу ("Буквар", "Пропісь 1", "Пропісь 2", "Пісьмо", "Па старонках Буквара") для падрыхтоўчага класа агульнаадукацыйнай школы з беларускай мовай навучання аўтара А. Клышкі і трэцяя прэмія — падручніку для 8-га класа "Сусветная гісторыя Новага часу" аўтараў У. Кошалева, В. Сініцы, І. Аржахоўскага, Н. Байдаковай.

Не баючыся перабольшання, можна смела сказаць, што Анатоль Канстанцінавіч Клышка — сапраўдны рыцар буквара. Ён з дзяцінства і на ўсё жыццё ўлюбёны ў першую кніжку школьніка. Перш, чым напісаць свой "Буквар", аўтар вывучыў каля дзвюх сотняў буквароў розных часоў, краін і народаў; пазнаёміўся з паўтысячай метадаў навучання грамаце дзяцей. А правяраў ён сваю методыку, удасканальваў уласны "Буквар", працуючы ў Навукова-даследчым інстытуце педагогікі, дзе меў магчымасць займацца з дзецьмі ў школах і дзіцячых садках. Непасрэдна над сваім "Букваром" пачаў працаваць у 1968 годзе, а у 1969 годзе "Буквар" выйшаў у свет. Пазней гэты "Буквар" быў адзначаны сярэбраным медалём ВДНГ СССР, залатым медалём на міжнароднай лейпцыгскай выстаўцы. У 1993 годзе падручнік А. Клышкі заняў першае месца на конкурсе па стварэнні нацыянальнага буквара.

А. Клышка карэнным чынам перагледзеў устаноўленую дзесяцігоддзямі рускімі букварыстамі паслядоўнасць у размеркаванні гукаў і літар для іх засваення і адпрацоўкі механізму чытання і прапанаваў сваю. Абапіраючыся на самыя найноўшыя знаходкі ў галіне букварыстыкі, на навуковае іх абгрунтаванне і выкарыстанне з улікам часу і патрабаванняў, якія стаяць перад школай, ён прапануе спачатку вывучаць усе зычныя, а не галосныя, як гэта рабілася раней. Удала падабраныя і напісаныя самім аўтарам "Буквара" мастацкія тэксты, з'яўляючыся свайго роду матэрыялам энцыклапедычнага і анталагічнага характару, дапамагаюць як адпрацоўваць змястоўнае чытанне, так і выхоўваць маленькага грамадзяніна. "Буквар" напоўнены жывою народнай мовай; у ім знайшлі месца гумар, жарт, казка, загадка, прыказка, рэбус, карацей кажучы — інтэлектуальная гульня са словам. І ўсё гэта пабудавана пераважна на беларускім матэрыяле.

Калі ж гаварыць пра адпаведнасць "Буквара" школьнай праграме, узроставым асаблівасцям дзяцей, дык тут і яны — на звышналежным узроўні.

"Буквар" добра праілюстраваны. Хоць яго мастацкім аздабленнем займаліся (малявалі) восем мастакоў (А. Шуганава, І. Баранаў, А. Лось, А. Шэвераў, Л. Ліхадзед, А. Лапіцкая, У. Пашчацеў, І. Волкава), кніга выйшла, як гаворыцца, у адной, аднароднай палітры. Безумоўна, у гэтым вялікая роля самога аўтара і мастацкага рэдактара Л. Паўленка. Неабходна асоба падкрэсліць заслугу ў стварэнні сённяшняга варыянта "Буквара" і спадарожнага да яго камплекта літаратурнага рэдактара А. Пыльчанкі — у мінулым школьнай настаўніцы беларускай мовы і літаратуры. Яна "хварэе" клышкаўскім "Букваром", яна радуецца за яго, яе душа і розум таксама прысутнічаюць там.

На высокім прафесійным узроўні выканана А. Петрашэвіч камп'ютэрная вёрстка. Свой уклад у стварэнне "Буквара" ўнеслі тэхнічны рэдактар С. Ліцкевіч і карэктар С. Яновіч. Нельга не адзначыць і ролю галоўнага каардынатара па выпуску літаратуры гуманітарнага напрамку А. Дзераш. Добра пастараліся і друкары.

Сістэма практыкаванняў "Пропісь 1", "Пропісь 2", "Пісьмо" вылучаецца высокім навуковым узроўнем і метадычнай абгрунтанасцю матэрыялу, дае ўсе падставы для ажыццяўлення дыферэнцыраванага падыходу да навучання пісьму. Метадычны дапаможнік для настаўнікаў "Па старонках "Буквара" навукова дакладна раскрывае змест кожнай букварнай старонкі. У гэтым і заключаецца яго галоўная каштоўнасць.

Займаючы належнае месца сярод буквароў свету, беларускі вучэбна-метадычны комплекс А. Клышкі дае ўсе падставы выдавецтву "Народная асвета" ганарыцца такім выданнем. Дарэчы, у выдавецтве ў свой час выйшла і выходзіць сёння нямала падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, якія з усіх пунктаў гледжання выканаlarity, як кажуць, на ўзроўні вышэйшага пілатажу. Сярод іх, напрыклад, "Геаграфія Беларусі" зачасна пайшоўшага з жыцця доктара навук, прафесара С. Сідора. Гэты падручнік яшчэ ў часы СССР саюзным Міністэрствам адукацыі быў прызнаны лепшым рэгіянальным падручнікам па геаграфіі. Высокі навуковы і метадычны ўзровень і ў падручніка "Пачатковы курс геаграфіі" І. Галая і З. Андрыеўскай; але, на вялікі жаль, сёння пэўныя сілы робяць пад яго падкоп, каб вывесці з ужытку ў школе.

Колькі слоў пра прызёра трэцяй ступені. Падручнік "Сусветная гісторыя Новага часу" для 8-га класа вылучаецца сярод падобных выданняў закладзеным у яго аснову маральна-этычным падыходам да адлюстравання гістарычных падзей.

**Яўген ГУЧОК**

БРАВА!

# Санаты для дзяўчынак

Віяланчэль і арган. Вам даводзілася слухаць дуэт гэтых інструментальных галасоў: глыбінна-пачуццёвы і ўзнёсла-незямны? Бывае ж такое дзівоснае спалучэнне тэмбраў, ад якога хваляюецца сэрца і лунае душа... І як тут не зразумець Аляксандра Мільто, вядомага мінскага музыканта, даўно ўжо апантанага ідэяй канцэртнай праграмы з удзелам гэтага дуэта: віяланчэль ды арган!

Ідэя спраўдзілася. Прэм'ера унікальнай канцэртнай праграмы адбылася днямі ў Зале камернай музыкі, што на Залатой Горцы. Цікавасць выклікала фенаменальную: суперанншлаг, продаж уваходных квіткоў без гарантаванага дадатковага крэсла, недахоп "прыстаўных", мноства апантаных слухачоў-гледачоў, якія літаральна выстаялі ўвесь канцэрт. (Сярод іх — дзеці, падлеткі, людзі пенсійнага веку).

Перадгісторыя падзеі такая. Французскі віяланчэліст Жэром Перно, удзельнік ужо традыцыйных "Франка-беларускіх музычных сустрэч", прывёз у Мінск ноты, створаныя менавіта для такога ансамбля. Гэта шэсць санат знакамітага італьянца Антоніо Вівальдзі. Ён пісаў іх менавіта для дзяўчынак, выхаванак сірочага прытулку, у якім сам працаваў музыкантам. Нашаму сучасніку Аляксандру Мільто, педагогу Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі, зацікаўленаму ва ўвасабленні рэдкасных нотаў, заставалася толькі пераўвасобіцца ў "школьнага арганіста" і падрыхтаваць праграму да канцэртнага выканання.

Чатыры таленавітыя дзяўчынкі, якія вучацца ў знаным каледжы ў класе педагога Ірыны Сцяпанавай, узялі ўдзел у гэтым незвычайным творчым праекце.

Васьмікласніца Тоня Жарава, навучэнка 9 класа Аліса Маліноўская, Кацярына Досіна ды Ліза Шарахоўская з 12 класа не выглядалі дэбютанткамі. Прыгожая музыка, прыгожая кантылена, прыгожыя натхнёныя твары, чысціня інтанацый, далікатнае гучанне аргана, добры ансамбль — гэта магло ўразіць і захапіць, здаецца, нават філарманічнага "неафіта". Што ўжо казаць пра меламанаў!

Тры стагоддзі мінула, але чарадзейная музыка не страціла сваёй прыцягальнасці, у чым пераканаліся і наведнікі канцэрта, і выканаўцы. Старадаўнія санаты прагучалі з нейкай загадкавай свежасцю, нібы нагадаўшы нам, сённяшнім, пра каштоўнасці вечныя. І пра тое, што ўсё калі-нікалі вяртаецца, паўтараецца. Магчыма, на пачатку новага тысячагоддзя свет чакае хваля цікавасці да музыкі барока, вяртанне да спрадвечнай гармоніі?

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

КІНО

# ...Зближае людзей

Любоў да кінематографа зближае людзей: кіно — гэта кветка, вартая толькі захаплення. І ўсё ж задачы, якія ставяць перад кінематографам рэжысёры розных культур, — неадназначныя. Рэтраспектывы нямецкіх, польскіх ды іранскіх фільмаў, што праходзяць цяпер у Мінску, мусяць пераканаць у гэтым.

Рэтраспектыву іранскіх фільмаў (стужкі дэманструюцца ў кіназале Саюза кінематаграфістаў) склалі лепшыя работы іранскага кінематографа 80—90 гадоў. Іранскае кіно — вядомае ў свеце: напрыклад, фільм аднаго з самых таленавітых іранскіх рэжысёраў Аббаса К'ярастамі "Смак чарэшні" быў узнагароджаны "Залатой пальмавай галінай" юбілейнага 50-га Канскага фестывалю (1998). Журы спадабалася філасофская прытча пра чалавека, які вырашыў дачакацца смерці ў пустой магіле. Аднак больш за палову сучасных іранскіх фільмаў здымаецца для дзяцей (падобныя стужкі ахвотна субсідзіруюцца ўрадам). Многа карцін, якія прысвечаны кінематографу ("фільм у фільме"). Цікава, што ў іранскіх кінатэатрах ніколі не паказваюць амерыканскія ці еўрапейскія стужкі: вельмі цяжка знайсці заходні фільм, у якім жанчына не дакраналася б да мужчыны. Але іранцы з цікавасцю глядзяць карціны А. Таркоўскага.

У адрозненне ад іранскага кіно, нямецкі і польскі кінематограф філасафічны, палкі і жорсткі адначасова. Напрыклад, фільмы, якія ўвайшлі ў праграму "Кінематограф кахання і роспачы (анталогія ранняга нямецкага нямога кіно 1911—1919 гг.)", адкрыта закраналі праблему ўзаемаадносін мужчыны і жанчыны (у Палацы культуры ветэранаў паказ ладзілі кінаклуб "Элітарнае кіно" і Гётэ-інстытут). Маладыя польскія рэжысёры (польскія фільмы дэманструюцца ў ПК МТЗ) імкнуцца асэнсаваць як жыццё моладзі, так і крымінальнага асяроддзя: 23 студзеня можна будзе ўбачыць "чорную" камедыю Ю. Махульскага "Кілер-2".

Праграма іранскага кіно скончыцца 24 студзеня.

**В. Б.**

АБСЯГІ

*ГРОДНА...*

## Ліцэісты-мастакі

У галерэі Тызенгаўз адкрылася экспазіцыя мастацкіх работ былых і сённяшніх вучняў гарадскога ліцэя N 1 пры дзяржуніверсітэце імя Янкі Купалы. На адкрыцці выставы мастак Аляксандр Ларыёнаў зазначыў, што яе можна назваць выставай будучых прафесіяналаў. Сапраўды, многія выпускнікі ліцэя, творы якіх дэманструюцца ў галерэі, сёння ўжо студэнты аддзялення выяўленчага мастацтва мясцовага дзяржуніверсітэта. З важнай падзеяй у творчым жыцці ліцэістаў павіншавалі намеснік кіраўніка адміністрацыі Ленінскага раёна А. Пшанічнава, начальнік упраўлення адукацыі гарвыканкама В. Родзіна, дацэнт дзяржуніверсітэта А. Ляшчынскі, дырэктар ліцэя А. Панцэвіч.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

*ГОМЕЛЬ...*

## Славянская бібліятэка ў 2000-ым годзе

Як вядома, летась Таварыства Кірылы Тураўскага выступіла ініцыятарам стварэння ў абласным цэнтры Славянскай бібліятэкі. Прапанову падтрымалі гар- і аблвыканкамы, творчыя саюзы, ВНУ і іншыя арганізацыі. Неўзабаве бібліятэка пачала папаўняцца рэдкімі гістарычнымі выданнямі, каштоўнымі кнігамі. Мастакі Пётр Фей і Людміла Жыжэлка падаравалі новай установе свае карціны. Бібліятэка стала цэнтрам асветніцкай работы з шырокім колам чытачоў. З імі ўжо сустракаліся вядомыя беларускія пісьменнікі, кампазітар Ігар Лучанок. На пачатку сёлетняга года тут адбылася канферэнцыя на тэму "Гомельшчына праваслаўная: гісторыя, сучаснасць, будучыня". Удзельнікі канферэнцыі абмеркавалі гадавы план мерапрыемстваў, у тым ліку, святкаванне 1120-годдзя Турава і 870-годдзя з дня нараджэння Кірылы Тураўскага.

## Спецыяльны дыплом — дырэктару тэатра

Дванаццаць гадоў узначальвае аблдрамтэатр заслужаны работнік культуры Беларусі Валянціна Рагоўская. Днямі яна за вялікі ўклад у развіццё міжнародных культурных сувязей (тэатр падтрымлівае цесныя стасункі з бранскімі, чарнігаўскімі і жытомірскімі калегамі) узнагароджана спецыяльным дыпломам прэзідэнта РБ.

## Памяці графіка

Толькі 55 гадоў пражыў беларускі мастак-графік Леанід Максімавіч Марчанка. Нарадзіўся ён у Бабруйску, скончыў Пензенскае мастацкае вучылішча і Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Доўгі час жыў у Мінску. Уся творчасць мастака напоўнена роднымі беларускімі матывамі. Пераконваюць у гэтым серыі афортаў, літаграфій, акварэляў, якія ўслаўляюць Беларусь. Творы Марчанкі знаходзяцца ў многіх музеях рэспублікі, у тым ліку і ў Нацыянальным мастацкім. Цяпер па беларускіх гарадах падарожнічае выстава работ Леаніда Максімавіча, якая прысвечана яго памяці. Зараз яна адкрылася ў карціннай галерэі абласной арганізацыі СМ.

## Прэм'ера "Крыштальнага чаравіка"

Мазырскі гарадскі драмтэатр імя Мележа (былы народны) пастаянна радуе гледачоў прэм'ерамі. Апошняя з іх падаравана юным тэатралам. Гэта спектакль "Крыштальны чаравік" па матывах казкі Т. Габэ. Музыку да пастаноўкі напісаў вядомы брэсцкі кампазітар В. Кандрасюк.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБСК*

## "Жыві светла"

Гэта назва апавядання Міхася Барэйшы паслужыла і назвай літаратурнай сустрэчы, прысвечанай 50-годдзю з дня нараджэння гэтага празаіка, які заўчасна пайшоў з жыцця. Сустрэча адбылася на радзіме пісьменніка, у в. Дзёрнавічы Верхнядзвінскага раёна. Яе падрыхтавалі і правялі абласное ўпраўленне культуры, мясцовыя райвыканкам і саўгас імя Кульнева.

— У Дзёрнавіцкай бібліятэцы і школе былі падрыхтаваны мемарыяльныя куткі з фотаздымкамі, успамінамі, пісьмамі, публікацыямі, — гаворыць дырэктар Верхнядзвінскай раённай бібліятэчнай сеткі Валянціна Крук. — На могілках у вёсцы Новы Лад былі ўскладзены кветкі да помніка пісьменніку. У госці прыехалі родныя і блізкія Міхася Барэйшы, сябры і калегі па пяры. Дэлегацыю полацкіх літаратараў узначальваў Герман Кірылаў. На сустрэчу прыехаў з Мінска паэт Сяргей Панізнік.

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎ...*

## У чаканні класікі

З 25 студзеня па 5 лютага ў абласным цэнтры пройдзе трэці фестываль класічнай музыкі. Плануецца, што ў ім прымуць удзел Камерны аркестр РБ, хор "Санорус", трыо з Украіны "Марэніч", Дзяржаўны ансамбль танца Беларусі. На свае канцэрты запрасіць стыпендыяты фонду Співакова і хор "Унія". У рамках фестывалю ў Магілёў завітаюць Аляксандр Малінін і маскоўскі "Вівальдзі-аркестр".

## Зноў у Германію

На фестываль еўрапейскай культуры, які кожнай вясной праводзіцца ў нямецкім горадзе Вітэнберг, зноў запрошаны юныя музыканты з Магілёва. У склад гэтай канцэртнай групы ўвайшлі фальклорны ансамбль сярэдняй школы N 42, а таксама выканаўцы з Магілёўскай гімназіі-каледжа музыкі і харэаграфіі.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*МІНШЧЫНА...*

## Лаўрэат — "Відарыс"

У горадзе і раёне з 13 па 16 студзеня прайшоў рэспубліканскі фестываль аматарскага мастацтва "Тэатральныя скрыжаванні". Удзел у ім прынялі народныя тэатры Беларусі, Прыбалтыкі, Украіны... Аўтарытэтнае журы аднадушна вызначыла лаўрэата. Ім стаў народны драматычны тэатр "Відарыс" Барысаўскага Палаца культуры са спектаклем "Прышэсце" паводле твора У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні".

**Галіна НОВІКАВА**



**ЧАСАПІС**

## *Сувязі мацнеюць*

**Дзве паэтэсы, украінка Ганна Косціў-Гуска і беларуска Таіса Мельчанка, — даўнія сяброўкі. А пазнаёміліся яны на Шаўчэнкаўскім літаратурным свяце, і з таго часу падтрымліваюць цесныя сувязі.**

**Нядаўна Г. Косціў-Гуска наведала Гомель, дзе жыве і творыць Т. Мельчанка. У ГДУ імя Ф. Скарыны адбылася вечарына з удзелам госці з Украіны. Ганна Міхайлаўна, у прыватнасці, чытала не толькі ўласныя вершы, а і паэтычныя радкі беларускіх літаратараў у сваім перакладзе. А на яе рахунку іх, дарэчы, нямала. Дастаткова нагадаць, што Ганна Міхайлаўна выдала ў сваім перакладзе на ўкраінскую мову кнігу вершаў Яўгеніі Янішчыц "Неприручена птушка", а таксама паэму Сяргея Законнікава "Зозуля", якую надрукавала ў кнізе перакладаў "Зона".**

**Пра сувязі ўкраінскай і беларускай літаратур студэнтам расказалі на вечарыне доктар філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай літаратуры ГДУ імя Ф. Скарыны Іван Штэйнер і старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Васіль Ткачоў.**

**Свае літаратурныя творы прачыталі студэнтам Таіса Мельчанка і Анатоль Бароўскі.**

**Раней Гомельскае абласное аддзяленне падтрымлівала цесныя літаратурныя стасункі з Бранскай і Чарнігаўскай пісьменніцкімі арганізацыямі. Цяпер да іх далучаюцца і цярнопальскія літаратары. Так было дамоўлена. Так і будзе.**

**Прыемна, што літаратурныя сувязі мацнеюць.**

**Ігар ЛЯСНЫ**

## *"Тэатральныя скрыжаванні"*



**Такую назву атрымаў першы Рэспубліканскі фестываль аматарскага тэатральнага мастацтва, які адбыўся ў Слуцку. З двухсот аматарскіх тэатраў рэспублікі на фестываль былі запрошаны дзесяць калектываў з Віцебска і Барысава, Лепеля і Брэста, Ваўкавыска і Баранавіч і іншых гарадоў Беларусі. Гасцямі фестывалю былі тэатральныя калектывы з Днепрапятроўска і літоўскага горада Кельмі, а таксама кіраўнікі Асацыяцыі аматарскіх тэатраў Даніі на чале са спадаром Вілі Далам.**

**Сярод паказаных на фестывалі спектакляў — творы А. Чэхава і А. Астроўскага, У. Караткевіча і У. Шэкспіра, Ж. Амаду і Ф. Г. Лоркі. Чатыры дні Слуцк быў тэатральнай сталіцай рэспублікі. У адзін з дзён усе ўдзельнікі фестывалю раз'ехаліся ў сёлы раёна і парадавалі сваім мастацтвам вяскоўцаў. А ў праграме фестывалю былі і творчыя сустрэчы з вядучымі прафесійнымі акцёрамі — народнай артысткай Беларусі Марыяй Захарэвіч і заслужаным артыстам Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Мішанчуком, а таксама працавала творчая лабараторыя па праблемах аматарскага тэатральнага мастацтва.**

**На здымку: старэйшы ўдзельнік фестывалю заслужаны работнік культуры 75-гадовы Валянцін Іванавіч ЕРМАЛОВІЧ (Магілёў).**

***Тэкст і фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА***

***У беларускай пісьменніцкай арганізацыі — даўнія шэфскія сувязі з пагранвойскамі рэспублікі. Вытокі гэтай дружбы пачыналіся яшчэ ў даваенны час. Для літаратара лічылася гонарам наведаць пагранічную заставу і напісаць пра гераічную службу вартавых дзяржавы. Тыя слаўныя традыцыі жывуць і сёння. Паміж Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Дзяржаўным камітэтам пагранвойск Рэспублікі Беларусь падпісана пагадненне аб творчым супрацоўніцтве. Паездкі пісьменнікаў на граніцу нашай незалежнай краіны сталі пастаяннымі.***

***Пра свае ўражанні ад адной такой паездкі да пагранічнікаў і расказвае ў нататках Яўген КАРШУКОЎ.***

# На пярэднім краі

## НАТАТКІ З ГРАНІЦЫ



*Пісьменнікі ў пагранічнікаў Першага Смаргонскага вучэбнага пагранатрада.*
*Фота А. РУЖАЧКІ*

•

Я даўно заўважыў, што вайсковыя людзі вельмі цэняць сяброўскія адносіны, дакладней, дружбу... І справа тут не толькі ў пагранічным брацтве, у армейскіх традыцыях і звычках. Гэтае светлае чалавечае пачуццё, як мне здаецца, вызначае найперш высокая маральнасць вайскоўца ў выкананні свайго свяшчэннага абавязку — абараняць... Абараняць, ахоўваць сваю Радзіму, сваіх каханых і родных, урэшце, усіх нас, наш мірны дзень. Цеплыня прыязных адносін, падмацаваная справай, захоўваецца надоўга. Таму натуральна, што чарговую паездку на Смаргоншчыну і я, і мае паплечнікі па шэфскай рабоце ў войску пісьменнікі Іван Скарынкін, Уладзімір Карызна, Браніслаў Спрынчан і сталічныя журналісты чакалі з нецярпеннем: яшчэ ж параўнаўча нядаўна адна пісьменніцкая група ўжо наведала Смаргонскі пагранічны атрад і была вельмі ўсцешана сяброўскім прыёмам, гасціннасцю гаспадароў, іх цікаўнасцю да літаратуры і да літаратараў асабіста. Тады і ўзнікла ідэя нейк аддзячыць пагранічнікам — сабраць бібліятэчку кніг беларускіх аўтараў і перадаць у дар атраду.

Задумана — зроблена. У Дзяржаўным камітэце пагранвойск падтрымалі нашу ідэю, і неўзабаве мы з нашым куратарам, дзейным і абаяльным супрацоўнікам пагранічных служб палкоўнікам Васілём Уладзіміравічам Кіптэнкам накіраваліся ў Смаргонь.

Дарога не здоўжылася: у прыемнай размове не заўважаеш кіламетраў. Згадаліся ранейшыя наведванні пагранічнікаў на Брэстчыне і Гродзеншчыне, расказы мясцовых старажылаў пра тыя драматычныя падзеі першых дзён Вялікай Айчыннай вайны, калі пагранзаставы да апошняга патрона біліся з ворагам. Гэтыя заставы існуюць і цяпер, у лясной мясцовасці, уздоўж Буга, і служаць тут унукі і праўнукі герояў, і свята захоўваюць памяць пра іх, дастойна нясуць сваю нялёгкую службу. Нехта з нас нават прачытаў верш, прысвечаны маладым дазорцам:

***Не хочацца і верыць неяк:***
***Тут калісь падалі снарады...***
***А сёння — ціха. Ранак. Днее.***
***Хлапцы вяртаюцца з нарада.***

***На тварах дрэмле яшчэ стома,***
***Ды у вачах гарыць адвага.***
***Да пагранічнікаў — павага:***
***Дазорцы! Бачылі б іх дома!***

***З такіх вось робяцца героі,***
***Такіх вось любяць і дзяўчаты —***
***Падцягнутых і зухаватых,***
***Аб іх, жаданых, мужных мары.***

***Хлапцам дом родны, пэўна ж, сніцца,***
***Але адслужаць неўзабаве.***
***Спакойна, ціха на граніцы,***
***Спакойна, ціха на заставе.***

На месца прыехалі ў другой палове дня. За горадам дарога павярнула ў стары сасновы бор. Яшчэ колькі гадоў назад — засакрэчаная зона: размяшчаліся тут савецкія ракетныя ўстаноўкі, скіраваныя на Захад. У збудаваннях ракетчыкаў і атабарыліся пагранічнікі, прывёўшы ў належны парадак спешна пакінутыя казармы і гаспадарчыя будынкі.

У першым вучэбным пагранатрадзе нас ветла сустрэлі афіцэры з ужо знаёмым мне камандзірам часці палкоўнікам Уладзімірам Мікалаевічам Лігутам. Высокі, мажны мужчына з уважлівым позіркам цёплых спакойных вачэй паціскаў нам рукі і казаў:

— Ну, вось і добра, што стрымалі абяцанне, прыехалі... Пасля таго, першага вашага пісьменніцкага дэсанта, мы доўга ўспаміналі вас. Ведаеце, для нас, жыхароў лясного краю, прыезд пісьменнікаў, як маленькае свята.

Дружалюбныя ўсмешкі на тварах афіцэраў сведчылі: нас, гасцей, сапраўды тут чакалі, нават аўдыторыю загадзя падрыхтавалі і адразу павялі ў клуб да курсантаў. Маладыя воіны слухалі выступленні з цікавасцю. Упершыню я прачытаў перад гэтай ўдзячнай аўдыторыяй сваю паэму "Над Бугам", прысвечаную пагранічнікам, і быў усцешаны ўвагай слухачоў і размовай з курсантам Уладзімірам Міхноўскім, які ад усіх шчыра дзякаваў нам за сустрэчу. Потым ён нават прызнаўся, што і сам спрабуе свае сілы ў паэзіі, піша песні і вельмі шануе і любіць родную літаратуру. Але ж зараз для яго, як і для іншых маладых людзей, галоўнае — вучоба.

Не першы год рыхтуюць у пагранатрадзе спецыялістаў для службы на мяжы — і камандзіраў стралковых падраздзяленняў, і аўтамабілістаў, і спецыялістаў інжынернага профілю... Адным словам, кузня кадраў. Праз некалькі месяцаў вучобы раз'едуцца курсанты па заставах і будуць служыць сваёй Радзіме. Афіцэры-выкладчыкі прыклалі нямала сіл, каб прабудзіць у маладых вайскоўцаў не толькі інтарэс да службы, але і высокія патрыятычныя пачуцці, расказваючы пра подзвігі пагранічнікаў у гады вайны. Асабліва ўсхвалявала мяне адна акцыя курсантаў. У невялічкім пакойчыку музея атрада я звярнуў увагу на карціну мастака Барыса Цітовіча з дарункавым надпісам пажадання міру на межах Беларусі. Аказваецца, як растлумачыў старшы афіцэр па выхаваўчай рабоце маёр Уладзімір Юдзянкоў, курсанты разам з мастаком прымалі ўдзел у аднаўленні і добраўпарадкаванні салдацкіх магіл часоў яшчэ першай сусветнай вайны ў Вілейскім раёне. Гэтая гуманная акцыя пакінула глыбокі след у душах маладых вайскоўцаў.

У той жа дзень мы паспелі выступіць і ў славутым Смаргонскім пагранатрадзе, куды, уласна кажучы, і накіроўваліся. Заснаваны ў 1992 годзе, ён не адзін раз адзначаўся Дзяржаўным камітэтам пагранвойск за ўзорную службу. Адкуль поспех? Відома, ад разумення важнасці ўскладзеных на цябе абавязкаў і мудрага, стараннага іх выканання. Такім старанным у справах быў, шчыруючы тут, колішні камандуючы пагранвойск Беларусі Васіль Фёдаравіч Маркоўкін. Такой жа слаўнай руплівіцы карыстаецца сёння і начальнік пагранатрада падпалкоўнік Міхаіл Іванавіч Саладуха. Дастаткова пагаварыць з ім некалькі хвілін, каб прасякнуцца да яго павагай: вочы яго свецяцца зычлівасцю і той прыроднай жыццярадаснасцю, якая адразу выклікае сімпатыю да чалавека. А калі дадаць да гэтага яшчэ і разважлівасць субяседніка, і лёгкі, нязмушаны тон, якім ён вядзе гаворку з вамі, то можна зразумець, чаму так любяць свайго камандзіра падначаленыя, чаму не цураецца яго і наш брат, журналіст. Невысокую, ладна скроеную фігуру Міхаіла Іванавіча можна ўбачыць усюды — атрадная гаспадарка не такая ўжо маленькая і патрабуе паўсядзённага клопату.

Сустракаючы добрага, цікавага чалавека, я заўсёды спрабую зразумець, у чым сакрэт яго адметнасці, яго жыццёвых поспехаў. І вельмі часта адказ на гэтае пытанне да банальнасці просты: уся справа ў моцным характары, мэтанакіраванасці і настойлівасці. Ключ для разгадкі адметнасці героя дае, відома, яшчэ і яго біяграфія.

Свой жыццёвы шлях магіляўчанін Міхаіл Саладуха пачаў, па сутнасці, радавым на граніцы ў Брэсцкай вобласці. Закаханы ў пагранічную службу, пайшоў далей — скончыў Алма-Ацінскае каманднае пагранічнае ваеннае вучылішча, а потым і вайсковую акадэмію імя М. В. Фрунзе. Вось нібыта і ўсё. Але ж за плячыма Міхаіла Іванавіча былі не толькі гады настойлівай вучобы, стараннай службы. Было тое самае галоўнае, што вызначае ў пэўным сэнсе чалавечую годнасць кожнага: рабіць больш, чым ад нас патрабуюць. І Міхаілу Іванавічу гэта звычайна ўдаецца. Рашэнне падказвае і вопыт, і стараннe. Сваёй неўтаймаванасцю ў працы, энергіяй ён зараджае і калег. Як кажуць, жыве па прынцыпе — хто рупіцца, таму і Бог дае.

Пасля літаратурнай сустрэчы ў клубе з пагранічнікамі Міхаіл Іванавіч правёў нас па вайсковым гарадку. А потым была і вячэра з традыцыйнай "салдацкай кашай" і нават лазня з добрым венікам... І ўвесь гэты час наш гаспадар не толькі расказваў пра жыццё-быццё атрада, але і выяўляў зайздросную дасведчанасць у літаратуры, цікавіўся пісьменніцкімі справамі, распытваў, не хаваючы пад чорнымі, амаль чапаеўскімі вусамі, гарэзнай, прыязнай усмешкі.

— Заўтра мае афіцэры пакажуць вам усё, што можна паказаць, — гаварыў ён, бліскаючы вясёлымі вачамі. — Можа, штонебудзь і напішаце? Добра б і песню, — кінуў хітры позірк убок Уладзіміра Карызны. — Але ж прабачце, пакіну вас: сям'я чакае... У мяне ж двое сыноў расце!

Непасрэднасць, шчырасць ды яшчэ жартаўлівасць — заўсёды выклікаюць прыхільнасць і сімпатыю да чалавека. Міхаіл Іванавіч надзвычай спадабаўся маім сябрам. І ўжо ў пакойчыку ўтульнай вайсковай гасцініцы, выключыўшы святло, мы дружна абменьваліся ўражаннямі дня. Усе сышліся на думцы, што афіцэры атрада — незвычайна сціплыя людзі, начытаныя, інтэлігентныя, і што служба на граніцы значна адрозніваецца ад агульнавайсковай службы. У іх, пагранічнікаў, не бывае нейкіх шумных, накшталт армейскіх, вучэнняў, манёўраў, калі розныя злучэнні імітуюць ваенныя дзеянні з прыкідкай на баявую абстаноўку. Тут баявая абстаноўка, лічы, увесь час: у кожны момант можа прагучаць сігнал баявой трывогі і каманда "У ружжо!" Іншымі словамі, граніца — пярэдні край... Амаль як на фронце. І ў кожнага з нас было добра на душы ад знаёмства з гэтымі спакойнымі, упэўненымі ў сваіх сілах і непахіснымі ў сваім высакародным імкненні аддана служыць Айчыне людзьмі, і ад такой жа спакойнай, лагоднай поўні, якая ветла заглядвала ў наш пакойчык.

•

Калі гаворка заходзіць пра пільную ахову граніцы, мне, чалавеку ўжо сталага веку, часам згадваецца здымак у даваеннай газеце: на ім — славуты пагранічнік Карацупа са сваёй вернай аўчаркай. Тады не было шкаляра, які б не ведаў пра геройскія справы гэтага пагранічніка і яго чацвераногага памочніка, пра сотні затрыманых імі парушальнікаў граніцы. Вось толькі мы, хлапчукі, ніяк не маглі ўцяміць, адкуль бяруцца такія разумныя сабакі...

Можа падацца дзіўным, але дакладны адказ на свае дзіцячыя пытанні я ўпершыню атрымаў тут, у Смаргонскім пагранатрадзе, з вуснаў падпалкоўніка Леаніда Ігаравіча Шанца — начальніка школы па падрыхтоўцы інструктараў службы сабак. Ён з пэўным задавальненнем паказваў сваю школу, размешчаную ў тым жа сасновым бары, і тлумачыў:

— Наш вучэбны цэнтр вядомы не толькі ў Беларусі, але і ў краінах СНД. А будавацца гарадок дапамагалі нам расійскія пагранічнікі. Ды і вопыт, па сутнасці, іх мы выкарысталі. Там кіналагі са стажам...

*(Працяг на стар. 12)*

жа, адзін з самых псіхалагічна тонкіх і складаных у гэтых адносінах... Восень, спяшаючыся, падаравала лірычнаму герою пяро з жураўлінага крыла. А далей ідуць элегічна-сумныя, бліскуча-адточаныя радкі, дзе восеньская прырода зліваецца з маркотнай душой чалавека, бліскаўкай ярчэе наватвор — "жураўлік **беларусіць**":

***Навокал пуста. Дождж цярусіць.***
***Клін выгінаецца дугой.***
***З нябёс жураўлік беларусіць***
***Сваёй адвечнаю тугой.***

Сказы, кароткія і лаканічныя ў двух першых радках, нібы ўдары сэрца. Крыху паслабляецца нервовае напружанне, разнявольваецца пачуццё ў двух заключных радках. Чытач нібы спатыкаецца аб першае слова ў другім радку — "клін", запыняе ўвагу на яркім вобразе — "клін выгінаецца дугой". Вобразе значна большым, чым звычайнае параўнанне. У ім актыўная дынаміка, сіла, гнуткасць. Ён — сам рух наперад, само змяненне на хаду, сама прыгажосць.

Асоба аўтара ў вершах — гэта асоба непрымірымага, сумленнага чалавека, які выбраў **боль**, а не **радасць** на ўсё жыццё за актыўную жыццёвую пазіцыю. Дарэчы, ведаю яго менавіта такім у рэальным жыцці — бескампрамісным, адданым педагагічнай справе без астатку, заклапочаным пра павышэнне ўзроўню выкладання літаратуры ў ВНУ. Бескампрамісная і яго любоў да Беларусі, нібы адлітая ў шматзначныя, яскравыя радкі:

***Я мітусіцца не люблю.***
***Як перасілім зло, Айчына,***
***Тады ўпаду на рукі сына,***
***Сыду у вольную зямлю.***

Заўважым: і першыя крокі (згадкі пра маму ў вясковым акенцы), і апошнія крокі свае паэт ставіць у кантэкст лёсу Беларусі, е свабоды.

Менш удалай, чым лірыка — маналог спакутаванай душы, падалася мне паэма "Мітынг на аўтобусным прыпынку". Ёсць і ў ёй публіцыстычная палымянасць, непрымірымае стаўленне аўтара да жыцця нялюдскага, гаротнага, нервовага, што і выклікала імправізаваны людскі мітынг. Эскізна, але досыць выразна намечаны характары ветэранаў "сталінска-брэжнеўскага" і "дэмакратычнага" варыянтаў, сына. Сталініст вінаваціць у непарадках сучасную ўладу, моладзь ("Жыццё прафукалі дарма. Даўно пара **заціснуць гайкі**, Шкада, што Сталіна няма!"), сын апраўдваецца і перакладвае віну на плечы старэйшых ("Закваскі сталінскай і сілы Вы зналі ўцеху не адну, А мне — дзіравыя бахілы, З маленства — ў плуг і барану".) Аднак дыялог у творы не дынамічны, "фармальны", таму і развіваецца слаба, як бы па інерцыі. Гуманістычная ідэя высвечваецца найперш у **лірызаваных сцэнах**. Адна з такіх — успамін пра тое, як пасля вайны старшыня калгаса за сарваныя каласкі "канфіскаваў" чырваназорую, падараваную братам-вайскоўцам пілотку, пазбавіў дзіця адзінай на той час радасці. Гэта сцэна самая балючая і трагедыйная. Яна ўсё пра тое ж чорнае крыло, якім былі накрытыя мы ў XX стагоддзі:

***Магчыма й сёння на арбіце***
***Дрыжыць дзіцячы галасок:***
***— Вярніце зорачку! Вярніце!***
***Я не вазьму больш каласок...***

***А старшыня, махнуўшы плёткай,***
***Пагрозна крыкнуў на ўвесь свет:***
***— Сам виноват! А за пилоткой***
***Пусть мать зайдет-ка в сельсовет!***

***У небе жаўранкі сцішэлі,***
***І промень сонца ледзь дрыжаў.***
***У незаворанай траншэі***
***Хлапчук да вечара ляжаў.***

Зорка-незавораная траншэя-пілотка — вобразы-сімвалы высокай праўды ў душы малечы згаслі пад крыкам войта-дракона з плёткай у руцэ — жахлівая карціна! У разгорнутым выглядзе яна паўстане, напрыклад, у пасляваенных апавяданнях "Сад", "Кватаранты", аповесці "Нявестка" Аляксея Кулакоўскага. У паэме Майсеенкі яна пададзена штрыхамі-бліскаўкамі, як і трэба ў лірычным творы. Гэтых бліскаўкаў шмат. Яны і ратуюць твор ад зададзенасці і халоднага рытарызму.

**Мікола МІШЧАНЧУК**

творчасці, але і тады, калі я стаў народным, лаўрэатам і меў сотню выданняў".

У падобнай крытычнасці, бадай, прысутнічае жаданне заахвоціць на нешта яшчэ больш важнае. Хто, а Марыя Філатаўна ("58 гадоў разам! Я лічу і пяць армейскіх ваенных гадоў: і там, у Запаляр'і, яна была заўсёды са мной, а я з ёй тут, у Церусе, у знаёмых з маленства лясах Маркавіцкага лясніцтва"), ведала І. Шамякіна лепш, чым іншыя. І будучы строгім, а часам і залішне патрабавальным крытыкам, нязменна кіравалася тым правілам (няхай пра гэта І. Шамякін і не гаворыць, але гэта лёгка прасочецца ў аповесці), што з любімых вуснаў і увагі прыемныя. І яны ніколі не будуць успрыняты з крыўдай...

Расказваючы пра Марыю Філатаўну, І. Шамякін не абыходзіць увагай і асобных момантаў яе працы. Адразу пераконваешся, якім чулым, сардэчным чалавекам яна была, як магла своечасова дапамагчы хворым. І не толькі лячыла іх, а і падтрымлівала маральна, ведаючы, што добрае слова само па сабе лечыць: "Маша была надзвычай адданы, чулы і па-свойму хітры лекар. Яна добра разумела псіхалогію хворых, асабліва старых сялянак. А якія лекі меліся ў сельскім медпункце да вайны?! Цяпер няма. Але яна ведала: адаслаць бабулю без парашка — назаўсёды пазбавіцца кліенткі, ды і якая слава пойдзе пра яе, фельчарыцу: нічога не ўмее, нічога не мае! І яна прыдумала адмысловыя парашкі, абсалютна бяскрыўдныя пры любой хваробе: соду з цукрам. Праз колькі дзён бабулі прыходзілі, прыносілі яйкі і шчыра дзякавалі: "Ай, дохтарка, як жа памаглі твае парашочкі!"

Гэта не дробязі, як можа падацца на першы погляд. Менавіта з падобных "дробязяў" і лепш бачны чалавек, глыбей раскрываецца яго характар. Да месца ў аповесці і шматлікія згадкі з літаратурнага жыцця, асабліва з пасляваеннага. Марыя Філатаўна ў кожным выпадку па-свойму актыўны ўдзельнік іх, бо ўмела і падтрымаць чалавека добрым словам, і адчуваць сябе нароўных з самымі рознымі людзьмі.

"Слаўся, Марыя!" — назваў аповесць І. Шамякін, але да месца і іншая, што вынікае непасрэдна з гэтай: "Слаўся, Каханне!" Каханне — гэтак праўдзіва, глыбока і пераканаўча расказанае, як і можа сказаць пра яго чалавек, які не толькі пісьменніцкім талентам валодае, а і іншым, у нечым нават і больш рэдкім: умець па-сапраўднаму кахаць".

Кахаць узаемна.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# "Крыніца", N 55

У чарговым нумары часопіса шмат паэзіі. На першых старонках змешчана гутарка Юрася Залоскі з паслушнікам Жыровіцкага манастыра Алегам Бембелем і друкуецца вялікая падборка вершаў паэта-паслушніка. Пра асобу і творчасць А. Бембеля пішуць Любоў Турбіна, Людка Сільнова, Наталля Марціновіч, Галіна Тварановіч, Міхась Скобла і Уладзімір Конан, а грэка-каталічка Галіна Дубянецкая прысвяціла праваслаўнаму паслушніку верш.

З грунтоўнымі падборкамі вершаў у нумары выступаюць таксама Інеса Тарасава і Ігар Пракаповіч, з адным вершам — Андрэй Аляксандраў, Воля Гапеева, Васіль Барысюк, Таццяна Копыцева і Юры Чарнякевіч. Паэму "Senectutes" друкуе Міхась Баярын.

Лявон Баршчэўскі знаёміць чытачоў са сваім перакладам знакамітай камедыі Арыстафана "Жабы" (друкуецца фрагмент твора). Пра Афіны (Атэны) арыстафанаўскай пары, абставіны напісання і асаблівасці камедыі піша ў прадмове да публікацыі Алесь Жлутка.

Проза ў нумары прадстаўлена творамі Міхася Южыка "Ступень свабоды" (жанр вызначаны як "аповед у аповедзе"), Вінцэся Мудрова "Гарачае лета 00-га", Анатоля Дэбіша "Усё гэтак проста" (падзагаловак — "Імгненныя ўражанні").

**Ф. ТРОНКА**

# "Мастацтва", N 11

Нумар адкрывае працяг артыкула У. Конана "Беларуская мастацкая культура ў эпоху Сярэднявечча". Сярод іншых матэрыялаў — "Метафізічная піктаграфіка Пятра Кірыліна" М. Цыбульскага, "Вогнішча на раздарожжы часу" Б. Бур'яна, "Гродзенскія рамантыкі — рэалісты" Т. Арловай, "Майстар харавой музыкі" В. Чарняк, "Спадчына Тызенгаўзаў у Паставах" А. Скорабагатчанкі, "Чалавек мае права..." Г. Нагаевай, "Экранізацыя творчага акта" А. Туровіча, "Феномен айчыннай іканаграфіі" А. Яскевіч, "Аб некаторых рысах постмадэрнісцкага мастацтва" Э. Усоўскай, "Збуражскія адкрыцці" М. Віннікавай. Кераміка раку ў Беларусі — тэма артыкула В. Угрыновіч "Зямля ў агні". Пра ганчарныя сакрэты А. Кірычыка расказвае Г. Багданава ("Гартаваны"). З Н. Галеевай — "Опера — вышэйшая форма жыцця" — гутарыць Т. Садчанка. В. Бычкоўская ("Лічу сябе шчаслівым чалавекам...") запісала споведзь Э. Ханка. Кнігу Т. Гаробчанкі "Зінаіда Канапелька" рэцэнзуе Д. Стэльмах ("Асоба мастака"). Ёсць рубрыкі "Дыскаграфія" і "Хроніка мастацкага жыцця".

КНІГАРНЯ

# Каб лепей пазнаць сапраўднае...

Развіццё, пашырэнне краязнаўчай, як і ўвогуле асветніцкай, прасторы наўрад ці магчыма без пільнай увагі да кнігі. У тым ліку — старой, выдадзенай у ранейшыя дзесяцігоддзі, у папярэднія стагоддзі. Таму і зразумелы зварот аднаго са старэйшын сучаснага Віцебскага краязнаўчага цэха Аркадзя Падліпскага да гісторыі яе. Даследаванне так і называецца — "Книга в Витебске. Дооктябрьский период". У прадмове да яе дырэктар Віцебскай абласной бібліятэкі Ларыса Гудзелева піша: "Сёлетні год (*маецца на ўвазе 1999-ы.* — **А. К.**) *з'яўляецца асаблівым* у гісторыі Віцебска. Дзвесце гадоў таму, у 1799 годзе, у нашым горадзе ўпершыню была выдадзена невялікая па памерах брашура, якая паклала пачатак кнігадрукаванню. З той пары з'явілася больш як паўтары тысячы кніг, брашур і альбомаў, месцам выдання якіх стаў Віцебск. У нашы дні іх колькасць паялічваецца на некалькі дзесяткаў штогод".

Гісторыя віцебскага кнігадрукавання і віцебскіх бібліятэк даўно прыцягвае да сябе ўвагу мясцовага гісторыка-краязнаўца і журналіста Аркадзя Падліпскага. Яшчэ ў 70-я гады ім былі напісаны і надрукаваны даследаванні і артыкулы ў навуковых зборніках "Книговедение Белоруссии" (вып. IV), "Из истории книги в Белоруссии", у абласной газеце "Віцебскі рабочы".

У наступныя два дзесяцігоддзі А. Падліпскі працягваў гэту працу, збіраючы цікавы матэрыял пра кнігалюбаў горада. Яго публікацыі выкарыстаны ў вучэбным дапаможніку "Гісторыя кнігадрукавання Беларусі".

Даследаванне віцебскага краязнаўцы складаецца з двух асноўных раздзелаў — "Кнігавыданне Віцебска дакастрычніцкага перыяду" і "З гісторыі бібліятэк дарэвалюцыйнага Віцебска". З першых старонак уражвае багацце фактаграфічнага матэрыялу. Аўтар, хоць і досыць лаканічна, але канкрэтна распавядае пра першыя, вядомыя зараз віцебскія кнігі. Падае краязнаўца і пэўныя характарыстыкі тых або іншых выданняў. Прыкладам, расказваючы пра першыя "Памятные книжки", А. Падліпскі заўважае: "Знешні іх выгляд быў някідкі, абедзве надрукаваны на шэрай паперы нізкай якасці. Таму гэта, па словах таго ж Сапунова, "мела зусім абмежаваны поспех, такі, што нават не акуплялася выданне іх". Расповед пра "Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящихся в Центральном архиве в Витебске" таксама выкладзены ўсяго ў некалькіх сказах. Але і гэтага дастаткова, *каб атрымаць першаснае яскравае ўяўленне* пра абсягі зробленага: "...У 1870-я гады іх было выпушчана 10 тамоў агульным аб'ёмам амаль што ў 4600 старонак".

Акрэсліваючы канкрэтныя факты, А. Падліпскі і ставіць, абазначае шэраг пытанняў, пераконвае чытача ў тым, што яшчэ і сёння магчымы пошук не вядомых дагэтуль выданняў. Шкада вось толькі, што, звяртаючы ўвагу на пралікі ў бібліяграфічным паказальніку "Книга Белоруссии. Сводный каталог. 1517—1917", краязнаўца не разглядае падрабязна вядомыя толькі яму выданні. "Напрыклад, у бібліятэцы аўтара гэтых радкоў, — піша даследчык, — ёсць пяць брашур, якія не згадваюцца ў "Книге Белоруссии", у музеі віцебскага трамвая — яшчэ адна".

З асаблівай цікавасцю чытаецца падраздзел пра аўтараў дарэвалюцыйных кніг. Чые толькі лёсы не раскрываюцца! Аляксандр Сапуноў (выдаў у сваім горадзе 46 кніг і брашур!) і Мікалай Нікіфароўскі (у Віцебску выдадзена 14 яго прац), краязнаўца Уладзімір Стукаліч (аўтар 12 віцебскіх кніг) і інжынер-чыгуначнік А. А. Паўлоўскі (аўтар даследаванняў, прысвечаных трамваю, тэхнічным *патрэбам горада Віцебска*), *літаратуразнаўца* Леў Лазарэвіч-Шэпялевіч (даследаваў творчасць Дантэ, Гётэ, Сервантэса, Заля, Сянкевіча, Гаўптмана. Выдаў амаль што 30 кніг і брашур)... Спыніўшыся на разглядзе здабыткаў *асобных аўтараў*, А. Падліпскі яшчэ напрыканцы і пералічвае імёны астатніх. Як быццам акцэнтуе ўвагу на тым, што некаму яшчэ можна ісці следам за аўтарам кнігі, шукаць і знаходзіць віцебскія выданні дакастрычніцкага перыяду.

Вельмі важным уяўляецца і наступны падраздзел — "Тыражы". На жаль, падаўшы лічбы па групах выданняў, А. Падліпскі вельмі мала ўвагі надае асобным прыкладам. Не звяртае ўвагі і на такую акалічнасць, як захаванне кнігі ў часе, залежнасць гэтага ад тыражу.

Нельга без хвалявання чытаць падраздзел "Віцебскія кнігалюбы мінулага". Хоць бы таму, што на Беларусі падобнага роду літаратуры проста бракуе. У свой час спробай нешта змяніць да лепшага ў гэтым накірунку стала выданне альманаха "Свіцязь". Няма ніякіх сумненняў, што ён меў усе падставы вырасці да ўзроўню і перыядычнасці некалі ўсесаюзнага "Альманаха библиофила". Але, на вялікі жаль, пабачыў свет адзіны выпуск. Здаецца, на сур'ёзную дарогу апісання прыватных кнігазбораў ступіў вядомы гісторык, краязнаўца Віталь Скалабан (як прыклад — работа, прысвечаная Міхасю Мялешку). А. Падліпскі перш-наперш распавядае пра ўласны кнігазбор генерала ад кавалерыі Івана Іванавіча Міхельсона (1740—1807). Унікальнай падаецца і бібліятэка Аляксея Парфёнавіча Сапунова (1851—1924). Між іншым, вядомы гісторык, нягледзячы на матэрыяльныя цяжкасці, літаральна да апошніх дзён свайго жыцця працягваў набываць кнігі. Найперш — мясцовыя выданні. Сярод апошніх яго набыткаў — пяць нумароў часопіса "Крывіч" за 1913 год, брашуры Плюшчэўскага-Плюшыка па энтамалогіі, шэраг іншых выданняў.

І зноў — з прадмовы Ларысы Гудзелевай: "Амаль што цалкам спыненае ў 30-х гадах, кнігавыданне ў Віцебску адрадзілася праз паўвека. Але нават і зараз яно не дасягнула ўзроўню стогадовай даўнасці. Затое сучасная бібліятэчная сетка непараўнальная *з той, што была да 1917 года. Зараз* у горадзе 111 бібліятэк розных сістэм і ведамстваў. Іх агульны фонд складае каля 6 мільёнаў тамоў. Кніга ў поўным сэнсе слова прыйшла ў кожную сям'ю жыхароў нашага горада. Не з'яўляюцца рэдкасцю і буйныя прыватныя бібліятэкі... Параўнанне з мінулым заўсёды неабходна. Хоць бы ўжо дзеля таго, каб лепей пазнаць сапраўднае. І ў гэтым сэнсе кніга А. Падліпскага, вялікага сябра нашай бібліятэкі і аднаго са старэйшых яе чытачоў, несумненна, выкліча чытацкую цікаўнасць"...

Работа А. Падліпскага, які ў апошнія гады працуе асабліва напружана, — выдатны прыклад даследавання ў галіне айчыннага кнігазнаўства. Мо следам з'явяцца кнігі іншых краязнаўцаў?.. "Кніга ў Магілёве", "Кніга ў Брэсце", "Кніга ў Гродне", "Кніга ў Гомелі"...

Чаму б і не?!

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# "Літаратура Берасцейшчыны"

Гэтую цікавую літаратурна-краязнаўчую кнігу напісалі выкладчыкі-навукоўцы Брэсцкага універсітэта Вера Ляшук і Галіна Снітко. Змест яе надзвычай багаты, як багатае было і літаратурнае жыццё краю цягам многіх стагоддзяў. Летапісы, фальклор і яго збіральнікі, славутыя імёны літаратараў, якія нарадзіліся на Берасцейшчыне ці звязалі з ёю пэўныя перыяды свайго жыцця і творчасці, заходнебеларускі літаратурны рух, паэзія, проза і драматургія сучасных аўтараў-землякоў — усё гэта знайшло адлюстраванне ў кнізе. Асаблівая ўвага надаецца такім карыфеям беларускай літаратуры, як заснавальнік панегірычнай паэзіі Андрэй Рымша, пачынальнік мемуарнай літаратуры Фёдар Еўлашэўскі, самыя яркія прадстаўнікі палемічнай літаратуры Іпацій Пацей і Афанасій Філіповіч, выдатны публіцыст Франц Савіч, аўтар славутага верша "Заграй, заграй, хлопча малы..." Паўлюк Багрым і іншыя.

Не абыдзены ўвагай і такія ўраджэнцы Берасцейшчыны, як класік польскай літаратуры Адам Міцкевіч, украінскі паэт Зміцер Фалькоўскі, а таксама ўсе тыя, хто бываў тут і пісаў пра гэты самабытны край: Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Якуб Колас, Павел Шпілеўскі, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Ян Чачот, Эліза Ажэшка...

Сотні імёнаў згадваюцца ў кнізе! А прысвечана яна "светлай памяці дарагога настаўніка У. А. Калесніка". Пра яго, выдатнага крытыка і літаратуразнаўцу, пра яго ролю ў развіцці беларускай літаратуры і літаратурнага краязнаўства аўтары — былыя вучні і калегі Уладзіміра Калесніка — разважаюць у асобным раздзеле свайго змястоўнага выдання.

**Сымон АКСЕНІН**

## "Пушкін — беларуская культура — сучаснасць"

Як вядома, мінулы год быў годам Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. У многіх краінах, у тым ліку і ў Рэспубліцы Беларусь, урачыста адзначалася 200-годдзе з дня нараджэння выдатнага рускага паэта. Да юбілею з'явіўся і шэраг кніг. Як тых, што сталі перавыданнем твораў самога Пушкіна, так і прысвечаных яго жыццю і творчасці, а таксама даследаванняў, якія разглядаюць уплыў пушкінскага генія на развіццё іншых літаратур. У шэрагу такіх выданняў і гэтае — "Пушкін — беларуская культура — сучаснасць", што стала 12-ым выпускам вядомага зборніка "Беларусіка". Змест яго склалі матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі, якая праходзіла пад аналагічнай назвай 26—27 мая 1999 года ў Мінску. А з'явілася кніга пад эгідай Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францыска Скарыны пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей. Даклады, выступленні, што прагучалі на канферэнцыі разглядаюць у самым розным кантэксце ўплыў творчасці Пушкіна на беларускую і іншыя літаратуры, прасочваюць развіццё пушкінскіх традыцый і ўвогуле закранаюць розныя аспекты развіцця прыгожага пісьменства. Асобна вылучаны матэрыялы пленарнага пасяджэння: "Руская эліта пушкінскага часу і культурная спадчына былога Вялікага княства Літоўскага. Навуковыя вышукі прафесара І. Даніловіча" Ю. Лабынцава, "Пушкін і замежная літаратура" П. Копанева, "Міцкевіч і Пушкін: літоўскі аспект палітычнай палемікі" А. Каўкі, "Пушкінская і нацыянальная літаратурная традыцыі ў пошуку дыялогу з народам" В. Жураўлёва, "Па дарозе ў ссылку" І. Пушкіна. Як бачна, кожны са згаданых аўтараў запыняе ўвагу на вельмі важных пытаннях. У прыватнасці, Ю. Лабынцаў раскрывае тую ролю, якую выканаў І. Даніловіч у вывучэнні старажытных пісьмовых помнікаў ВКЛ, а гэта "паступова і няўхільна ўплывала на яго унутранае самаўспрыманне, нацыянальную арыентацыю, якая з дзяцінства, здавалася б, вызначана паходжаннем, вельмі канкрэтна названым сучасным гісторыкам Польшчы Ю. Бардахам так: "...плебей беларускага паходжання". А В. Жураўлёў, адштурхоўваючыся ад таго, што "пушкінская традыцыя, як і нацыянальная літаратурная класіка на кожным этапе жыцця выяўлялі сваю нязменную энергію духоўнай маладосці і мудрай, прарочай, настаўніцкай сілы", засяроджвае ўвагу на тым, як паэт у сваіх творах (ды і ў жыцці таксама) ішоў на кантакт з народам, у той жа час яго "вельмі непакоіла магчымая небяспека таго, каб такі злосны, помслівы, "обуянный силой черный человек" раптам не паспрабаваў змагацца за права свайго індывідуальнага жыццёвага выбару адпаведна яго імпульсіўнаму ірацыянальнаму настрою спосабамі і не стаў некіруемай часткай стыхійнага і бунтоўнага ў сваіх памкненнях і дзеяннях натоўпу, здольнага пайсці на ўсё — на бессэнсоўныя разбурэнні і крывавыя злачынствы". Астатнія матэрыялы згрупаваны ў раздзелы "Пушкін і сучаснасць", "Пушкін і Беларусь", "Пушкін у гістарычным кантэксце", "Пушкін: пераклады, мова, паралелі". Наколькі шырокі абсяг закранутых пытанняў, можна атрымаць ужо ўяўленне па такіх публікацыях, як "Янка Купала і Аляксандр Пушкін: праблема гармоніі" Д. Санюка, "Мастацка-вобразнае выяўленне прыроды ў паэмах "Яўгеній Анегін" Аляксандра Пушкіна і "Новая зямля" Якуба Коласа, "Крым у падарожных нарысах А. Пушкіна і М. Багдановіча" І. Азаравай, "Пушкінскія вобразы ў беларускім кіно" В. Нячай, "Пушкінскія ўрачыстасці ў Брэсце-над-Бугам у 1937 г." Ю. Лабынцава і Л. Шчавінскай... А. Верабей сваё выступленне прысвяціў тэме "Уладзімір Караткевіч і Аляксандр Пушкін". Даследчык нагадвае, што "У. Караткевіч зведаў на сабе дабратворнае ўздзеянне творчасці А. Пушкіна. Беларускаму пісьменніку імпанавалі найперш майстэрства А. Пушкіна, вольналюбівыя матывы яго паэзіі, гістарызм яго твораў і яго роздум над лёсам народным". А. Верабей прыводзіць такі запіс, зроблены У. Караткевічам 10 лютага 1975 года: "Пушкін — з'ява прыдуманая і створаная Богам (або прыродай, як вам будзе зручней), каб у кожным учынку, кожным гуку жорстка і непадзутэта праверыць сябе на праўду і фальш. Праверыць і часам засаромецца". І як падагульненне гаворкі, што адбылася ў час канферэнцыі, успрымаецца "Заключнае слова" на ёй У. Гніламёдава: "Праробленa немалая праца. Мы яшчэ раз устанавілі ці, дакладней, на новай аснове паўтарылі тую ісціну, што Пушкін — сын свайго часу і чалавек на ўсе часы. Для сваіх чытачоў ён даўно стаў сімвалам самога жыцця".

Юрась ВАЙСЁНАК

ПАЭЗІЯ

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ



## Жыццё, як дзіўнае кіно...

●

*Падношу да вуснаў кляновы лісток,*
*Нібыта Айчыны гаючы выток,*
*Нібыта прыроды падораны знак,*
*Нібыта жыцця таямнічы працяг.*

*Нібы дакрануўся да чыстай вады,*
*Да слёз ачышчальных маіх маладых,*
*Да любай, адзінай, што сёння са мной,*
*Да мары жаданай маёй незямной,*
*Да восені ціхай, да птушкі ўначы,*
*Да сэрца, што ў вусцішнай скрусе маўчыць.*

●

*Жыццё, як дзіўнае кіно,*
*Сатканае з таемных сноў,*
*Палыннае, нібы віно.*

*Яно, бы даўняя віна,*
*Бязлітаснае, бы вайна,*
*Шурпатае, нібы сцяна.*

*Жыццё, як ціхая журба,*
*Бы снегу пад акном гурба,*
*Бы па-над возерам вярба.*

*Бы ў лесе сціщаным касцёр,*
*Бы ветру ў коміне выццё,*
*Нібы ў каханні забыццё.*

*Такое дзіўнае кіно,*
*Такая даўняя віна,*
*Такая ціхая журба...*

●

*Гэтак на свеце трывожна,*
*Столькі пакуты і зла...*
*— Божа, — я выдыхну, — Божа,*
*Дай мне хоць крышку цяпла!*

*Вецер засвішча над стромай,*
*Долу асыпле лісцё.*
*І на душы пакрыёма*
*Раптам распаліць касцёр.*

*Болем агорнецца сэрца,*
*Родны прымроіўшы дом,*
*Толькі душа будзе грэцца*
*Гэтым далёкім цяплом.*

●

*Калі адмахнуцца дзеці,*
*Калі адвернецца жонка,*
*Куды тады крочыць мне?*

*Да ціхіх магіл бацькоўскіх,*
*Да рэчкі майго маленства,*
*Да цэркаўкі на гары?*

*Ды свечка яшчэ не згасла,*
*Ды ноч пазірае ў вокны,*
*Ды ціха гадзіннік б'е.*

●

*Зноў за рэчкай азваўся драч.*
*І ў начной цішыні застылай*
*Адзінокі жаночы плач*
*Узлятаў, як анёл на крылах.*

*Ён над полем халодным плыў,*
*Адгукаўся над лесам сонным.*
*Быццам тых, каго я любіў,*
*Ён аплакваў са мною сёння.*

*І шчымлівай тугой кружыў,*
*І адлічваў жыцця мінуты*
*Вось на гэтай начной мяжы*
*Паміж будучым і мінулым.*

●

*Я — вечар. Халодны вечар,*
*Дзе цэркаўкі белы лік*
*Самотна глядзіць у вечнасць*
*Праз кроны яблынь і ліп.*

*Я ціха плыву над полем,*
*Над лесам, дзе спее ноч,*
*І мне не забыць ніколі*
*Таемную споведзь сноў.*

*Кароткі, як захад сонца,*
*Тужлівы, як птушкі крык.*
*Я веру, што я бясконцы,*
*Пакутны, нібыта крыж.*

*І з гэтым апошнім промнем*
*Зірну на сваю зямлю,*
*Якую спрадвеку помню,*
*Якую да слёз люблю.*

●

*Ліхтароў начных мігценне*
*Вулкі гарадской.*
*Толькі карагоды ценяў*
*Кіну за сабой.*
*Толькі перазвон трамваяў*
*Праз тугу і ноч,*
*Толькі водсвет, што ўпускаю*
*У сваё акно.*
*Толькі стогн віяланчэлі,*
*Толькі плач трубы,*
*Толькі вечныя арэлі:*
*Быць альбо не быць.*

●

*Мой анёл маладыі, зарастаюць сляды*
*На ўтравелым далёкім пагорку.*
*Мой анёл малады, праляталоць гады,*
*Ды шукаю ізноў сваю зорку.*
*Ні каштоўных шаўкоў!..*
*І не ломіцца стол.*
*Не спяваюць сірэны ў даліне...*
*Толькі некалькі слоў, мой чароўны анёл,*
*Толькі песня аб любай краіне.*
*Толькі некалькі слоў, толькі некалькі сноў,*
*Што як скарб дарагі і жаданы,*
*Я хаваю у сэрцы сваім.*
*І любоў,*
*Што загоіць збалелыя раны.*

●

*Ноч мінула. І сябе знаходзім*
*Мы на раздарожжы ўсіх стыхій:*
*На парозе — новае стагоддзе,*
*На парозе — новыя грахі.*

Алесь КАМОЦКІ



## Заўтра будзе раніца...

●

*Я з гадоў перажытых помню*
*Мітусню каляровых дзён,*
*Пошук выйсця і шлях дадому,*
*І гуканне наўздагон.*
*І памылак былых атрута*
*З цягам часу губляе смак —*
*Што калісьці было пакутай,*
*Таго проста ужо няма.*

*Я, бывае, блукаю летам*
*За ўспамінамі след у след,*
*Я, бывае, гляджу без мэты*
*То ў люстэрка, то на партрэт.*
*А, бывае, сябе здзіўляю*
*І ў доўгім жыцці надзей*
*Я спакою сабе шукаю*
*З цягам часу ўсё часцей.*

●

*Сонца мацае горад праменнем.*
*Спакваля запаволю хаду,*
*Пад канвоем уласнага ценю*
*Я далёка, бадай, не пайду.*
*Я вясновым дзяньком захлынуся,*
*Пагляджу ў недасяжнае неба*
*І убачу праз безліч спакусаў*
*Толькі тое, што мне без патрэбы.*

*Буду доўга хадзіць я кругамі,*
*Мераць вуліцу, нюхаць паветра.*
*Мусіць, кепска, што з раніцы п'яны,*
*Але справа, паверце, не ў гэтым.*
*Відавочнага бачыць не хочу,*
*Сам паглядаў чужых пазбягаю,*
*І, пакуль не заплюшчацца вочы,*
*Я блукаю, блукаю, блукаю...*

●

*Ад зімы я хаваюся ў гэтых вачах*
*І блукаю па іх, як па доўгіх начах,*
*Што прысніць дазваляюць пяздзейсную мару*
*І усмешку, што Вам сёння вельмі да твару.*

*Вашы словы абапал маёй цішыні*
*Запрашаюць мяне пад свае прамяні,*
*Забіраюць употай апошні спакой.*
*Я ніколі раней Вас не бачыў такой.*

*Мне здаецца, што я — ужо болей не я.*
*Ад здзіўлення і дыхаць не ведаю як.*
*Без прасторы і часу канчаецца дзень,*
*Разлятаюцца сумныя рэшткі надзей.*

●

*Ты прымусіла пець абарваныя струны,*
*Ды стаміліся пальцы, узяўшы першы акорд,*
*І сама цішыня усміхнулася сумна,*
*А пасля быў уздых, а за ім быў паўтор.*

*І чаму тая песня раптоўна узнікла*
*Запрашэннем патаньчыць сярод летняга сну?*
*Мне ад гэтае песні так цяжка адвыкнуць,*
*І ужо немагчыма не кратаць струну.*

*І нябачны матыў раздае свае ноты*
*Таямнічаю хваляй сляпога цяпла.*
*І мінаюць імгненныя летнія ночы,*
*І апошняя раніца не надыйшла.*

●

*Раніцою ціхая зіма*
*Двор зрабіла белым і халодным.*
*Неяк гэта я не ўпільнаваў,*
*Не сустрэў яе на падыходзе.*

*Хоць яшчэ фармальна лістапад,*
*Але ўжо ўладараць снегапады.*
*Традыцыйна трэба сумаваць*
*З гэтай пераменаю улады.*

*Але нешта сум не ў галаву,*
*Мусіць, пасумую іншым часам,*
*Вельмі тэрмінова я жыву,*
*Вось і не трапляю быць сучасным.*

*Заўтра будзе раніца, а я*
*Жыў учора ёю і па-свойму.*
*Тая ж, што сягоння — не мая:*
*Надта ўжо з'явілася павольна.*

●

*Выплывалі туманы,*
*Абарваўшы сон начны,*
*Хавалі ад вока пачатак дня.*
*Бачу я перад сабой*
*Развітальны позірк твой,*
*І ён ужо належыць туманам.*

*Пройдзе час, і застанецца толькі ў ім*
*З развітання пачаты дзень —*
*Як след жаданага,*
*Як свет загаслага,*
*Як цень ад месяца ты*
*Паўсюль, дзе цябе няма.*

*Будзе бачнай далячынь,*
*Будзе тысяча прычын,*
*Каб я ў яе не схацеў глядзець.*
*Ды заменяць туманы*
*Шэры дожджык аблажны,*
*Схавае мяне, як схаваў цябе.*

*Рэхам плыў па жыцці пасівелы дзень,*
*Туманы атачалі шлях,*
*І след жаданага,*
*І свет загаслага,*
*І цень ад месяца ты*
*У снах пустых.*

●

*Ад вачэй зялёных я жыву не так,*
*У вачах зялёных таямнічы знак.*
*Што ты ведаеш запаветнае?*
*У вачах зялёных таямнічы знак.*

*У пунсовым свеце рання*
*Выспявае прадчуванне*
*Хуткіх перамен.*
*І макрэюць твае вочы —*
*Развітання ты не хочаш —*
*Ясна як дзень.*

*Не ратуюць мае словы,*
*Стаў зялёным свет пунсовы,*
*Крохкі, як лёд.*
*І, узнікшы са здзіўлення,*
*Нечаканае імгненне*
*Поўніць усход.*

*Ад вачэй зялёных я жыву не так,*
*Светлая усмешка у тваіх вачах.*
*Недасяжная, невыказная*
*Светлая усмешка у тваіх вачах.*

●

*Калі пачацца — ведае зіма,*
*Калі па чарцы — ведае прапойца.*
*І так нялёгка часам супакоіцца*
*Таму, хто спадзяваўся іх стрымаць.*

●

*У адмарозкаў логіка свая,*
*І так няпроста часам зразумець,*
*Чаму яны працягваюць стаяць,*
*Калі ім сама правільна — сядзець.*

ПРОЗА

Васіль ТКАЧОЎ

# ТАК ПЛАЧА АКНО



АПАВЯДАННЕ

Галя не першы раз тузанула руку: дарэмна, адно што пеканула болем. "Гад! — заплюшчыўшы вочы, адчайна прамовіла жанчына, матлянула галавой і не магла стрымаць слёз: тут і не кожны б мужчына вытрымаў, а што ўжо гаварыць пра яе, кволую, дваццацігадовую. — Заўтра ж аднясу дакументы на развод. Хопіць. Нацярпелася. І які д'ябал вымусіў мяне пайсці замуж за мянта паганага?! Гэта мама: выходзь, дачка, не пашкадуеш, грошы добрыя будзе прыносіць. Напрыносіў! А цяпер вось і наручнікамі прышпіліў да батарэі... А сам храпе, гад. П'янтос у пагонах!"

П'янтос, а па пашпарце Цэдрык, міліцыянер з трыма лычкамі на пагонах, варухнуўся, прадраў адно вока, доўга свідраваў ім жонку, прабурчэў:

— Сама добра — жонку на ланцуг, і ўсе дзеці будуць толькі на цябе падобныя.

— Ідыёт! — вырвалася ў Галі. — Як ты можаш?! Што ты вярзеш? Я ж... я ж, акрамя работы, нідзе не бываю.

Цэдрык адвярнуўся:

— Не перашкаджай спаць. А прафілактыка бабам патрэбна. У любым выпадку. Як зямлі дождж у спёку. Сплю-ю!.. — Ён глыбока пазяхнуў і суцішыўся.

Галя, уздрыгваючы худзенькімі плечыкамі, папрасіла:

— Міша, адшпілі. Рукі баляць. Хопіць здзекавацца. Я ж не вінаватая. Ну, Мішка-а-а!..

Не гледзячы нават на жонку, Цэдрык, пракаўтнуўшы сліну, вырак:

— Пасядзі, пасядзі... на ланцугу. І дзякуй скажы, што я прышпіліў цябе каля акна. Кругагляд. Не сумна. Што бачыш, га, жонача?

— Га-а-ад! — затрэслася яшчэ больш Галя, а вочы затуманілі слёзы. — Каб ты здох!

— Будзеш абражаць міліцыю, пакараю больш строга, — прамовіў Цэдрык і захроп.

Галя ж глядзела на акно, і ёй здавалася, што не яна плача, а яно. На шыбах былі слёзы. Розныя — і вялізныя, бы раннія зялёныя вішні, і малюпасенькія, як усё роўна недаспелыя ягады смародзіны. Яны, тыя слёзы-вішні-ягады, іншы раз мітусіліся хаатычна, беспарадкава, але сцякалі ўніз, уніз... Калі прыгледзецца больш уважліва да шыбы — а Галя гэта заўважыла адразу, — то можна ўбачыць і сябе, і яго, нягодніка Цэдрыка. Ён, вядома ж, нахабна рагоча, потым закасвае рукавы, плюе на далоні: сцеражыся, бойся, жонка! А вунь і сама яна... У ражку шыбы... Змізарнелая, запалоханая... Яна бачыць сябе надзвыча хораша... Суялася ўся, трымціць. Зараз будзе бойка. Зараз пачнецца. І Галя, быццам прыйшоўшы да памяці пасля нядоўгага маўчання, плюе на акно і паўтарае — толькі не ўслых,а сама сабе: "Г-гад!" Вінаваты ён, Цэдрык, а дасталося шклу. Не жывое — у яго не папросіш прабачэння. Але нешта рабіць трэба. Жанчына дацягнулася ўсё ж — ледзь не разарвалася — да шыбы, сцёрла сліну.

Хочацца спаць. Падбароддзе паступова асунулася на грудзі, замгліліся вочы. Сама сабе загадала: "Спаць, спаць, спаць!" Хоць так, не па-людску. Стамілася за дзень на рабоце. А больш — дома... Толькі ж сон не слухаецца яе, не адольвае. Было ж адно жаданне — праваліцца ў забыццё, а прачнуўшыся, убачыць нарэшце цвярозага Цэдрыка і, магчыма, плюнуць цяпер яму ўжо ў вочы. Цвярозы ён ніжэй травы, цішэй вады, а вып'е — дурань дурнем.

"Хоць бы мама, ці што, прыйшла? — думае Галя. — Як няма асаблівай патрэбы — дзесяць разоў прыбяжыць на дні. А калі здзекуецца муж — не чуе яе сэрца бяды, не спяшаецца на падмогу".

З Цэдрыкам Галя пазнаёмілася ў тралейбусе. Быў ён у цывільным адзенні, даўгалыгі і белазубы, з густымі брывамі, чорнымі, як смоль, але рэдкімі валасамі. Гаварыць умеў. Улюлюкаў. Неўзабаве яна пазнаёміла Цэдрыка са сваімі бацькамі — на гэты раз жаніх апрануў міліцэйскую форму, якая яму добра пасавала, і маці, з зайздрасцю кінуўшы лагодны позірк на бацьку, паказала ўсім сваім выглядам: здаецца, тое, што і трэба нашай Галінцы! А калі дачка засталася адна, пацалавала яе ў шчаку:

— Выходзь. І не думай. Відны і пры пагонах. А ў міліцыі абы-каго не трымаюць.

Бацька больш маўчаў. "Самі разбірайцеся".

Цэдрык прачнуўся першы. Мітуслівa паглядзеў на акно, на жонку, якая, паклаўшы галаву на маленькія кулачкі і падкурчыўшы ногі, спала. Да яго нарэшце дайшло: гэта ж, мабыць, я?.. Усхапіўся. Разамкнуў наручнікі — і Галя лягла спіною на падлогу, паклала збалелыя рукі на жывот: ён ужо прыкметна выдаваўся — у сям'і Цэдрыкаў чакаўся першынец.

— Прабач, Галя! — муж схіліўся над жонкай, прыпаў на калена, прыўзняў яе за плечы. — Паглядзі на мяне. Паглядзі. І даруй.

— Ні-ко-лі, — не расплюшчваючы вачэй, прашаптала Галя. — Ідзі. Ідзі, Міша. Я адна выгадую дзіця. Пакуль бацькі жывыя — не дадуць прапасці. А з тваіх грошай толку няма. Прапіваеш усё роўна. Ды і нядоўга ты пратрымаешся... Раскусяць. Не сёння, дык заўтра. Такімі, хіба, міліцыянеры павінны быць, як ты?..

Цэдрык маўчаў. Ён толькі раз-пораз нервова сціскаў кулакі, узнімаў іх над сабой, і, здавалася, не ведаў, што рабіць з імі далей. Усё ж папрасіў яшчэ раз:

— Даруй. Я больш не буду піць.

— Чула ўжо. І першае, і другое...

— Абяцаю! — Цэдрык прыклаў далонь да грудзей.

— Хто нешта хоча зрабіць, той не абяцае, а робіць.

— Вось пабачыш! Слова!

Галя сказала пра развод. Неадкладны. Паабяцала заўтра-паслязаўтра — як толькі збярэ ўсе неабходныя паперкі — аднесці заяву ў суд. Цэдрык моўчкі яе выслухаў, уздыхнуў, моўчкі прыхінуў за сабой дзверы і зацокаў абцасамі па прыступках...

У той вечар ён дамоў не вярнуўся. Але пазваніў і абяцаў зноў прышпіліць Галю да батарэі. Жонка паківала галавой, самотна ўздыхнула:

— Усё ясна... Толькі больш — запомні! — не атрымаецца.

Раптам Галя залілася смехам, вясёлым, гарэзлівым, што, відаць, прымусіла прыпыніць дыханне і развіць рот Цэдрыка: бач, ажыла і здзекуецца. — Чаму, цікава, не атрымаецца? Проста, вельмі проста: больш я цябе не пушчу і на парог. Скардзіся, куды хочаш. Ці, можа, мне першай?

Цэдрык, падалося Галі, працверазеў:

— Не-не! І я не буду! І я!.. Ніколі!.. А там... А там разбяромся. Мне трэба пабыць аднаму. І сапраўды... Чуеш?

Галя першай паклала трубку.

Цяпер часта сядзіць яна на табурэтцы перад акном, а рукі трымае на жываце, у якім нагадвае пра сябе жывая істота, і Галя размаўляе са сваім дзіцем — пяшчотна, цёпла, з мацярынскім замілаваннем, бы дзіця тое сядзіць у яе на каленях, яна гушкае яго, а малеча смокча — хоць бы! — соску і слухае яе:

— А ведаеш, маленькі мой, акно, здаецца, больш не плача. Не бачу слёз. Не відаць. Бачыш, чысценькае яно, бліскучыць, зззяе. А вунь і татка твой пайшоў. П'яны. Хістаецца. Ну ў форме... З барадой... Стаіць, глядзіць на нас з табой. Давай адвернемся? Вось так. Ага. Вось і правільна. Так лепш. Нам абаім...

Галя і зусім захінула вакно фіранкамі і села падалей ад яго: не хоча зноў убачыць, як яно плача...

Міхась КЛЕБАНОВІЧ

# КАЛЯРОВАЯ МЯЦЕЛІЦА



ТРЫПЦІХ

**I**

Начнога прымаразку не было, і машына мякка коціцца ў прыцемку па сырой лугавіне; не чуваць ні хрумсту, ні плёскату, матор глушыць усе гукі. Уперадзе цямнее лясок і не адразу перад ім прыкмячаецца невысокі ўжо голы пагорак з разлапістай сасной без верхавіны і каля яе тры чорныя камякі. Камякі шавеляцца — жывыя. Машына падсоўваецца бліжэй і ўжо можна распазнаць цецерукоў, што тупаюць адзін перад адным, хіляць галовы, нібыта нешта клююць, а распушчаныя хвасты з беленечкім падхвосцем задзіраюць угару. Ды гэта, здаецца, і не хвасты, а спадніцы старадаўніх модніц, надзетыя так адна на адну, каб кожнай хоць брыжык быў відзён, каб весяліць старонняе вока. Ды, можа, не ў павагу будзе касачам параўнаць іх убор са спадніцай — усё ж такі яны кавалеры. Гранды! Палюбуйцеся, як яны павольна і важна, з гонарам, пахаджваюць па традыцыйнай арэне, кланяюцца, паварочваюцца, выстаўляюць напаказ пераліўчатыя "ліры".

І, бадай, нешта гавораць, без абразлівых пагроз, нешта дэкламуюць, бо кожны іх гук, кожны рух прызначаны не храбраму візаві, а вунь той непрыкметнай красуні, што шэраю купінкаю патэпвае ля куста, ціха квохкае.

Сышліся яны, вядома, на паядынках, аднак пакуль не квасяць насоў, вытрымліваюць рытуал, і рабенькай квактушцы не проста вылучыць аднаго, адзінага, з гэтай цудоўнай тройцы.

Рабінавыя бровы гараць, чорныя гарнітуры зіхацяць шоўкам, пругкія ногі размерана, цвёрда ступаюць у акрэсленым коле — пакуль што размінка, лёгкі танец — менуэт. А пасля ўжо, як разгарэюцца, у пэўны час, кінуцца сапернікі-байцы грудзьмі — імкліва, моцна, аж пух паляціць, і будуць біцца да поўнай знямогі. Але не на згубу. Бойка больш для пахвальбы, дэманстрацыі дужасці, спрыту, дзе ніхто не пераступіць закона гонару і прыгажосці. Таму і не хаваюцца яны ў гушчары, дзе творацца цёмныя драмы, а гуляюць на палянцы, на самым відавоку.

Машына коціцца і коціцца напрасткі, паволі адтапырваюцца дзверцы, і ў пройму апушчанага шкла высоўваецца руля. Крайні цецярук не глядзіць туды, дзе нічога прыманлівага няма, дзе сунецца нейкая шэрая будка — перад ім два выфранчаныя хварсуны і ён павінен правучыць гэтых жаўтаротыкаў, вымесці іх адсюль, як леташнія лісце. Каб ведалі, хто тут самы дастойны, хто мае поўнае права справіць вялікі закон прыроды.

Ён выпінае грудзі, напружвае ногі... і чужая неадольная сіла раптам падкідае яго ўгару. І ён, распластаўшы крылы, завісае на міг у паветры; снежны падбой зззяе водсветам новага дня, па такавішчы праносяцца палахлівыя цені — шухнулі ў засень кустоў канкурэнты...

Шырокі, магутны, непаўторны ў сваёй адмысловай красе, ён пераможна лунае ў вольнай стыхіі, быццам адцягвае жаданы момант яднання з той, дзеля каго ён і прыляцеў сёння на рысталішча...

Няўлоўна кароткае імгненне шчасця, невыносна доўгае імгненне памяці... І ў гэты міг ён падае долу чорнаю пакамячанаю анучай.

**II**

Бог і лесу не зраўняў, а тут толькі дзве бярозы і — розныя, як сёстры.

Адна, што стаіць на ўскрайку двара пры самай агароджы дзіцячага садка, шырокая, пышная, здалёк прыкметная. Пад ёю такавішча карцёжнікаў, вольных гуляк, што час ад часу поруч пад бок нажамі, малоцяць бутэлькамі, а ёй быццам і не ў знак. Глядзіць на свет весела, прыветна, кожны лісцік свеціцца — знізу ў цяньку сакаўною зелянінаю, вышэй, на сонцы — празрыстаю жаўцізною, а на верхавіне блікуе пад промнямі серабром, ажно вочы сляпіць.

Другая, за рашоткаю садка, маладзейшая, паставаю нагадвае вярбу, пахілая, журботная, з доўгім веццем, што ледзь не чапляецца за траву. Пад ёю па-грачынаму гарланяць дзеткі, раскідваюць свае яркія цацкі, а яна нібыта і не чуе і не бачыць — усё самотна тужыць, пакутуе. Здаецца, вось-вось заплача. І плача. Хай толькі ахіне туман ці зацярусіць дожджык, дык потым доўга не высыхаюць яе косы. А калі дзьмухне вецер, яна так будзе пакутліва хіліцца, так няўцешна хістацца, хоць ты вазьмі ды заслані яе чым-небудзь, прыкрый.

Так і жывуць яны поруч, непадобныя, як сёстры, кожная са сваёй радасцю і журбою.

І вось падступілася восень, прыхапілі першыя прымаразкі і аднойчы выглянула сонца з-за высознага дома і не пазнала бяроз. Весялуха, спрэс голая, свеціць усімі рэбрамі і адразу відно, якая яна хворая, скалечаная, старая.

А маладая ну хоць бы адзін лісток згубіла, стаіць уся ў золаце, ад яе святло на ўвесь двор, і сляпы не праміне, каб не палюбавацца ёю, не задумацца, якое ж сёння свята.

І ўсё роўна нечага ёй не стае, усё роўна хіліць чубок, нечага журыцца.

Ну ці не прытвора?

А мо чула, знала сваю долю?

Пры рэканструкцыі двара яе першую спілавалі.

**III**

За вуглом дома на прамерзлым асфальце забаўляецца кучка апалага лісця. Дзьмухае ветрык, ужо калючы, і яно, каб не ўкачанець, варушыцца, пачынае кружыцца; які лісцік дык высока ўзляціць, потым, пагойдваючыся, прыляжа, а далей ціхенька пасунецца, папаўзе, паплыве ўбок, як бы спрабуючы адасобіцца, а за ім, мусіць, усачыўшы, яшчэ адзін, другі, потым ужо ўсёю чарадою ўзвіваюцца матылямі, весела віруюць. І кружацца, кружацца амаль без спачыну, на нейкі момант заціхнуць, але не надоўга — ізноў нейкі няўрымслівец не стрывае, кульбітам узляціць угару, тады і самыя рахманыя пачынаюць падбрыкваць, — зашуміць, забурліць стракатая завіруха. Асабліва выпінаецца драбяза — жоўтая без летняга бляску бярозавая краса; стараецца не падгадзіць бэзавая зелянiна — яна і пад восень не мяняе афарбоўкі; крыху цяжэй, марудней падскокваe парудзелае лісце клёна, ну а каштанавае яўна стрымлівае сябе, быццам саромеецца блазнаваць разам з малечай — ну як жа яно, такое важнае, саліднае і будзе выпендрывацца перад усімі, таму яно толькі па-старэчы пляскае разлапістаю даланёю... Але нячутныя староннняму рытмы падхопліваюць і яго, і ўжо, здаецца, на ўсю шырыню вуліцы віхурыць каляровая мяцеліца.

Ужо і малыя і большыя ў адным карагодзе. Каб прыслухацца, мо і пачуў бы іх дзіцячы віск і смех.

Танцуюць.

Гуляюць.

Весяляцца.

Мабыць, яшчэ не ўсвядоміўшы, што яны ўжо нежывыя.

## Вабяць "Беларускія каляды"

**Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры РБ запрашае на выставу "Беларускія каляды", якая**



**размясцілася ў Гасцёўні У. Галубка, у Траецкім прадмесці. Тут можна пазнаёміцца з многімі экспанатамі музея і звесткамі пра каляднае свята, якія назапасіў музей за апошні час, — усяго 90 экспанатаў.**

**Як вядома, гэтае старажытнае свята суправаджалася варажбою, калядаваннем, забавамі, рытуальнымі песнямі. Таму ў экспазіцыі змешчаны мастацкія творы Н. Квача "Каляды" і "Вадохрышча" з серыі "Каляндар народных святаў", Калядная Зорка і маска казы, зробленыя народнымі майстрамі, пано В. Грэка "Скамарох" і В. Кавалеўскай "Калядкі", эскізы А. Вахрамеева да спектакля "Бураціна" ў Дзяржаўным тэатры лялек Беларусі, Дзед і Баба мастака А. Фаміной да спектакля "Дзед і жораў".**

**Асноўную залу адкрываюць эскізы касцюмаў да танцавальнай кампазіцыі "Калядкі" мастака А. Александровіч. Тут і хлопцы з Калядной Зоркай і бубнам, Цыган з завушніцай, мужчына з мехам, жанчына з дзіцем, чорт і інш. Усе яны захапляюць і ўражваюць добрым веданнем этнаграфіі, дакладнасцю, густам. Ад іх вее свежасцю зімовых калядных забаў, подыхам ветру, весялосцю і гумарам.**

**Прадстаўлены і розныя музычныя інструменты: цымбалы, зробленыя невядомым майстрам з Вілейскага раёна, гармонік 30-х гадоў, рэстаўраваны майстрам Я. Бацяноўскім, альт мінскага майстра К. Тарасёнка. З гэтых інструментаў складалася звычайна "траістая музыка". Тутсама дуда і жалейкі майстра В. Кульпіна, тамбурын майстра М. Хадыкі, дудкі і трашчоткі. У калядным свяце музыкі-выканаўцы на гэтых інструментах адыгрывалі асноўную ролю і былі асабліва папулярныя.**

**У цэнтры экспазіцыі — беларускі народны тэатр "Батлейка", у спектаклях якога раскрываліся рэлігійныя сюжэты, звязаныя з нараджэннем Хрыста. Персанажы тэатра — Цар Ірад, Багародзіца, Вешчуны, Рахіль, Цыган, Цыганка, Антон, Антоніха, Мацей, Доктар, Казак, Салдат, Чорт, Смерць і інш. — увасоблены мастакамі М. Анціпкінай і Н. Лось. У кампазіцыю ўключаны эскізы рэгіянальных мужчынскіх і жаночых строяў, выкананых у свой час М. Раманюком для Дзяржаўнага народнага хору Беларусі імя Г. Цітовіча.**

**Выстаўка таксама знаёміць з унікальнымі мініяцюрамі "Радзівілаўскага летапісу", якія раскрываюць тэму калядных святаў, і з нотамі калядкі — псальмы ў аранжыроўцы У. Раговіча; прадстаўлены метадычныя распрацоўкі "Свята ў садочку", "Сцяжынка ў даўніну".**

**Як сімвал цішыні і спакою пад столлю вісіць традыцыйны саламяны павук. Менавіта цішыні, спакою, міру заўсёды жадалі людзі адно аднаму ў калядныя святы.**

**І апошняе, што прыцягвае ўвагу, — эскізы мастацка-вобразнага ўвасаблення Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі, зробленыя І. Куржалавым, дзе знойдзе сваё адлюстраванне і гэтая тэма — тэма калядных святаў.**

**А. МІХАЛЕНЯ,**
**старшы навуковы супрацоўнік музея**

МЕРКАВАННЕ

# "Тэатральныя эксперыменты" адыходзячага стагоддзя

***Азначэнне "эксперыментальны тэатр", як канстатуюць некаторыя даследчыкі, сапернічае з такімі тэрмінамі, як "тэатр авангарда", "тэатр пошуку", "тэатр-лабараторыя", "перформанс"...***
***Калі Заходняя Еўропа сутыкнулася з гэтымі з'явамі яшчэ ў сярэдзіне стагоддзя, то ў Беларусі "тэатральны эксперымент" асабліва ярка праявіў сябе толькі ў 80-90 гады, у творчасці студыйных калектываў. У апошнія ж гады без эксперыментальных пастановак немагчыма ўявіць сабе і ўжо акадэмічную сцэну...***

На сцэне Рускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра, да прыкладу, пастаўлена "Дзікарка" Ж. Ануя — адна з лепшых п'ес гэтага драматурга. Рэжысёр А. Карпаў адмаўляецца ад традыцыйнага прачытання відомага твора. Ён разам з мастаком У. Чарнышовым прапаноўвае гледачу незвычайную форму сцэнічнага відовішча. На высокай лесвіцы размяшчаецца аркестр, і кожны з персанажаў спектакля прадстаўляе той ці іншы музычны інструмент (аб гэтым заяўлена і ў праграме спектакля). Хтосьці трымае ў руках Саксафон, Акардэон ці Віяланчэль, у адпаведнасці з імем персанажа. Так, напрыклад, галоўная гераіня Тэрэза Тард (Т. Баўкалава) з'яўляецца Першай скрыпкай, а яе каханы, малады кампазітар Фларант (А. Душачкін) — Раялем.

Аднак усё гэта элегантна-музычнае відовішча вельмі хутка надакучвае гледачу. Музыка цудоўная, касцюмы таксама, але пры гэтым адсутнічае самае галоўнае — дзеянне. І калі глядач не знаёмы з п'есай, то яму вельмі цяжка разабрацца ў тым, што адбываецца на сцэне. Акцёры А. Корчыкаў, Н. Чамадурава, А. Пастрэвіч, А. Брухацкі, Л. Былінская дакладна фіксуюць характары сваіх персанажаў, вымаўляюць тэкст, але чамусьці пры гэтым інтэлектуальная драма Ануя прачытваецца павярхоўна, неглыбока. Хутчэй за ўсё таму, што рэжысёрская задума ярка не акрэслена, можна сказаць, адсутнічае наогул. Рэжысёр нібы свядома не звяртае ўвагу на драматургію, яго больш цікавіць аўдыярад, пластычныя мізансцэны і эфектныя пабудовы. Часам гэта выглядае недарэчна і смешна, як, скажам, заключны танец гераіні, які заканчваецца дзіўным ці то стогнам, ці то крыкам душы. Дарэчы, што датычыць Першай скрыпкі, то яе лінія ў спектаклі таксама выяўляецца не зусім дакладна і зразумела. Гэта зусім не ануеўская Тэрэза Тард, якая тэмпераментна, пранікнёна пратэстуе супраць мяшчанства, падману і прыстасавання да жыцця, якому яе вучаць бацькі. І якую літаратуразнаўцы па сваіх унутраных якасцях ставяць у адзін шэраг з Антыгонай. Гераіня Т. Баўкалавай мілая, кволая дзяўчынка. Яе пратэст у спектаклі можна параўнаць з пратэстам любімага дзіцяці. Яна сапраўды нечым незадаволена. Толькі вось што з ёй адбываецца на самай справе, так і застаецца таямніцай да канца спектакля. Застаецца незразумелым, чаму ўсё ж спектакль называецца "Дзікарка". Яму хутчэй бы падышла назва "Аркестр". Зрэшты, такая п'еса ў Ануя ўжо ёсць.

Адсутнасць дакладнай рэжысёрскай задумы, альбо нявыяўленасць яе ў спектаклі — стала своеасаблівай тэндэнцыяй у беларускім сцэнічным мастацтве апошняга дзесяцігоддзя. На маю думку, гэта адбываецца таму, што многія рэжысёры, празмерна захапляючыся пабудовай знешняй формы спектакля, забываюцца пры гэтым на саму п'есу. А якой бы эфектнай, ашаламляльнай ні была форма, першаступенная застаецца задума драматурга. Іншы раз п'еса так і застаецца неразгаданай тэатрам.

"Альпійскае ззянне" Петэра Турыні — аднаго з выдатных прадстаўнікоў аўстрыйскай драматургіі, — на мой погляд, прачытана Рускім тэатрам вельмі банальна і нецікава (рэж. В. Грыгалюнас). Да таго ж, успрыманню сцэнічнага дзеяння перашкаджае перагружанае мастацкае афармленне У. Чарнышова. "Альпійскае ззянне" не належыць да разраду бытавых, усё яго дзеянне наўрад ці можна назваць звычайным, рэальным. Як падкрэслівае сам драматург у адным інтэрв'ю: "Я хацеў напісаць п'есу аб тым, наколькі мы ўжо сёння жывём у свеце ўяўных і неправяральных рэчаіснасцю вобразаў". Гэта датычыць галоўных персанажаў п'есы — Старога і Жасміны. Кожны з іх прыдумвае сам сябе, сваю гісторыю аб уласным жыцці. Мы не можам быць упэўнены ні ў сляпце Старога, ні ў акцёрскіх здольнасцях Жасміны. Мы можам толькі разгадваць, хто яны, гэтыя двое: звычайныя няўдачнікі альбо таленавітыя, незвычайныя, непадобныя да іншых людзі. І не вядомыя нам, нібы прышэльцы з іншага свету. Ва ўсім гэтым ёсць элементы не толькі фантазіі, але і намёк на нейкае нерэальнае існаванне гэтых вобразаў, містычнае, нават іншаземнае. Рэжысёр захапляецца знешнім пластом драматургіі, акцэнтуе ўвагу на камічных сітуацыях: то пераапранае Старога ў пакамечаныя пінжакі, недарэчныя гальштукі, то насаджвае яму "птушыныя" акуляры, якія публіка не можа не ўспрымаць без смеху. Усе гэтыя так званыя прыёмы нагадваюць добрую самадзейнасць, для якой, магчыма, самае вялікае дасягненне — рассмяшыць гледача. У нашым жа выпадку акадэмічны тэатр (а не народны) мае справу з еўрапейскай драматургіяй высокага гатунку і валодае ўсімі магчымасцямі, каб прафесійна прачытаць і данесці яе да гледача.

На эксперыментальнай сцэне Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа В. Баркоўскім пастаўлены "Пісьменныя" М. Чокэ. Гэты твор дастаткова складаны. Ён уяўляе сабой абсурдысцкую драму, за бессэнсоўнымі словамі якой прачытваецца трагічны філасофскі сэнс нашага быцця: "...Мы ўсе паводзім сябе так, быццам знаходзімся звонку. Быццам усё гэта нас не датычыць?.. Жывём так, быццам недзе вучыліся жыць — так, як вучацца есці відэльцам і нажом?

МУЗЫКА

# На чале хору

***У Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы Беларусі — аншлаг. Многія ўжо не ўпершыню прыйшлі на спектакль "Набука": прываблiваюць чароўная музыка Д. Вердзі, уражлівыя харавыя сцэны, стасункі моцных, валявых характараў. Побач са мной у той вечар сядзела галоўны хормайстар тэатра Ніна Ламановіч. Яна не магла без хвалявання слухаць, як спяваюць яе гадаванцы, і то згодна ківала ў такт музыцы, то раптам, калі яе прафесійнае вуха ўлоўлівала нейкую недакладнасць, хутка-хутка накіроўвалася за кулісы, каб перамовіцца з артыстамі хору...***

"Ніколі не думала, што мы спяём "Набука", — заўважае Ніна Іосіфаўна. — Вельмі складаныя харавыя партыі!. Але ж папрацавалі рупліва, пільна, сур'ёзна, карпатліва".

І вось ужо гэтую оперу ў выкананні нашага тэатральнага калектыву пабачылі не толькі на роднай мінскай сцэне, але і за мяжой. Спектакль з поспехам быў паказаны ў Германіі, спадабаўся такім тонкім знаўцам музычнага мастацтва, як немцы. Хор проста-такі не адпускалі са сцэны. Шчыра апладзіравалі яму і ў Швейцарыі. Дарэчы, артыкул у швейцарскай газеце "Салатурнцайтунг" зазначыў высокі прафесіяналізм харавога калектыву Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі і галоўнага хормайстра Ніны Ламановіч. Адзначалася, што артысты хору — не толькі прыгожыя і таленавітыя, разам з салістамі цудоўна пераўвасабляюцца, літаральна жывуць на сцэне, дапамагаюць раскрыццю драматургічнага зместу.

Сёння ўсе оперныя спектаклі выконваюцца ў нас на мове арыгінала. Артыстам давялося перавучваць оперы Вердзі "Аіда", "Баль-маскарад", "Дон Карлас" з рускай мовы на італьянскую, каб адпавядаць сусветнай традыцыі. І гэта таксама, як і натхнёнае выкананне, спрые поспеху нашых спектакляў і на гастролях за мяжой, і ў тых аматараў з заходніх краін, якія спецыяльна прыязджаюць у Мінск паслухаць оперу. Але ж колькі каштавала перавучванне выканаўцаў!

На пісьмовым стале Ніны Ламановіч можна ўбачыць вялікі тоўсты італа-рускі слоўнік. Час ад часу зазірае яна ў гэты том, каб патлумачыць артыстам хору той ці іншы тэкст з раней не вядомай для нас оперы "Набука". Да таго ж, трэба, каб усё гучала па-мастацку, трэба "нанесці глянец", каб у выкананні адчуўся сапраўдны прафесіяналізм...

Мне давялося пабываць на адной з рэпетыцый, калі Ніна Іосіфаўна замацоўвала, адшліфоўвала вывучанае, працавала з хорам над гукам, нюансіроўкай, тэмбрам выканання. Працавала яна з захапленнем, быццам бы не адчуваючы ні часу, ні стомленасці. Пачынала рэпетыцыю самыя цяжкія месцы і, зважаючы на тое, што вечарам няма спектакля, старалася даць хору большую нагрузку. Не зніжаючы тэмпу працы.

●

Шлях Ніны да мастацтва пачынаўся з маленства. Бацька яе быў вайсковец, маці — па адукацыі педагог. Яна пайшла ў маці, у бабулю — вельмі любіла спяваць з шасцігадовага ўзросту. Яны жылі тады ў Палескай глыбінцы. Дзяўчынка з асалодай займалася ў самадзейнасці, спявала ў вакальным ансамблі. Бацькі купілі ёй піяніна. Потым Ніна стала студэнткай дырыжорска-харавога аддзялення Гомельскага музычнага вучылішча. Ёй пашанцавала трапіць у клас Пятра Кірэйцава, які кіраваў на Гомельшчыне знакамітым ансамблем "Рэчанька" — лаўрэатам І конкурсу "Алё, мы шукаем таленты". У гэтым калектыве спявала і Ніна.

"Пётр Фёдаравіч пераверНУЎ мае ўяўленні пра музыку, — успамінае Н. Ламановіч, — ён пазнаёміў мяне з опернымі харавымі сцэнамі. Асабліва мне падабалася музыка Чайкоўскага, Рахманінава. Памятаю, як я дырыжыравала фінальнай сцэнай з оперы Сяргея Рахманінава "Алека" і па-сапраўднаму пачала разумець гэтую ўзрушальную драматургію, цікавую музычную інтанацыю".



У кансерваторыі яна апынулася ў класе Аляксея Кагадзеева — на той час галоўнага хормайстра Акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі. Літаральна з першага курса прыйшла ў оперу і проста-такі ўлюбілася ў гэты жанр — цудоўнае спалучэнне музыкі, драматургіі, жывапісу, танца.

"Усе выканаўцы оперных спектакляў мне тады здаваліся небажыхарамі, — гаворыць яна. — Але давялося ўсю "кухню" вывучаць з-за куліс".

Калі студэнтка Ніна Ламановіч прыйшла працаваць у оперны тэатр, ставілі "Лаэнгрын" Р. Вагнера. Гэтаму папярэднічала яе праца з хорам опернай студыі кансерваторыі ў спектаклях "Яўгеній Анегін", "Травіята". У тэатры пачала самастойна працаваць у пастаноўцы оперы Г. Даніцэці "Дон Паскуале". На той час у калектыве працавалі таленавітыя дырыжоры — Таццяна Каламійцава, Яраслаў Вашчак, Іосіф Абраміс, Уладзімір Машэнскі.

"З Таццянай Міхайлаўнай Каламійцавай

Так звычна, быццам жылі ўжо дзесяткі разоў? Нанізваем жэсты і словы адно на адно, па старых правілах, якія больш не маюць сэнсу, не маюць зместу?.." В. Баркоўскім вельмі дакладна выяўлена галоўная думка драматурга: "Мы не жывём, мы гуляем у жывых". І таму на сцэне няма жывых людзей, ёсць людзі-манекены.

Тэатр прапануе гледачу сваю ўласную рэдакцыю п'есы, пра што і адзначана ў праграме. Аўтарскі варыянт яе больш насычаны дзеяннем і больш складаны па тэксце. Карціны п'есы вымалёўваюцца то ў царкве, то ў незвычайна абстаўленых кватэрах, то ў бальніцы, у зале ў стылі барока, запоўненай святлом бальнай зале... Тэатр жа прапануе змрочнае, пераважна ў чорных колерах, неакрэсленае месца дзеяння. Магчыма, тут палічылі, што галоўная думка заяўлена — і ў гэтым вялікае дасягненне. Асабіста мне здаецца, што ў дадзеным выпадку гэтага недастаткова. Хоць, магчыма, каго-небудзь сёння яшчэ і можна здзівіць эстэтыкай антытэатра 70—80-х гадоў (механічны сэкс людзей-манекенаў выклікае агіду і сваім выкананнем, і існаваннем на сцэне). Учарашнімі (а то і пазаўчарашнімі) з'яўляюцца і сцэнаграфічныя "адкрыцці": шкло і акварыумы, праз якія размаўляюць персанажы. Вядома ж, усё ў жыцці і мастацтве паўтараецца, але ў нейкай іншай, новай якасці. Мне заўсёды падабалася смеласць В. Баркоўскага ў тэатры. На жаль, у "Пісьменных" я не заўважыла ў рэжысуры нічога новага, што было б ім ужо не паказана значна раней, у студыях. Тым больш не ўбачыла даўно знаёмых акцёраў таксама ў нейкай новай якасці, акрамя толькі таго, што яны апранулі фракі. Аднак, у эксперыменце тэатра ёсць і станоўчае. "Пісьменныя" і многія іншыя спектаклі, паказаныя тэатрам на мінулагоднік гастролях у Мінску, толькі спарадзілі высноўу, што коласаўскай трупе больш блізкімі да ўвасаблення з'яўляюцца не вобразы А. Стрындберга ("Фрэкен Юлія") і не персанажы іншай еўрапейскай драмы, а героі Г. Марчука ("Варвара і яе блудны муж") — звычайныя беларускія мужчыны і жанчыны, штодзённыя праблемы і страсці якіх сугучныя і блізкія выканаўцам.

...Здаецца, бясконцую колькасць год мы спрачаемся пра новыя формы, пра героя новай драматургіі. Сёння як ніколі сучаснаму тэатру патрэбны змены: у рэжысуры, сцэнаграфіі, акцёрскім існаванні. Мы чакаем цуду.

**Вераніка ЯРМАЛІНСКАЯ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**

мы рыхтавалі оперу Афенбаха "Казкі Гофмана", — успамінае Н. Ламановіч. — Спектакль у 1983-м быў паказаны ў Маскве. Памятаю, як прыйшоў за кулісы са сваім нязменным партфельчыкам Іван Сямёнавіч Казлоўскі і пачаў дзякаваць за выступленне артыстам хору. Ён быў у захапленні ад нюансіроўкі, штрыхавой дысцыпліны, і гэта надало нам упэўненасці ў сваіх сілах".

Яраслаў Вашчак шмат даў ёй у разуменні музычнай драматургіі, у працы са спевамі: ён вельмі добра ведаў прыроду чалавечага голасу. Цёплыя ўспаміны засталіся пра сумесную працу з рэжысёрам Сямёнам Штэйнам...

•

Оперы, пра якія яна марыла, цяпер ідуць на сцэне тэатра: "Барыс Гадуноў" М. Мусаргскага, "Князь Ігар" А. Барадзіна. Гэтыя спектаклі, у якіх хору адведзена вельмі важнае месца і адна з галоўных дзейных асоб — народ, яна ставіла разам з галоўным дырыжорам тэатра Аляксандрам Анісімавым. Масавыя сцэны гучаць эмацыянальна, напоўнена, артысты хору выглядаюць у спектаклях жыва, выразна, пераканаўча.

І памочнікі тут у яе добрыя — хормайстры Галіна Луцэвіч ды Сяргей Аграновіч, якія ўводзяць у спектаклі маладых. З калектывам Ніна Іосіфаўна працуе адна. Дамагацца найлепшых вынікаў ёй дапамагаюць не толькі талент, працавітасць, але і павага, увага да кожнага артыста хору.

Восем гадоў таму яна стала галоўным хормайстрам тэатра. Летась была названа Чалавекам года ў галіне музыкі — адзіная жанчына, удастоеная гэтага высокага гонару. Мае званне заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі. Гэта — афіцыйнае прызнанне. А тое, што сёння ў нашым оперным хоры кадравая стабільнасць, — найлепшы паказчык вялікага аўтарытэту Ніны Ламановіч у калектыве.

Яе калега, інспектар хору Уладзімір Карэва, які сорак гадоў спявае тут, адзначае дабрыню, чуласць, спагадлівасць і, вядома ж, адданасць Ніны Ламановіч сваёй справе, успамінае: "Нам апладзіравала Еўропа. Крычалі: "Брава хору!". Ніна Іосіфаўна стараецца, каб усё, што мы выконваем, было сапраўднай музыкай і ўражвала слухачоў".

Адораных жанчын, Асоб з вялікай літары ў нашай краіне нямала. Але не кожная можа выявіць сябе, прабіцца праз стэрэатыпы патрыярхату і сцвердзіць найлепшыя вынікі. Ніне Ламановіч гэта ўдалося.

**Вера КРОЗ**

КНІГАПІС

# Знаёмай постаці краса

Грэшны чалавек, люблю гартаць, чытаць і перачытваць кніжкі пра акцёраў альбо іхнія мемуарныя споведзі. Асабліва прыцягальныя тыя старонкі, што звязаны з тваім улюбёнцам, якога ты сам — і не адзін раз — бачыў у святле рампы ў лепшых ягоных ролях. І гэтыя фотаздымкі, дзе "Ён" або "Яна" — кумір твой! — у дыхтоўна накінутым плашчы і хвацкім капелюшы набакір ці яшчэ — з-пад таямніча-чорнай вуалі замілаваны бляск звабілых вачэй і спакуслівая ўсмешка пачуццёва абмаляваных вуснаў з абяцаннем пацалункаў... Бывае, і сама такая кніжка ўспрымаецца з тым адчуваннем, якое агртвае цябе, калі ў старэнькім сямейным альбоме ты раптам бачыш здымак, дзе твой ссівелы барадаты дзядуля ўзвышаецца ў цэнтры, а побач утаропіліся ў аб'ектыў твае старэйшыя сёстры і браты, а вось гэта сядзіць, чамусьці з сарамлівым тварам, твая матуля і трымае цябе — малечу — на каленях, і вас з ёю бы ахоўвае твой бацька ў армейскім кіцелі. Зірнеш — і здаецца, зараз ты пачуеш галасы гэтых нерухома застылых перад фатографам тваіх родных...

Не ведаю, чаму мне гэта ўсё прыгадалася, калі я дачытаў да апошняй старонкі невялічкую кнігу Тамары Гаробчанкі "Зінаіда Канапелька". Мо з тае прычыны, што большасць з тых роляў, якія разглядае аўтарка ў рэпертуары слыннай беларускай актрысы, і мне добра помняцца. Пра некаторыя з іх я мог бы сказаць нават больш падрабязна, чым гэта робіць Т. Гаробчанка. І дзякуй ёй за тое, што яе замалёўкі сцэнічных павадзін З. Канапелькі ў такіх каларытных вобразах, як вясковая красуня Насця і пашэкспіраўску дэманічная Ганерылля, базарная баба Міхаліна і ўладарна фанабэрлівая лэдзі Мільфард, і ўвасабленне мацярынскай любові, ахвярнай да сына, — Лявоніха, і карысліва-хітрая мяшчанка Ганна Цалавальнева... Якія розныя, часам, палярныя па сваёй жыццёвай сутнасці характары! І заўсёды і паўсюдна актрыса паглыбляецца ў лабірынты душэўных пакут або сардэчных памкненняў... летуценнай ці скрытага болю... спагадлівай чуласці альбо ўласніцкай зламыснасці... Ну, вядома, больш звыкла гаварыць — пераўвасабляецца ў вобраз, але Т. Гаробчанка прыкладае нямала сіл, каб паказаць нам, чытачам, менавіта паглыбленне актрысы ў сцэнічныя вобразы. Тыя, што я называў вышэй, гэта з такіх розных па сваім драматургічным клімаце п'ес, як "Несцерка" В. Вольскага і "Кароль Лір" У. Шэкспіра, "Трывога" А. Петрашкевіча і "Каварства і любоў" Ф. Шылера, "Лявоніха" П. Даніліна і "Зыкавы" М. Горкага. Мушу пацвердзіць, што падчас гэтых спектакляў у глядзельнай зале часта ўсталёўвалася свяшчэнная для тэатра цішыня, якую ахвочыя да славы акцёры называюць звонкай.

Зінаіда Канапелька зведала творчую асалоду такой — звонкай! — цішыні, якая панавала бывала падчас яе маналогаў альбо ў глыбокіх па змесце паўзах, якія яна бліскуча вытрымлівала ў самыя драматычныя хвіліны жыцця ў вобразе. Яна прымушала і драматургаў, аўтараў тых п'ес, якія пісаліся як для Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, так і для Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа, К. Губарэвіча з І. Дорскім, К. Крапіву, А. Макаёнка, А. Петрашкевіча, І. Шамякіна адчуць гэтае непаўторнае харастсво ў эстэтыцы тэатра — звонкую цішыню.

Як і нястрымнага смеху, калі залу ажно захліствае рогат. Разам з Т. Гаробчанкай я зноў бачу перад сабой у промнях рампы і камічную ў сваіх прэтэнзіях на вялікасвецкія манеры Мару Цвіёвіч ("Доктар філасофіі" Б. Нушыча), і какетліва старамодную крыкуху мадам Разалію Рэнесанс ("Клоп" У. Маякоўскага), і правінцыйную львіцу пані Васар ("Нашчадкі Рабурдэна" Э. Заля). Дарэчы, п'есу Э. Заля я глядзеў вясной шасцідзесятага года, але і праз сорак гадоў без смеху не магу ўявіць сабе постаць інтрыганкі пані Васар...

Праўда, калі быць зусім шчырым, тады трэ было б прызнацца: не заўсёды бываў ад акцёрскай ігры З. Канапелькі ў такім захапленні, як гэта можна падумаць, чытаючы гэты мае нататкі пра кніжку, напісаную таленавітым тэатразнаўцам. Ды ў тым і краса чытаемых старонак: яны пераконваюць цябе ў надзвычайнай здольнасці актрысы быць нязменна і нястомна працавітай у мастацтве. Звяртаюся зноў да камедыйных вобразаў З. Канапелькі. Яны ж былі і сапраўды захапляюча смешнымі не тымі якасцямі, якімі гераіні актрысы валодалі, а тымі, якія яны пнуліся-намагаліся выявіць з саміх сябе і выстaвіць напаказ, для агульнага агляду, хоць самі гроша ломанага не варты. І атрымліваецца, што тая ж мадам Рэнесанс альбо Мара Цвіёвіч блазнуюць, не падазраючы аб гэтым.

Такі дар даецца артыстцы прыродным адчуваннем гумару.

Яшчэ тым падкупляе кніга Т. Гаробчанкі — гэта не так тэатразнаўчай, не так прафесійнай, як па-чалавечы шчырай адданасцю аўтаркі свайму захапленню з юнацкіх гадоў менавіта гэтым артыстычным талентам. Яна не будзе ўтойваць тыя моманты ў прыватным жыцці і ў творчай дзейнасці Зінаіды Ігнатаўны, што завуцца інтымнымі, бо яны сама больш яскрава раскрываюць некаторыя асаблівасці лёсу жанчыны, якая прысвяціла сябе служэнню сцэнічнаму мастацтву. Ёй было ўласціва нешта не надта прыдатнае для лагічнага тлумачэння, калі гаворка ідзе пра акцёрскае рамяство, — беларускі нацыянальны тэмперамент. Яна ведала і даражыла красою роднага слова. Актрыса высокай культуры сцэнічнай мовы і ўнутранай арганічнасці — вось хто такая З. Канапелька. Пераканаецеся ў гэтым, як толькі разгорнеце кніжку Т. Гаробчанкі.

Аўтарка дарэчы і своечасова павядзе вас па незабыўных ваенных пуцявінах Другога БДТ, які да сорак пятага года афіцыйна называўся Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа. Будуць абазначаны і вехі сямейных радасцей і страт Зінаіды Ігнатаўны, драматызм якіх эмацыянальна жывіў некаторыя ролі актрысы. Я помню і дасюль, як адзін віцебскі знаўца, абвяшчаючы застольны спіч у гонар актрысы, выславіў афарызм, здаецца, кагосьці з немцаў: "Мастацтва калі не хлеб, дык, прынамсі, віно жыцця". І сёння чую інтанацыю ейнага адказу на гэта, бачу, як набягала на яе твар маркотная хмарка. Журліва пераліваўся голас Зінаіды Ігнатаўны: "Ой, якое ж гаркавае бывае тое віно, быццам палынны настой! Не дай гасподзь... Ды і хмеліць жа яно душу так, што прагнеш шторaз прыпасці да жыццядайнай для нас, акцёраў, поўнай з краем чашы..."

Чытач кніжкі пройдзе сцежкамі дзяцінства летуценнай Зіначкі. Пераступіць парог Студыі пры Другім БДТ, дзе настаўнікам будучых артыстаў паўстане знакаміты Аляксандр Ільінскі са сваімі паплечнікамі. Мы далучаемся да звыклых у тэатры выпадковасцей, калі дэбютанту выпадае раптоўна замяніць хворага калегу і ён ад бясслоўных роляў адразу пераходзіць да галоўнай. Так З. Канапелька ўпершыню выступіла Паўлінкай у Купалавай камедыі замест слыннай тады Р. Кашэльнікавай і на ўсё жыццё запомніла вечар 31 снежня трыццаць шостага года. Назвы наступных частак гавораць самі за сябе: "Эвакуацыя", "У далёкім Уральску", "На роднай зямлі"...

Я працытую некалькі радкоў з тэксту Т. Гаробчанкі, каб чытач адчуў і гаркоту таго віна, якім лічыцца сцэнічнае мастацтва: "На трэці дзень пасля смерці сына З. Канапелька і Ф. Шмакаў ігралі спектакль. Звычайным людзям гэта можа падацца неверагодным, нават жорсткім. І толькі той, хто служыць у тэатры, ведае: акцёр — гэта не прафесія, а хутчэй лад жыцця, якому самаахвярна падпарадкоўваюцца ўсе асабістыя інтарэсы". Удакладню: тое невыказна тужлівае гора напаткала маладых тады артыстаў, а пазней карыфеяў Коласаўскай сцэны З. Канапельку і Ф. Шмакава ў ваенную пару... удалечыні ад роднага дома... пад халодным небам эвакуацыі.

Я веру ў тое, што добрая кніга — гэта нібыта аконная шыба, праз якую выглядае душа. Героя альбо аўтара. На лепшых старонках нарыса жыцця і творчасці выдатнай нашай актрысы я спрычыніўся да тае душы. Жывы аповед тут спалучаецца з удумлівым аглядам творчых дасягненняў мастака беларускай акцёрскай школы. Ну, а некалькі заўваг па драбнютkіх недарэчнасцях, якія не абмінулі пяра Т. Гаробчанкі, я ёй скажу пры сустрэчы па сакрэце ад чытачоў.

**Барыс БУР'ЯН**

*Т. Гаробчанка. "Зінаіда Канапелька". Нарыс жыцця і творчасці. Мінск. Выдавецтва "Беларуская навука". 1999 г.*

ІМПРЭЗЫ

# "Мамант" будзе жыць!

Гавораць, што маманты вымерлі, але гэта хлусня: яны жывыя! І 18 снежня яны "збегліся" ў Дом пянераў на 5 міжнародны фестываль авангарднай і альтэрнатыўнай моды "Мамант-99". У ім прынялі ўдзел каля 50 маладых беларускіх мастакоў-мадэльераў і гасцей з Рыгі, Масквы, Піцера.

У праграме было пяць намінацый, названых "Дэбош", "Джокер", "Драйв", "Дэтанатар-2001" і "Дзерыбас". Цяжка апісаць, што рабілася на подыуме: па ім хадзілі незвычайныя дагістарычныя жывёлы, насякомыя, птушкі, расліны, анёлы, манахі, маманты... Менавіта такімі ўбачылі гледачы калекцыі пятага фестывалю. З чаго была змайстравана гэтая казка? З усяго: нітак, дроцікаў, паперы, сухіх раслін, фруктаў, тканіны, металу, трубачак, шкляначак і іншага. Асабіста мне спадабаліся калекцыі: "Грын піс" Андрэя Осіпава, "А ранкам яны прачнуліся" Алены Бачтаровай, "Шлях да храма" Вольгі Новікавай, "Геаметрыя" Наталлі Макпакавай, "Няма чаго рабіць унутры" Кацярыны Варонінай і "Індустрыя" Алены Кучко. Госці таксама не схібілі, і сярод іх мне хацелася б выдзеліць за ідэю калекцыю Ларысы і Алы Лазаравых "Я не мяса, я ўзброіў". Але найбольш уразіла мяне калекцыя "Авангардныя стрыжкі" Паўла Яцкевіча, калі на подыум выбеглі мадэлі і нечакана для ўсіх пачалі раскідваць паўсюль дробныя паперкі, прыводзячы гэтым у збянтэжанае шокавае захапленне гледачоў, што сядзелі за столікамі. Такім чынам, гледачы ўмомант атрымалі абяцаныя ў праграме "авангардныя стрыжкі" ад супермайстра, хуткага, спрытнага, смелага. Калі вы жадаеце гэта ўбачыць, сачыце за праграмай БТ.

Самым напружаным момантам для ўсіх была аб'ява пераможцаў фестывалю. У першай намінацыі "Дэбош" перамаглі сёстры Парфяновіч з калекцыяй "Паміж летам і зімой", дзе дамінуючым матэрыялам была саломка. Дарэчы, іх работа "Абярэгі" ўдастоілася Гран-пры на леташнім "Маманце".

У наступнай намінацыі "Джокер" перамагла Вольга Русакова ("Блеф"), а ў трэцяй, "Драйв" — Алена Цакаленка ("Эвакуацыя").

Занадта ж строгае журы дазволіла сабе такое лёгкае "свавольства", вырашыўшы чацвёртую намінацыю "Дэтанатар-2001" пакінуць без пераможцы, сказаўшы ў апраўданне, што гэта дасць падставу мастакам-мадэльерам у наступны раз працаваць на больш высокім узроўні.

А ў апошняй намінацыі "Дзерыбас" перамагла Наталля Цыганкова з калекцыяй "ХХХ" ("ха-ха-ха"). Добрая работа!

І, нарэшце, Гран-пры "Маманта-99" атрымалі Яўгенія Казімірская і Таццяна Касаджыкава за калекцыю "Аленяводы". Не ведаю, ці правільна гэта, бо я ўжо бачыла нешта падобнае ў адным з кліпаў Таццяны Буланавай. Ці мастачкі прыдумалі гэтую калекцыю ў адзін час з мадэльерам спявачкі, ці яны таксама бачылі яе кліп і "натхніліся". Няхай гэта застанецца на сумленні журы.

Пераможцы атрымалі вялікіх футравых мамантаў і падарункі ад спонсараў. Усім астатнім удзельнікам фестывалю раздалі суцяшальныя прызы — маманцянят, намякаючы, што яны яшчэ маюць шанц стаць "вялікімі мамантамі".

На фестываль "Мамант-99" прыехала знаёмая ўсяму свету мадэль Пані Броня (міс Сусвету) — вясёлая бабулька, якая ўлюбёная ў авангардную моду, сучасную музыку і шумныя вечары. Яна з вялікім інтарэсам назірала за тым, што тварылася на подыуме.

Пасля паказу калекцый і раздачы падарункаў былі "танцы ля вогнішча" (дыскатэка). Свята працягвалася да трох гадзін ночы...

**Святлана ЖУРАЎСКАЯ**

# Шукаў сваю дарогу

## З ХРОНІКІ ЖЫЦЦЯ ПАЭТА УЛАДЗІМІРА ХАДЫКІ

У ШМАТДЗЕТНАЙ СЯМ'І ўрадніка Марціна Хадыкі ў вёсцы Дзітва (цяпер Пухавіцкі раён) 21 снежня 1904 г. (па старым стылі) нарадзіўся сын, якога назвалі Уладзімірам. З дзевяцярых дзяцей ён, адзін з малодшых па ўзросце, аказаўся першым у цязе да ведаў. Раней за сяброў-аднагодкаў, яшчэ не пайшоўшы ў школу, Уладзімір пачаў чытаць, пісаць і неўзабаве сабраў нават невялікую бібліятэчку. Не спыніла вучобу ні сусветная, ні грамадзянская войны, а сярод першых настаўнікаў паэта сустрэнем заснавальнікаў "Маладняка" і "Узвышша" Міхася Кудзельку (Чарота) і Язэпа Плашчынскага (Пушчу).

Увосень 1922 года Уладзімір Хадыка па "камандзіроўцы" ЦВК БССР паступае вучыцца на агульнаадукацыйныя курсы ў Мінску. Як потым успамінаў сам паэт, тут, у Мінску, ён і пачаў пісаць свае першыя вершы:

***На палянцы беленькай***
***паясок,***
***Пад сасонкай цененькай***
***верасок.***

***Чмарымі паласкамі***
***Маладняк***
***Будзіць адгаласкамі***
***Золак дня.***

***Пралятае раніца***
***па гаі,***
***Дзіўная, купаецца***
***ў ручаі.***

***Сінімі балотамі***
***сцеле дым...***
***згіну за чаротамі***
***маладым!..***

***Перап'юся содамі —***
***згіну там...***
***Дарма сваю маладасць***
***не аддам.***

Амаль праз паўстагоддзя Варлен Бечык напіша, што "[тут, у Мінску] паэзія [стала] <...> для яго неаддзельнай часткай жыцця, яго галоўнай усепаглынальнай страсцю, самай актыўнай формай удзелу ў жыцці". Ці думаў тады адзін са слухачоў курсаў, што ўсяго праз сем гадоў, ужо вядомым паэтам, у гэтай аўдыторыі ён будзе не слухачом, а выступоўцам разам з Т.Кляшторным і М.Лужаніным чытаць свае вершы...

Пасля заканчэння вучобы У.Хадыка паехаў дамоў, у вёску. Настаўнічаў, удзельнічаў у мастацкай самадзейнасці, пісаў вершы, кіраваў літаратурным гуртком і... "сакратарыў" у Дудзіцкім сельсавеце... Улетку 1925 года Уладзімір атрымаў даволі тоўсты канверт. Крыху хвалюючыся, ён раскрыў яго і прачытаў: "Запрашэнне (мандат № 46 з рашучым правам голасу) на Першы з'езд "Маладняка" (Тут трэба адзначыць, што "рашучым правам голасу" тады быў надзелены не паэт У.Хадыка, а кіраўнік дудзіцкага літгуртка. — **Л.М.**), і асобна: ліст ад Паўлюка Труса: "ці не хопіць [табе] ужо сакратарыць у Дудзіцкім сельсавеце...". Ул. Хадыка вырашае ехаць у Мінск... У сваёй кнізе "Вяртанне ў маладосць" — першых на Бацькаўшчыне ўспамінах пра лёс рэпрэсаваных беларускіх пісьменнікаў, Станіслаў Шушкевіч пісаў: "Перад ад'ездам у Мінск (увосень 1925 г. —**Л.М.)** Уладзімір быў прыемна ўзрадаваны. З вёскі Асакі, дзе паэт калісьці настаўнічаў, былыя вучні прыслалі яму віншаванне. На вокладцы быў намаляваны лаўровы вянок, а ўсярэдзіне яго каліграфічным почыркам былі выведзены чаротаўскія радкі:

***Шмат хто песні складаў***
***пра гаротны наш край,—***
***Апявалі няволю і глум...***
***Ты, пясняр, заіграй, галасней заспявай,***
***Хай загіне адвечны наш сум...***

У 1926 годзе ў кніжніцы (бібліятэцы) "Маладняка" выходзіць першы па вызначэнні А. Вераб'я "выразна маладнякоўскі" зборнічак паэта "Суніцы". Нават у тым, "нэпманаўскім" годзе, калі яшчэ тое-сёе "свабоднае" можна было друкаваць, адзін крытык прадбачліва (і ў двукоссе не ўзяць — асудзяць жа Уладзіміра Хадыку потым за "нацыяналізм") звярнуў увагу на нацыяналістычныя настроі ў вершах пачынаючага паэта... Праз трыццаць гадоў "дальнабачнага" крытыка дапоўніць Л.Салавей: "На раннім этапе літаратурнай творчасці Хадыка часам аддаваў даніну паэтычнаму самалюбаванню, магчыма, празмернаму ўслаўленню душэўнай замкнёнасці і самааналізу, што не магло не адбіцца на ідэйнай якасці яго першых літаратурных спроб...". Пра "класава-палітычную сутнасць" вершаў Хадыкі скажа і А.Звонак: "Уже в начале своего творческого пути Хадыка (захоўваюцца мова і арфаграфія арыгінала. — **Л.М.**) стремился преодолеть риторичность "молодняковской" поэзии, но непонимание поэтом классово-политической сути тех процессов перестройки деревни, которые происходили в конце двадцатых и начале тридцатых годов, часто приводили поэта к архаичности, к зауми, к формалистическим вывертам, к затемненности мысли и сути поэтического образа...".

Інакш выхад "Суніцаў" і зборнікаў іншых маладых, якія ў адрозненне ад цяперашняга часу выходзілі тады адзін за адным, ацаніў "Чырвоны сейбіт" (літаратурны дадатак да газеты "Беларуская вёска", які рэдагаваў Кузьма Чорны): "Сэрца радуецца, чытаючы вершы маладзейшых маладнякоўцаў-пачынальнікаў. Вершы І.Плаўніка, В.Маракова, Ю.Лявоннага, З.Бандарынай, У.Хадыкі, Н.Вішнеўскай і Н.Маркавай сведчаць, што на мастацкім слове папярэднікаў узгадавалася і дужэе новая маладая літаратурная змена, якая даганяе, а часам і перасягае па ўдасканаленасці апрацоўкі, па глыбіні і якасці зместу наша "сярэдняе" літаратурнае пакаленне — першых закладчыкаў часопіса "Маладняк".

Максім Гарэцкі ў першым зборніку У.Хадыкі выдзяляў тры асноўныя матывы: радасць новага жыцця, любоў да Беларусі, яе прыроды і тужлівыя індывідуальныя перажыванні. Далей класік удакладняў: "Лепшыя месцы ў зборніку — у вершах, напісаных пад уплывам імажынізму, але з большаю самастойнасцю... Пазнейшыя вершы У.Хадыкі вызначаюцца своеасаблівай імпрэсіяй, пэўнай настраёвасцю і адшліфаванаю формаю..."

У пачатку сакавіка 1927 года на чарговай перарэгістрацыі "Маладняка" старшынёй аб'яднання зноў выбіраецца М.Чарот, сакратаром В.Сташэўскі. Сярод 60 сяброў аб'яднання быў і Уладзімір Хадыка. 4 красавіка 1927 года ён атрымаў сяброўскі білет — № 22. Трэба адзначыць, што сяброўскі білет "Маладняка" паэт атрымліваў у ваеннай форме, бо ў гэты час служыў у Чырвонай Арміі ў Навазыбкаве (Браншчына).

Сяргей Грахоўскі так апісваў знешнасць "уладальніка дваццаць другога білета": "Падобных на Хадыку за ўсе гады я не сустракаў. Ён быў асаблівы, прыкметны ў любым натоўпе, запамінальны на ўсё жыццё. Вышэй сярэдняга росту, статны, мяккі ў хадзе (ішоў і крышачку спружыніў, ці нават накульгваў), з густымі, як той "снапок аўса", спелымі валасамі, бледна-ружовы твар, глыбокія сінія-сінія вочы і сакавітыя, па-дзявочы чырвоныя вусны. Як і многія тады ён хадзіў з кіёчкам, у шчыгульным, часцей чорным, касцюме, у мяккім шэрым капелюшы, у белай кашулі з крухмальным каўнерыкам. Ніколі яго не бачыў неахайным, расхлістаным, непаголеным. Яго погляд прамяніўся вясёлымі іскаркамі, а як ён звонка смяяўся ад дасціпнага жарту, ад смешнай гісторыі, і сам быў майстра расказаць нешта вясёлае ("расказы" У.Хадыкі выдатна імітаваў Мікола Нікановіч. — **Л.М.**). А калі хваляваўся і гаварыў з запалам, вусны дрыжалі і нервова перарываліся словы...". Павел Пруднікаў дапоўніць, што "Уладзімір Хадыка ніколі не рваўся на трыбуну, каб адстойваць сваю думку. На ўсё пазіраў як бы вачамі староннята сведкі..."

З вершаў Ул.Хадыкі гэтага часу Ніл Гілевіч ("Акрыленыя рэвалюцыяй". 1962 г.) асабліва вылучаў "Штандар чырвоны" (напісаны ў Навазыбкаве) і "Снапок аўса" і адносіў іх "да лепшых узораў інтымнай лірыкі. Першы з іх, — пісаў Н.Гілевіч, — цікавы тым, што па сваіх паэтычных асаблівасцях блізка стаіць да народнай лірычнай песні, хаця ні ў якім разе не з'яўляецца стылізацыяй пад фальклор... [У] другім з названых вершаў <...> мы бачым шчаслівае спалучэнне грамадскага і асабістага, арганічнае і поўнае зліццё двух эмацыянальных струменяў, якія ідуць з розных вытокаў, у адзінае цэлае...":

***Мне сказала маці: выжні***
***Ты цялятам асакі...***
***Калыхаўся ціха здрыжнік***
***Ля блакітнае ракі.***

***Мне сказала маці: туга***
***Натапчы і прынясі...***

***Гаманіла неба з лугам,***
***Гаманіла з лугам сінь.***

***Маці мне сказала: ў хату***
***Ты астатняе усып...***
***Жалі ў полудзень дзяўчаты***
***Недажатыя аўсы.***

***Па балотах і аблонях***
***Я зялёнага шукаў...***
***Сенажаці збілі коні,***
***І пасохла асака.***

***Па дарозе невядомай***
***Беглі кветкі і раса...***
***І да матчынага дома***
***Я прынёс снапок аўса.***



У 1928 годзе У.Хадыка пераязджае ў Мінск (жыве ў маленькім прыватным пакойчыку дома № 12 па Кладбішчанскай вуліцы; як сведчыў С.Грахоўскі, там, бадай, і былі напісаны ўсе яго вершы. — **Л.М.**). Спачатку настаўнічае, потым канчаткова пераходзіць да літаратурнай дзейнасці, спрабуе паступіць ва універсітэт... Але неўзабаве становіцца... сакратаром часопіса "Полымя" ("амаль заўсёды ён хадзіў з вялікім партфелем на два замкі, бо ў ім пэўны час месцілася ўся рэдакцыя "Полымя", а Хадыка быў яе адзіным штатным работнікам", прыгадвае **С.Грахоўскі**) і адначасова пачынае актыўна друкавацца ў "Маладняку", "Звяздзе", "Савецкай Беларусі" і, як паведамляе той жа "Маладняк" (1929, № 7, раздзел "Хроніка"): "піша новую паэму з сялянскага жыцця". Для пацвярджэння актыўнай літаратурнай дзейнасці У.Хадыкі (і не толькі яго) у той час прывядзём некалькі ўрыўкаў з перыёдыкі таго часу: "Уладзімір Хадыка здаў у БДзВ зборнік вершаў "Жвір дарог". "У зборнік (перакладаў на рускую мову, які склаў Ю.Таўбін. — **Л.М.**) уваходзяць вершы: З.Астапенкі, П.Броўкі, А.Куляшова, В.Маракова, П.Труса, У.Хадыкі... Зборнік мае выдаць расійскае выдавецтва "Молодая гвардия", "БелАПП рыхтуе да друку калектыўны зборнік вершаў, які мае выйсці ў серыі "Мастацкае слова — масам". У зборніку будзе прадстаўлена творчасць: Андрэя Александровіча, Паўлюка Труса, Валерыя Маракова, Уладзіміра Хадыкі, Юлія Таўбіна, Аркадзя Моркаўкі, Алеся Звонака, Алеся Вечара, Зінаіды Бандарынай, Сяргея Фаміна, Ізраіля Плаўніка, Станіслава Шушкевіча і Міколы Хведаровіча. Зборнік выйдзе пад рэдакцыяй т.т. Галавача, Гародні, Аляхновіча, Маракова і Вечара".

Ні адзін з падрыхтаваных зборнікаў не выйдзе — заканчваўся 1929 год, апошні год беларусізацыі. Пачынаўся перыяд паэтаў-ударнікаў, паэтаў-камсамольцаў, перыяд маны, паказухі, перыяд арыштаў, арыштаў, арыштаў... Перыяд ударных (і ў канцлагерах таксама) дэкадаў, гадоў, пяцігодак... "Маладняк" у 1930-ым годзе паведамляў:

"Менская філія БелАПП абвясціла ўдарную дэкаду па арганізацыі літаратурных гурткоў на прадпрыемствах.

Па папярэдняй дагаворанасці з ЦСПСБ бюро Менскай філіі БелАПП на сваім пасяджэнні 8 кастрычніка 1930 г. размеркавала ўсіх сваіх пісьменнікаў, для арганізацыі на нашых прадпрыемствах літаратурных гурткоў і практычнай работы ў іх, наступным чынам: <...> Эльвод: Галавач, Таўбін, Хадыка...".

Пра вершы У.Хадыкі гэтага часу Рыгор Бярозкін напіша: "Перасыпаныя дыялектызмамі, туманна і хаатычна пабудаваныя, зашыфраваныя іроніяй, Хадыкавы творы гэтага часу сведчылі перш за ўсё аб ідэйным крызісе паэта: ён не разгледзеў за "круцізной", за накладнымі выдаткамі, калектывізм, яго агромністае гістарычнае значэнне для мільёнаў сялянскіх мас...".

Але хлопцы былі маладыя і, нягледзячы на цяжкія часы, у іх жыцці знаходзілася і месца жарту. Вось як згадвае адзін выпадак С.Шушкевіч: "У вялікім пакоі Дома пісьменнікаў заўсёды было людна. Збіралася сюды большай часткаю літаратурная моладзь. І ў гэты дзень расселіся на канапах Змітрок Астапенка і Максім Лужанін, Уладзімір Хадыка і Сцяпан Ліхадзіеўскі, Валерый Маракоў і Юлі Таўбін. <...> У.Хадыка <...> падмігнуў Лужаніну і Ліхадзіеўскаму і дастаў з кішэні блакнот.

— Пакуль Юлі чытае, дык мы на яго створым пародыю. Максім, першы радок за табой!

Таўбін любіў ужываць словы-абрыўкі, ягоныя вершы часамі стракацелі іншамоўнымі слоўцамі. Пародыя-маланка адлюстравала гэту рысу творчасці Таўбіна. Яна праз некалькі хвілін выцягнулася ў доўгі вершаваны слупок. Калі Таўбін западозрыў, што справа датычыць яго, ён агляну́ўся і добразычліва ўсміхнуўся. Тады Уладзімір Хадыка прачытаў услых <...>:

***Снег выпаў і растаў...***
***Прыходзіць Юлі Та...***
***І Куляшоў Арка...—***
***Запеў "пракляцием ка"...***
***Паперай непатрэ...***
***Набітыя партфэ...***
***І я ў сваім дварэ***
***Ні "бэ", ні "мэ", а "фэ".***
***І я цяпер, сябры,***
***Пішу сваю "Таўры" ("Таўрыду")***
***Выконваю "Экза"...***
***(назва нізкі вершаў "Экзамен")***
***І галасую за***
***Літаратуру пра-***
***Летарскага нутра.***
***Ура! Сябры, ура!***
***Свае я клясы кля... (клясык)***
***Яе працую для,***
***Як клясык дужых клякс***
***На ўвесь свой дужы бас:***
***Es lebe Faterland? (Няхай жыве радзіма)***
***І я — яе enfant? (дзіця)***
***І Астапенку Змі***
***Мяне не падкузьміць.***

Пародыю падпісалі псеўданімам "Лухалі": Лу(жанін) Ха(дыка) Лі(хадзіеўскі).

Валеры Маракоў, сакратар рэдакцыі часопіса "Чырвоная Беларусь", забраў з сабою пародыю, і яна неўзабаве была змешчана ў адным з чарговых нумароў часопіса".

У пачатку 1930-х гадоў удзельнік "Узвышша" (так паэт назваў сябе ў канцы 1936 г. на адным з допытаў у "амерыканцы"; хоць Кандрат Крапіва ў "ЛіМе" ад 31 сакавіка таго ж года пісаў іншае: "Хадыка не быў ва "Узвышшы", але ўплыў узвышаўскай паэтыкі ён на сабе адчуваў... і цяпер яму гэта перашкаджае...") Уладзімір Хадыка разам з другім узвышэнцам Лукашам Калюгам дапамагае ўладкавацца на працу стыльрэдактарам у газету "Савецкая Беларусь" былому выпускніку "гнязда нацдэму", — Мінскага Белпедтэхнікума — а цяпер студэнту яшчэ аднаго "гнязда нацдэму", — Мінскага Вышэйшага Белпедінстытута — Уладзіміру Дудзіцкаму. У часопісе "Маладняк" адразу з'яўляецца наступнае паведамленне: "За адрыў ад работы БелАПП, за сыстыматычныя п'янкі выключаны з БелАПП Хадыка і Шалай".

Нягледзячы на "адрыў ад работы", у 1932 годзе выходзяць "Выбраныя вершы" У.Хадыкі. Узвышанскі крытык Ізідор Плашчынскі пісаў тады: "Нішто іншае, як адсутнасць класавага разумення мінулага Беларусі, прыводзіць Хадыку да канстатацыі толькі нацыянальнага ўціску яе, і ён зусім не заўважае класавых супярэчнасцяў у самой Беларусі, што ў сваю чаргу прыводзіць да нацыянальнай абмежаванасці, да пазіцый нацыянальных дэмакратаў, якія так старанна ўслаўлялі Беларусь наогул, свядома абыходзячы класавы антаганізм унутры Беларусі".

Пра супрацьпастаўленне нацыянальнага класаваму не забыў і А.Кучар ("Полымя рэвалюцыі", 1932, № 2): "У паэтычных работах Уладзіміра Хадыкі элементы буржуазна-нацыяналістычнае ідэалогіі займелі даволі значнае месца. Яны (нацыяналістычныя элементы) выяўляліся ў абстрагаванні Беларусі (у паэзіі) ад працэсаў класавага змагання, якія на справе адбываліся ў краіне, ды выражаліся яны ў паэтычным наказе беларускага народу, які нібыта ўвесь ад веку і аж да цяпер пакутаваў, прыгнятаўся, што "ад веку яе нашу родную" Беларусь, "калечыў раз'юшаны" польскі пан і жандар:

***У балоце жабрачкай галоднаю***
***Яна памірала ад ран.***

*(Працяг на стар. 14—15)*

## Засталіся ў гісторыі

**У даваенныя гады пры панаванні буржуазнай Польшчы ў Заходняй Беларусі існавалі забароны на родную мову, культуру і адукацыю. Але людзі стараліся супрацьстаяць гэтаму. Вакол дзячка скідзельскай царквы Сінельніка збіралася моладзь, каб паспяваць не толькі рэлігійныя, але і народныя песні. "Памятаю, — расказвае былая**



**удзельніца хору Валянціна Саўрук, — што мы збіраліся ля маленькай хаткі па вуліцы Палявой, а цяпер 17 верасня, якая належала Марыі Каўшоўскай, у якой жыў на кватэры Сінельнік. Сярод беларускіх песень нам вельмі падабалася "Ці свет, ці світае". Спявалі і іншыя, але большасць — рэлігійных. У хатах многіх нашых месцічаў таксама збіраліся людзі, каб падрыхтаваць спектакль і выступіць з ім перад гледачамі ці паслухаць вершы на роднай мове".**

**Калі Заходняя Беларусь увайшла ў склад БССР, людзі пацягнуліся ў агульнаадукацыйную школу, гурткі мастацкай самадзейнасці. Захапленне роднай культурай было настолькі масавым, што прывяло да стварэння хору, у які ўвайшлі людзі маладога і сярэдняга ўзросту, і не толькі са Скідзеля, але і з навакольных вёсак. Неўзабаве, дзякуючы свайму кіраўніку Віжэўскаму, хор набыў вялікую папулярнасць не толькі ў раёне, але і ў Гродзенскай вобласці. Ён нават выйшаў на рэспубліканскі конкурс-агляд, дзе заваяваў першае месца і атрымаў права ўдзельнічаць ва ўсесаюзным конкурсе-аглядзе. Але ж час паездкі ў Маскву на Усесаюзны конкурс-агляд адцягваўся. Чаму? Жыхары Заходняй Беларусі ў тую пару яшчэ лічыліся людзьмі другога гатунку, якім не давяралі. Нават існавала памежжа: каб перайсці з Заходняй Беларусі ва Усходнюю, трэба было мець пропуск. Многія таленавітыя ўдзельнікі хору не змаглі трапіць нават у Мінск на рэспубліканскі агляд, бо "не выклікалі даверу".**

**Як жа склаўся лёс самадзейных харыстаў? Многія загінулі ў гады Айчыннай вайны на фронце, у фашысцкіх лагерах смерці... Не вярнулася з вайны і салістка Марыя Барысава, якая эвакуіравалася на ўсход, працавала трактарысткай на палях Мардовіі, затым добраахвотна пайшла на фронт. Падчас выканання спецзадання за лініяй фронту, у тыле ворага, у Хойніцкім раёне Гомельшчыны была схоплена фашыстамі і закатавана. У гонар яе подзвігу на магіле ў вёсцы Глінішча ўстаноўлены помнік.**

**Да гэтых часоў дажылі толькі дзве актыўныя ўдзельніцы хору Валянціна Саўрук і Марыя Карніла, якія жывуць у Скідзелі. Многія дзесяцігоддзі пераемнікам таго калектыву былі хоры калгаса "Скідзельскі" і Палаца культуры горада, але вось ужо некалькі гадоў, як яны перасталі існаваць, ёсць толькі нешматлікія вакальныя жаночыя і мужчынскія групы. Дый то, паяўць тут людзі сталага ўзросту, моладзь чамусьці да мастацкай самадзейнасці не горнецца...**

**Ілья БАРЫСАЎ,**
**грамадскі краязнаўца**

*Гродзенскі раён*

*На здымку: салістка хору Марыя Барысава.*

*Фота з асабістага архіва аўтара*

# Шукаў сваю дарогу

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

"Калечыў яе" і расійскі п"яны ўраднік.

У развагах такога характару ёсць элементы нацыяналістычных поглядаў на Беларусь, як на краіну, якая была распята *крыжавым расійскім і польскім агнём, сама* безабаронная, прыгнечаная.

У паэзіі Хадыкі вельмі часта выступае рэзкае супрацьстаўленне нацыянальнага класаваму. Элементы буржуазнага нацыяналізму праяўляюцца і яны звязаны з усёй ідэалістычнай філасофскай і адыёвай асновай паэзіі Хадыкі..."

Па-іншаму ўспамінаў той час у часопісе "Шыпшына" Юрка Віцьбіч: "У залі (Дома пісьменніка для агульных паседжанняў. — **Л.М.**) адбывалася якраз агульнае паседжанне, прысвечанае абгаварэнню сталінскае канстытуцыі. Адсутнічаць на такім паседжанні не рэкамендавалася. Таму ўнізе ў рэстаране за адным з ягоных столікаў сядзелі толькі Алесь Дудар, Уладзімер Хадыка і Валеры Маракоў. Алесь Дудар незадоўга перад гэтым вярнуўся з ссылкі, якую адбываў за свой верш "Вецер з Усходу" (А.Дудар быў высланы ў ссылку за верш "Пасеклі наш край папалам...". — **Л.М.**). Праз некалькі год пазней (29.10.1937. — **Л.М.**) яго расстраляюць. Таксама праз некалькі год жорсткая скала на Беразе Байкала раздушыць у часе выбуху савецкага катаржніка Уладзімера Хадыку (12 траўня 1940 года. — **Л.М.**). Звар'яцеў у адным з сібірскіх лагераў Валеры Маракоў (расстраляны разам з Алесем Дударом, іншымі пісьменнікамі. — **Л.М.**). А тады яны моўчкі пілі горкае піва. Час ад часу да іх даляталі зверху выкрыкі Клімковіча (Неўзабаве Міхась Клімковіч стане сакратаром СП БССР. — **Л.М.**):

"Вялікі Сталін... Адзіная ў свеце канстытуцыя... Вялікі брацкі рускі народ...

Маракоў адштурхнуў убок кухаль і, прыцягнуўшы да гары руку, амаль шэптам прыгадаў Блока:

***Ты будешь доволен собой и женой***
***Своей конституцией куцей,***
***А вот у поэта всемирный запой***
***И мало ему конституций.***

Нечакана адчыніліся дзверы і ўвайшоў Янка Купала. Ён прыйшоў не з залі, бо на ягоным паліто яшчэ не паспелі растаяць сняжынкі. Трох маладзейшых паэтаў агарнула радасць. Яны цяпер тут не адны. З імі Янка Купала. Яны сустрэлі яго з тэй непаўторнай цеплынёй, з якой сустракалі толькі Янку Купалу. Крыху счакаўшы, Уладзімер Хадыка звярнуўся да яго з просьбай:

— Дзядзька Купала, прачытайце нам што-небудзь сваё новае.

І Купала прачытаў першы раздзел свае новае паэмы "Над ракой Арэсай". Паэма была прысвечана будаўніцтву камуны ў Палессі і з'яўлялася спробай паэты зразумець савецкую рэчаіснасць. Тры маладзейшыя паэты ніколі яшчэ нічога не чулі больш убогага па форме і па змесце. Ім стала сумна і страшна. Ім сталася балюча за Купалу. Скончыўшы, ён запытальна паглядзеў на іх, што стараліся не глядзець яму ў вочы. Яны вельмі любілі Купалу, каб сказаць яму няпраўду. І тады ён хутка ўстаў:

— Дзякую за шчырасць, — падняўшы руку да паверхаў дадаў, — а там ёю захапляюцца.

І раптам, ужо ўзяўшыся за клямку дзвярэй, звярнуўся да Алеся Дудара, прыгадаўшы радкі з ягонага верша:

***Ішлі людзі праз Себеж на захад,***
***Не згубіўшы,шукалі чагосьці.***
***І пад замчышчам сохнуць і чахнуць***
***Беларускія белыя косці.***

Ніхто ніколі не бачыў, каб мужны, нягнуткі, зацяты Алесь Дудар плакаў..."

Недзе ў гэты час паэт пазнаёміўся (па ўспамінах П.Пруднікава не абышлося тут і без усюдыіснага А.Кучара) з буфетчыцай Дома пісьменніка Франяй Пушкарэвіч. Неўзабаве маладыя пажаніліся. Нарадзіўся сын, якога назвалі (верагодней за ўсё дамаганнямі жонкі), як і бацьку — Уладзімір.

18 студзеня 1933 года "ЛіМ" друкуе эпіграму Міхася Багуна на Уладзіміра Хадыку:

***Калі да ягіні***
***Прычэпіцца ярчук***
***Ды ў штроп шындзёлаў***
***Забярэцца граца,***
***Тады здаецца мне:***
***Я гвалтам закрычу***
***І закажу дзесятаму***
***За мошаст вершаў брацца.***



*На фотаздымку група беларускіх і расійскіх пісьменнікаў: Марк Коласаў, Фёдар Гладкоў, Алесь Некрашэвіч, Багданаў, Пятроў-Груман, Васіль Сташэўскі, Уладзімір Кірылаў, Рэст, А. Александровіч, В. Маракоў, М. Лынькоў, Ул. Хадыка, К. Чорны.*



УСЕБЕЛАРУСКАЕ
АБ'ЯДНАНЬНЕ
ПОЭТАЎ І ПІСЬМЕНЬНІКАЎ
„МАЛАДНЯК"

ЦЭНТРАЛЬНАЕ БЮРО

г. Менск

СЯБРОЎСКІ БІЛЕТ № 22
Прозьвішча Хадыка
Імя, імя бацькі Уладзімер
Час уступленьня 192 г.
Выдан 192 г.

У радках, магчыма, намякаецца на тое, што У.Хадыка пасля жаніцьбы пакінуў ТАВІЗ. Дарэчы, пра гэтую суполку больш падрабязна можна даведацца з ліста таго ж Ю.Віцьбіча да крытыка Ант.Адамовіча (датаваны 5 снежня 1951г.): "Вас цікавіць ТАВІЗ. Пасля расшыфроўкі атрымліваецца вельмі празаічна — Таварыства Аматараў Выпіць і Закусіць. Па сутнасці, гэта штосьці накшталт спробы арганізацыйна аформіць беларускую багему. Вынаходнікам самое назвы ёсць Міхась Багун. Гэтая назва неаднойчы прыгадвалася і ў друку, і на пасяджэннях, і ў пратаколах гэтых пасяджэнняў. У склад ТАВІЗа ў розныя часы, або адначасна, уваходзілі Тодар Кляшторны, Уладзімір Хадыка (да жаніцьбы), Васіль Каваль, Алесь Дудар, Міхась Багун, Валерый Маракоў, Эдуард Самуйлёнак (да хваробы), Сяргей Дарожны і іншыя. Збіраліся звычайна або ў каго-небудзь на кватэры (пераважна ў Багуна), або ў 2-ой гасцініцы, калі я прыязджаў з Віцебска, або ў шашлычнай на вул. Камсамольскай, або ў маленькай піўнушцы — уніз па вуліцы Савецкай, або (у крайнім выпадку) у сутарэнні Дома пісьменніка, дзе меўся пэўны час рэстаран. У *сувязі з апошнім меў непрыемнасць*: у адказ на заўвагу Эдуарда Самуйлёнка — "пагрэбок Аўэрбаха" — заўважыў: "А можа, паграбок Авербаха?". У той жа дзень меў афіцыйную сустрэчу з Андрэем Александровічам, які давodзіў мне геніяльнасць Леапольда Авербаха.

Беларуская багема, бадай, нічым не адрознівалася ад багемаў іншых нацыянальнасцяў. Яна з'яўлялася пратэстам супраць існуючага "пракруставa ложа". На пасяджэннях багемы без старшыні і сакратара за кухлем ці кілішкам чыталіся творы, якія пісалі для сябе, а не для друку. Тут кожны адчуваў сябе самім сабой, тут скідваліся тыя "маскі", пра якія прыгадваў Язэп Пушча. ТАВІЗ праіснаваў да самай вайны, а мне здаецца, што ён існуе і сёння".

7 кастрычніка 1933 года на пасяджэнні калегіі часопіса "Полымя рэвалюцыі" сумесна з актывам пісьменнікаў разглядалася нізка вершаў У.Хадыкі "Грынём". Першым у спрэчках выступіў **Якуб Колас**: "У вершах ёсць шмат вельмі прыгожых строф, але ёсць цэлы шэраг строф палітычна не верных. Для шырокага круга чытачоў падаваць гэту паэму не варта...". Амаль цалкам з думкай Я.Коласа згаджаецца **Аркадзь Куляшоў**: "Хадыка спрабуе адрачыся ад старога, *але гэта яму дрэнна ўдаецца.* Абсалютна няправільная і шкодная такая ўстаноўка, якую Хадыка выказвае словамі:

***"Прыду на ўздолены ўскраек,***
***Дзе многа дум і мала нас"***

**Платон Галавач** зазначае: "Гэтая нізка не сведчыць пра пералом у творчасці Хадыкі. Паэт яшчэ шукае дарогі..." Жорстка крытыкуе вершы паэта **Кандрат Крапіва**: "Хадыка пяе адходную мінуламу, але гэтая адходная прасякнута сумам шкадавання... Друкаваць вершы нельга...". З такою ж крытыкай выступіў і **Андрэй Александровіч**: "Гэта евангелія XII стагоддзя з цітламі. Хадыка, як мы ведаем, быў пад вялікім уплывам нацыянал-дэмакратычных ідэй. Шкоднасці гэтых ідэй Хадыка, відаць, не зразумеў яшчэ і цяпер... Друкаваць вершы нельга...". У такім жа духу выступіў **Міхась Лынькоў**: "Вершы Хадыкі гавораць аб дробна-буржуазным уяўленні нашай рэчаіснасці, пра няправільнае разуменне нашага літаратурнага руху і яўныя нацыяналістычныя ўстаноўкі ў мове..." Вынік падвёў **Зарэмбоўскі**: "Зразумела, што такія вершы ў часопіс пайсці не могуць..." У адказ У.Хадыка зазначыў, што лепш будзе, калі ён замест гаворак возьмецца адразу за працу...

Улетку 1934 года У.Хадыка стаў сябрам СП Беларусі. Магчыма не апошнюю ролю тут "згуляла" рэцэнзія М.Ларчанкі "Пра паэзію ў "Полымі рэвалюцыі", якую 12 лютага таго года надрукаваў "ЛіМ": "Уладзімір Хадыка з'яўляецца здольным паэтам-лірыкам. У мінулым яго лірыка была буржуазна-нацыяналістычная, рэакцыйна-рамантычная. Цяпер, пад уздзеяннем сацыялістычнай рэвалюцыі, Хадыка перабудоўвае свой творчы метад, парывае са сваёй старой лірыкай, якая замыкалася ў вузкаабмяжованае і нацыяналістычнае кола рэакцыйнага жадання і мар...".

У 1935 годзе выходзіць трэцяя, апошняя прыжыццёвая, кніга У.Хадыкі "Радасны будзень". У кнізе змешчаны вершы, напісаныя ў 1927—1934 гг. На выхад зборніка адразу адгукнулася некалькі крытыкаў. І.Плашчынскі пісаў: "Няма нічога горшага сёння, як пакаёвы голас у паэзіі. А ў зборніку "Радасны дзень" побач з адзначанымі вершамі (дзе "адчуваецца непадзельная еднасць са светам сацыялізму". — **І.П.**) ёсць і зусім адменныя, у якіх якраз гэты пакаёвы голас чуваць, — гэта яшчэ рэшткі ўчарашняга дня...". Алесь Кучар: "У самыя суровыя дні нашага змагання супраць буржуазнага нацыяналізму (напрыклад, у гады 1930—1932) Уладзімір Хадыка не толькі не дапамагаў **нам** у барацьбе, а сам быў пад значным уплывам нацыяналістаў. І вось толькі ў гады 1934—1935 у паэта з'яўляюцца грозныя словы супраць нашых ворагаў, супраць нацыяналістаў..."

Нягледзячы на "грозныя словы" ў наступным 1936 годзе У.Хадыку ў друку ўспамінаюць мабыць часцей за ўсіх, як "неперабудаваўшагася". Прывядзём некалькі цытатаў з "ЛіМа".

**А.Александровіч** ("ЛіМ". 27 лютага): "Усе жыццёвыя з'явы, якія адбыліся ў нашай краіне, хвалююць беларускіх паэтаў. Няма ніводнай значнай падзеі, ускалыхнуўшай нашу радзіму, каб беларускія паэты на яе не адгукнуліся. Але гэта мала датычыць Уладзіміра Хадыкі..." **П.Броўка**: "У Хадыкі няма выразнай тэндэнцыйнасці ў паэзіі, скажам, такой тэндэнцыі, якая пасля пра-

чытанага твору зараз жа прымусіла б чалавека рабіць вынікі. Мне здаецца, што над гэтым і трэба яму папрацаваць...” **П.Хатулёў**: “Калі Ул.Хадыка і пашырыў кола сваіх тэм, калі ідэйна ў некаторай ступені адышоў ад сваіх нацыяналістычных настрояў, гэта не азначае, што адыход быў арганічны. Новы свет *паэт яшчэ бачыць праз акуляры* старой вобразнай сістэмы...” **С.Куніцкі**: “Мы павінны гаварыць не пра тое, што ў Хадыкі не на месцы некалькі радкоў, а пра тое, што ён няправільна ў большасці твораў зборніка “Радасны дзень” успрымае рэчаіснасць, што ў большасці яго вершаў адсутнічае ясна выражаная ідэя... Паэзія Хадыкі нясе на сабе вялікі нацыянальны груз...” **М.Карпачоў**: “Хадыка... павінен... паважаць чытача, які любіць савецкую паэзію...”

У ноч з 19 на 20 лістапада 1936 года “у цэмру завулка Даўгабродскай вуліцы (дом № 25, кватэра № 4. — **Л.М.**) уляцела легкавая машына. Згаслі фары. Тры ліхтарыкі асвяцілі брамку, а пасля сцежку аж да самага ганка драўлянага домікa. У дзверы пастукалі:

— Тут пражывае Уладзімір Мартынавіч Хадыка?

Гаспадару хаты ў далікатнай форме быў прад'яўлены ордэр на права вобыску і арышту.

— Гэта нейкая памылка. Я не зрабіў злачынства перад Радзімай...

— Мы нічога вам не парадзім. Аб гэтым вы даложыце следчаму, пракурору, суду, але не нам...” (С.Шушкевіч. Вяртанне *ў маладосць. Мн., 1968*).

Пасля арышту паэта з кватэры, дзе ён жыў, выгналі яго маці і яна пайшла па людзях шукаць прытулку...

З пратакола вобыску Хадыкі Уладзіміра Мартынавіча (захоўваецца правапіс арыгінала):

**При обыске изъято:**

черновики литературных работ с 1925 по 1936 гг.

письма;

книг — 237 штук (З.Астапенка, М.Багун, С.Баранавых, М.Богданович, Ю.Віцьбіч, А.Гародня, Ц.Гартны, П.Глебка, А.Гурло, А.Гарун, С.Дарожны, У.Дубовка, А.Дудар, М.Зарэцкий, Ц.Зарэчны, А.Звонак, В.Каваль, Т.Кляшторны, К.Крапива, М.Лужанин, Б.Микулич, В.Маракoв, Я.Пушча, Я.Скрыган, Ю.Таубин, Чарнушевич, Гуриновіч);

журналов: “Маладняк” — 33 экз., “Узвышша” — 35 экз., “Полымя” — 42 экз.

Арыштаваны студэнт 2-га курса БДУ К. на допыце 23 лістапада 1936 года сведчыў: “Ходыко высказывал, что председатель СП Климкович — чуждый белорусской культуре человек, не разбирается в ней и губит литературу... Говорил, что он пишет в своих стихах то, что искренне чувствует и, что если эти стихи не могут сейчас попасть в печать, то придет время, когда стихи сумеют увидеть свет...”.

З пратакола допытаў У.Хадыкі ад 30 снежня 1936 года:

В.Ходыко:

1. Беларусь сможет развиваться только в союзе с Польшей и Литвой, как автономная Белорусская буржуазно-демократическая республика.
2. Рост белорусской культуры в СССР невозможен.
3. Слабую белорусскую культуру давит сильная русская.
4. Поручение А.Александровичу редактировать новый белорусский словарь является страшнейшей ошибкой.

Працягнем вытрымку з успамінаў С.Шушкевіча: “Амаль праз год у будынку Вярхоўнага Суда БССР 3 кастрычніка 1937 года Уладзімір Хадыка, стомлены знявоеннем, стаяў перад суддзёю — старшынёй спецкалегіі Васілём Карпікам.

У.Хадыку задаецца пытанне, ці прызнае ён сябе віноўным у прад'яўленым абвінавачанні.

Хадыка не прызнае сябе віноўным.

Адзін з членаў калегіі спасылаецца, што паэт напісаў контррэвалюцыйны твор “Пастка”, і тут жа заўважае, што гэта вялікае злачынства.

Хадыка адказвае, што твор “Пастка” напісаны не ім, а яго сябрам Сымонам Баранавых, што гэта праўдзівая мастацкая аповесць...

Зноў задаюцца пытанні:

— Вы член Саюза пісьменнікаў? Хто знайшоў смеласць падпісаць вам пісьменніцкі білет?

Хадыка адказвае, што яго білет падпісаны Максімам Горкім.

Канваіры пераглянуліся паміж сабою. На твары суддзі занепакоенасць.

Суддзя загадвае падсуднаму сесці.

Неўзабаве быў прачытаны прыгавор. Уладзімір Хадыка пазбаўляецца на 10 год волі, на 5 год грамадзянскіх правоў...”

Разам з **У.Хадыкам** на розныя тэрміны (ад 8 да 10 гадоў) пазбаўлення волі былі *асуджаны:* **З.Астапенка** (знікне на чужыне), **М.Багун** (загіне на этапе), **А.Звонак** (адбудзе ў канцлагеры і высылцы больш за 15 гадоў), **С.Баранавых** (загіне ў канцлагеры), **С.Дарожны** (загіне ў канцлагеры), **В.Залуцкі** (настаўнік 31 школы г. Мінска, былы дырэктар Дома пісьменнікаў, далейшы лёс невядомы), **С.Знаёмы** (загіне ў канцлагеры), **Б.Мікуліч** (загіне ў ссылцы), **С.Ракіта** (загіне ў канцлагеры), **Я.Скрыган** (адбудзе ў канцлагеры і высылцы больш за 15 гадоў), **С.Шушкевіч** (адбудзе ў канцлагеры і высылцы больш за 16 гадоў), **А.Якшэвіч** (у час арышту працаваў настаўнікам 1-й Мінскай школы)...

Пра апошнія дні Уладзіміра Хадыкі мы ведаем толькі з успамінаў Уладзіміра Клішэвіча і Аўгена Калубовіча. Першы 16 мая 1942 года надрукаваў у “Беларускай газеце” артыкул “Памяці паэта Уладзіміра Хадыкі”, дзе ёсць такое сведчанне: “12 траўня (1940 (?) года. — **Л.М.**) мы выйшлі на працу, — пачаў расказваць ён (нехта М. з Гомельшчыны. — **Л.М.**), — працавалі каля чыгункі, падрывалі скалу, а шчэбень адвозілі на тачках па трапе. Мы з ім працавалі на пару. Толькі ён паставіў яшчэ першую тачку і не паспеў адысці, як... абарваўся са скалы камень і ўпаў на Уладзіміра Хадыку... Ні слова не прамовіў ён. Мы кінуліся ратаваць, адвярнулі камень, але Хадыкі ўжо не стала. Толькі моцна ішла кроў з рота і носа...” У вядомай кнізе А.Калубовіча “На крыжовай дарозе” чытаем такі факт: “Пра У.Хадыку ведама, што свае лагерныя вершы запісваў дробнымі літарамі на цыгарэтнай паперы і зашываў у каўнер бушлата, а Т.Лябяда завучваў свае на памяць. Першага ў 1940 годзе пры падрыве дынамітам скалы на станцыі Ерафей Паўлавіч (Хабараўскі край. — **Л.М.**) *каменная глыба ў вялiкным кар'еры раздушыла насмерць.* Разам з ім загінулі і яго лагерныя вершы”.

У 1956 годзе выйшаў першы пасмяротны зборнік У.Хадыкі. Хоць Р.Бярозкін у рэцэнзіі на яго і зробіць выснову, што “жывое і па-ранейшаму славіць “радасны будзень” нашага часу ўсё лепшае, што стварыў цікавы і таленавіты савецкі паэт Уладзімір Хадыка”, але В.Бечык пра гэта выданне будзе іншай думкі: “Нават цяжка пералічыць усе выпадкі адвольных правак, скарачэнняў, пропускаў, тэкставай блытаніны...”. Адзначым, што не лепшы лёс чакаў і перавыданне Хадыкавых вершаў у 1969 годзе, пасля выхаду якога Ф.Яфімаў зрабіў таксама цікавае падагульненне ў “Нёмане”: “Хадыка мог бы сказать, что все его стихи о революции...”.

У 1957 годзе, верагодна ў “гонар” саракагоддзя кастрычніцкага перавароту і дваццацігоддзя крывавага 1937-га года, У.Клішэвіч напісаў верш “Менская турма”, дзе ёсць і такія радкі:

***Далёкі Усход, нямы і дзікі,***
***Закрыў зямлёй скілет Хадыкі***

Жонка Уладзіміра Хадыкі Франя з маленькім Уладзікам так у чаканні мужа і жыла да пачатку вайны. Пасля акупацыі Мінска немцы завезлі Франю з сынам у гета і праз нейкі час расстралялі.

І апошні ўжо сучасны дакумент, які *хацелася б працытаваць:*

“На просьбу Саюза пісьменнікаў БССР ад 11 мая 1989 “дазволіць азнаёміцца з матэрыяламі архіва КДБ БССР, якія датычацца незаконна рэпрэсаваных у 30-я гады і цяпер рэабілітаваных беларускіх паэтаў С.Астрэйкі, У.Хадыкі, З.Астапенкі, С.Дарожнага, Ю.Лявоннага і В.Маракова, з мэтай выяўлення і публікацыі іх твораў” (просьба падпісана першым сакратаром праўлення СП БССР Н.Гілевічам) атрыманы з КДБ БССР адказ ад 31 ліпеня 1989 года: “Рукапісаў і друкаваных выданняў, у тым ліку і тых, што належаць названым паэтам, у архіўных справах на іх — не маецца”.

Вось так... Рукапісаў, што пісаліся не для тагачаснага друку, а “ў стол”, а значыць, для нас, нашчадкаў, вывезлі некалі разам з *кнігамі поўны “варанок”, а цяпер яны “не маюцца”*. Адкуль жа ім быць, калі першага жніўня 1937 года яны іх спалілі на вялікім вогнішчы ў “амерыканцы”. Тады разам з вершамі Уладзіміра Хадыкі гарэла некалькі дзесяткаў тысяч (!) рукапісаў — гарэла амаль уся спадчына пісьменнікаў “першага прызыву”. Няма чалавека — няма толькі адной праблемы. Няма рукапісу, няма паэтаў, няма гісторыі — няма народа!

**Леанід МАРАКОЎ**

# Уладзімір ШЫЦІК



15 студзеня 2000 года пасля цяжкай працяглай хваробы памёр вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Шыцік.

Уладзімір Мікалаевіч Шыцік нарадзіўся 31 жніўня 1922 года ў горадзе Шклове Магілёўскай вобласці *ў сям'і рабочага.* Вучыўся ў Маскоўскім электратэхнічным інстытуце інжынераў чыгуначнага транспарту (1940-1943), у Куйбышаўскім індустрыяльным інстытуце. У снежні 1944 года вярнуўся ў Шклоў і працаваў тэхнікам-канструктарам на папяровай фабрыцы “Спартак”. У 1949 годзе скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.

Працаваў на розных пасадах у рэдакцыях газет “Сталинская молодежь” (1949—1952), “Калгасная праўда”, “Сельская газета” (1953—1964), “Літаратура і мастацтва” (1965—1966). У 1978—1983 гг. — карэспандэнт “Сельской газеты”.

Першае апавяданне Уладзімір Шыцік апублікаваў у 1952 годзе ў газеце “Сталинская молодежь”. Праз некалькі гадоў убачыла свет на старонках часопіса “Полымя” і *першая аповесць аўтара* — “Назаўсёды”. У далейшым Уладзімір Шыцік апублікаваў і выдаў аповесці “Сосны адшумелі свае” (1960), “Апошняя арбіта” (1962), “Майская раніца” (1963), зборнікі фантастычных апавяданняў і аповесцей “Зорны камень” (1967), “Парсекі за кармой” (1970), “У час не вярнуліся” (1975), “Маскі над абрывам” (1977), а таксама кнігі фантастыкі і дэтэктываў “Другая версія” (1979), “Трансплутонавыя афеліі” (1982), “Левы рэйс” (1983), “Ускосныя доказы” (1985), “Камандзіроўка ў сваім горадзе” (1989), “Падстаўка” (1990) і іншыя.

У жыцці Уладзімір Шыцік быў такім жа сумленным, прынцыповым і звычайным чалавекам, як і героі яго кніг. Актыўны ўдзел ён прымаў у дзейнасці Саюза пісьменнікаў. Шмат дапамагаў творчай моладзі. Яго любілі і паважалі ў пісьменніцкай арганізацыі.

Светлая памяць аб Уладзіміру Мікалаевічу Шыціку як таленавітым пісьменніку і чалавеку высокай маралі і дабрыні назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ПАМЯЦЬ

# Такіх — няма...

А ўсё ж такі ён дажыў да двухтысячнага. Яго бунтоўны дух нібы аспрэчваў катэгарычны прагноз дактароў — праз цяжкі несканчоны сон у рэанімацыйнай палаце.

Ён памёр 12 студзеня.

Не так яшчэ й даўно, у верасні, адзначалі мы 70-гадовы юбілей Яўгена Аляксандравіча. Перад самым новым годам паведамлялі пра ганараванне яго высокай узнагародай, ордэнам Францыска Скарыны... І вось праз-вішча Глебава — у жалобнай рамцы. Тэкст афіцыйнага некралога, які падпісалі два дзесяткі знаных людзей краіны. Ці ўсе яны ведалі Яўгена Аляксандравіча? Яго таленавітую, шырокую і супярэчлівую мастакоўскую натуру? Яго рознабаковую творчасць?

Сёння, калі сэрца журыцца і плача, лепей устрымацца ад шматслоўных успамінаў. Давайце моўчкі прыгадаем яго: неардынарнага вальнадумнага чалавека са шчодрай артыстычнай душою, з невычэрпнай іроніяй і звычайнымі людскімі слабасцямі; кампазітара, які стварыў своеадметную эпоху ў беларускай музыцы 20 стагоддзя; педагога, у клас якога імкнуліся завітаць гадаванцы іншых выкладчыкаў...

Яркіх асобаў у мастацкім жыцці не бывае шмат, *нездарма мы ведаем іх пайменна.* Падобных да Глебава — не было: у гэтым, думаю, сыходзіліся меркаванні яго родзічаў і калег, сяброў і зайздроснікаў.

Яго зямны шлях скончыўся на рубяжы стагоддзяў. Яго музыка пераадолее гэты рубеж.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

*Народны артыст СССР прафесар Яўген ГЛЕБАЎ (здымкі пачатку 80-х) у кулуарах пісьменніцкага з'езда; на занятках са студэнтамі кансерваторыі.*





# Васіль ЛІЦВІНКА:
# "Тое, што фальклор памірае, — фікцыя..."



**— Спадар Васіль, колькі ўжо гадоў вашай перадачы?**

— "Запрашаем на вячоркі" — самая даўгавечная праграма на Беларускім тэлебачанні. Рэгулярна яна выходзіць у эфір ужо 21 год, а разам з нерэгулярнымі выхадамі напачатку — цэлых 25 гадоў.

**— Вядучым вы таксама працуеце дастаткова доўга, прычым, здаецца, пазаштатна?**

— Так. Я ўжо больш за дзесяцігоддзе ўдзельнічаю ў падрыхтоўцы, адборы калектываў і выконваю ролю каментатара "вячорак", а асноўная мая пасада — загадчык навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору Белдзяржуніверсітэта.

**— Цікава, а які рэйтынг маюць "вячоркі" сярод іншых праграм на БТ?**

— Сярод мастацкіх трымаюць першае месца. "Запрашаем на вячоркі" глядзяць пераважна людзі сярэдняга і старэйшага ўзросту. Глядзяць дзеля вяртання ў маладосць, успамінаюць, пераносяцца такім чынам у тую прыгожую атмасферу самабытнасці, глядзяць, бо проста падабаецца. Цікавіцца і несапсаваная рокам ды джазам моладзь у вёсках. Натуральна, гэта вымагае ўдзелу ў праграме маладых калектываў. На Вялікдзень сёлета ў "вячорках" будзе Уздзенская санаторная школа-інтэрнат. На жаль, на БТ тое не зусім разумеюць, што фальклор — гэта наша, спрадвечнае, *а не штучнае, і больш пра*пагандуюць эстраду. Раней мы праводзілі эфіры па паўтары-дзве гадзіны. Нават прамыя. Па чатыры разы на месяц. А цяпер маем на месяц толькі адну перадачу, ды й тое нейкія 30 хвілін. Людзі ў лістах да нас просяць, каб "вячоркі" былі часцей. Памятаю, нехта з Маладзечна напісаў, што цалюткую ноч глядзеў бы. Таму я старшыні Дзяржтэлерадыё сп. Рыгору Кісялю афіцыйны ліст дасылаў, каб хоць два разы на месяц выходзілі. Да таго ж паспрабуй увагнаць у паўгадзіны свята, якое доўжыцца часам ад вечара да самага рання. Гэта эстраднага спевака ці палітыка можна ўціснуць без пэўных страт, а на "вячоркі", прынамсі, гадзіна трэба.

**— Многія лічаць, што на сцэне альбо ў тэлевізійнай студыі аўтэнтычны фальклор выглядае не вельмі натуральна...**

— Здымкі на тэлебачанні — вымушаная мера, калі не ўдаецца выязджаць непасрэдна на месцы. Але мы стараемся здымаць менавіта ў натуральных умовах. Вось з 13-га па 14-га студзеня здымалі "Шчодрык" у мястэчку Воўчын Камянецкага раёна, на радзіме апошняга караля Рэчы Паспалітай Панятоўскага. Дарэчы, тут гэты абрад называецца "Гатуха", ці "Гагатуха". Відаць, першы варыянт ад імітацыйнага выклічніка "іго-го", бо шчадруюць не з казой, а з конікам, альбо ад слова "гатаваць", бо, каб быў шчодры год, нагатаваць трэба шмат розных страў. Другі, больш позні, — ад слова "гагатаць", значыць, весяліцца.

**— А як людзі пачуваюцца перад камерамі? Мабыць, праз няёмкасць ад апаратуры і з'яўляецца некаторая ненатуральнасць?**

— Спачатку бянтэжацца, а потым прывучаем, псіхалагічна разнявольваем. Галоўнае, каб не было нейкай дыстанцыі, каб цябе прымалі за свайго. Здаецца, атрымліваецца, бо я сам вясковага паходжання. Да таго ж мы здымаем пераважна арганізаваныя фальклорныя калектывы, без папярэдніх рэпетыцый і рэжысуры.

**— А ў сродкі разнявалення ўваходзіць ужыванне алкагольных напояў?**

— Калісьці падчас адкрытага эфіру запыталіся, што п'юць на "вячорках"? Сказаць, што гарэлку — п'янства, што ваду — падмануць. Я адказаў: "Што хочуць, тое і п'юць". А наогул "напіліся — зацягнулі" песню — гэта страшная абраза для фальклору. Прыгожа спяваць можа толькі цвярозы чалавек.

**— Ну, а калі трошачкі, для зухаватасці?**

— "Нешта ў горле таранчыць, таранчыць, трэба яго прамачыць, прамачыць". Я сам, калі голас хрыпаціць, а трэба браць высокія ноты, палашчу горла гарэлкай... і выплёўваю потым. Стымуляванне алкаголем у дачыненні да фальклору — такая ж фікцыя, як думка, якой, між іншым, ужо 150 гадоў, што фальклор памірае, што няма пераемнасці. Маўляў, моладзь не хоча спяваць тое, што спяваюць дзяды і бабулі. Але ж маладыя ніколі не спявалі старыя песні, яны звычайна выконвалі прыпеўкі, жартоўныя і любоўныя песенькі. У кожным узросце — уласны рэпертуар. Ад калыханкі, калі гарманічна ўводзяць у свет, — да галашэння, калі праводзяць да дзядоў.

**— Геаграфічна "Запрашаем на вячоркі" ахапілі ўжо ўсю краіну?**

— Засталося прыблізна 3-4 раёны са 118. А "раёнчэмпіён" па з'яўленнях у эфіры — Жыткавіцкі, сэрца Палесся.

**— Вы самі вызначаеце, каго паказаць у праграме, ці вас запрашаюць у госці?**

— Лістоў-запрашэнняў прыходзіць велізарная колькасць. У любую вёсачку на *Палессі накіроўвайся* — усюды табе праспяваюць і патаньчаць. Але мы імкнёмся, па-першае, прадстаўляць усе рэгіёны, па-другое, больш падаваць не стылізаваны горадам фальклор, а вясковыя аўтэнтычныя традыцыі. Карацей, арыентуючыся менавіта на мясцовыя фальклорныя формы, інспіруем, адналяем і папулярызуем абрады.

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

### ЭКРАН

Усё ж надзіва недарэчную іміджавую палітыку праводзіць кіраўніцтва БТ. Паступова скарачаецца эфірны час, альбо проста зачыняюцца самыя папулярныя, так бы мовіць, "глядзельныя" праграмы. Прычым вольнага і нацыянальнага зместу. Кажуць, у бліжэйшым часе знікне "Беларускі хіт-парад" (з вядучай Аксанай Вечар), які прапагандуе ў процівагу расійскай і тутэйшай папсе беларускамоўныя гурты і спрыяе кволаму айчыннаму кліпмейкерству.

*22 студзеня, субота, 9.30* — "КНІГАЗБОР". Перадача складаецца з 4-х сюжэтаў: Алег Лойка раскажа пра поўны збор твораў Я. Купалы; супрацоўніца бібліятэкі Універсітэта культуры Ларыса Доўнар — *пра г*історыка, літаратара, краязнаўцу Аляксандра Ельскага і наогул пра род Ельскіх; кандыдат філалагічных навук Ева Лявонава — *пра вы*данне "Хрэстаматыя. Літаратура народаў свету: 20 стагоддзе"; галоўны рэдактар "ЛіМа" Алесь Пісьмянкоў *пра тое, якім будзе* тыднёвік у новым годзе.

*23 студзеня, нядзеля, 10.55*— "БЕЛАРУСКІ ДОМ". Перадача пазнаёміць з творчасцю бабруйскага мастака-кераміста Анатоля Концуба і персанальнай выставай, наладжанай да ягонага 50-гадовага юбілею; з дзейнасцю музея ткацтва ў Полацку; з цікавай калекцыяй радыёпрыёмнікаў жыхара Верхнядзвінска Мікалая Ахламёнка.

### СІНЕМА

У гэтыя выхадныя завяршаецца Тыдзень польскага кіно, арганізаваны Польскім інстытутам. Прагляд фільмаў, створаных у 96-98 гг., адбываецца ў ДК Трактарнага завода (19.30).

*21 студзеня*— "АМОК" Наталлі Карыньскай

*22*— "ЗЛОДЗЕЙ" Мацея Дэйчара

*23* — "КІЛЕР-ДРУГІ" Юліуша Махульскага

А ў сядзібе ТБМ 22 студзеня, у суботу, у 16.30 і 18.00 можна паглядзець дубляваныя па-беларуску амерыканскія дэтэктыў "Прывід у сталёвай масцы" мультфільм "Жыццё жукоў".



*Новая "Эсмеральда" ў Нацыянальным тэатры балета, як мы і пісалі, падабаецца ўсім...*

*Фота Максіма ПРУПАСА*

### ІМПРЭЗЫ

*30 студзеня* ў к/з "Мінск" — традыцыйная "Рок-каранацыя" за 1999 год. За вашыя 1200—3500 кроўных рублёў будуць граць і "інаугуравацца" "Ляпіс Трубяцкой", "Нейра-Дзюбель", "Новае неба", N.R.M, "Крама", "Уліс", "Крыві", Аляксей Шадзько, "Лепрыконсы" ды іншыя. Зрэшты, лаўрэаты па амаль усіх намінацыях прагназуюцца сёлета досыць проста. Прынамсі, няма сумневу, што "лепшым гуртом" стануць "Крыві", "рок-князёўнай" пасля перапынку Кася Камоцкая, "падзеяй года" — праект "Святы вечар 2000", ад якога ўжо балдзеюць, як ад "Народнага альбома".

*26 студзеня, серада, у 17.00*(Рэвалюцыйная, 15) — этна-гістарычны цэнтр "Явар" сумесна з Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны ладзяць навукова-папулярныя чытанні "Культ вады". Археолагі Эдвард Зайкоўскі і Людміла Дучыц распавядуць пра культавыя беларускія рэкі, азёры, калодзежы, крыніцы. Філосаф, рэдактар часопіса "Крыўя" Сяргей Санько падзеліцца думкамі пра касмаганічную ролю вады як аднаго з элементаў пабудовы сусвету, а Уладзімір Васілевіч пакажа, як паводзіць сябе сярод водных персаналіяў — нячысцікаў ды русалак.

### РАМПА

Нават у самым дарагім беларускім тэатры — Малым Ігара Забары — у параўнанні з МХАТам, што дасць на наступным тыдні ў Мінску тры спектаклі, кошты на білеты боскія: 300-1100 рублёў супраць 2000-7000. А на "Вольнай сцэне" ці Купалаўскім — увогуле мізэрныя: ад 80 да 150 рублёў. Карацей, купляйце і глядзіце беларускае!

**"Вольная сцэна"**

*22 студзеня* — "Містэр Розыгрыш"

*25 і 26*— "Бот і яго шкарпэтка"

*27* — "Лекар паняволі"

*28* — "Паваліўся нехта"

*29 і 30*— "Стомлены д'ябал"

**Рускі тэатр**

*22*— "Раскіданае гняздо"

*25*— "Букееў і кампанія"

*26* — "Ваўкі і авечкі"

*27* — "На залатым возеры"

*28* — "Прыцемкам"

**Малы тэатр**
(у Доме афіцэраў)

*22* — "ART"

*29* — "Камедыя"

**Маладзёжны тэатр**

*22* — "Прыйшоў мужчына да жанчыны"

*23* — "Дзядзька Ваня"

*26*— "Жаноцкая ўзнагарода"

*27* — "Хітрыкі Скапэна"

*28 і 31* — "І зноў Рамэо і Джульета"

**Купалаўскі тэатр**

*22 і 23* — "Князь Вітаўт"

*26 і 27* — прэм'ера "Сон у чарадзейную ноч"

*28* — "Вечны Фама"

*29* — "Касцюмер"

*30* — "Паўлінка"

*31* — "Тутэйшыя"

**Малая сцэна Купалаўскага**

*29 і 30* — "Трыстан і Ізольда"




ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк 20.01. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 312

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12